# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС
СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА
БУДАЎНІЦТВА
С.-ГАСПАДАРКІ

КРАСАВІК



№ 4-5

МАЙ 1930

ВЫДАНЬНЕ
НАРКАМЗЕМУ
І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ
БССР

## З Ь М Е С Т

Стар.

1. *І. Сталін*—Адказы таварышам калгасьнікам . . . . . . . 1
2. *Е. П. Міхасенка*—Да „Дню Лесу“ . . . . . . . . 15

Пытаньні для хутчэйшага вырашэньня

3. *К. Буйніцкі*—Арганізацыя агляду працы ў калгасах і конкурс на лепшы калгас па правядзеньні веснавай сяўбы . . . . . . 19
4. *Д. Ладысеў*—Вучот і кантроль працы ў калгасах . . . . . 25
5. *К. П. Пінчук*—Як уводзіць севазвароты ў калгасах . . . . . 27
6. *Е. К. Алексееў*—Як трэба падыходзіць да пытаньня аб севазваротах у калгасах 28
7. *А. Дзямідовіч*—Пра папары ў саўгасах і калгасах . . . . . 30
8. *Я. Панамарэнка*—Засявайце сэрадэлю . . . . . . . 32

Увага дробнай жывёле.

9. *І. Крывадубскі* і *П. Сяргейчык*—Мясная праблема і трусаводзтва. . . 35
10. *М. Жарын*—Сьцеражыся трыхінозу . . . . . . . 41

Хэмія ў падвышэньні ўраджайнасьці

11. *М. Савіцкі*—Хэмізацыя сельскае гаспадаркі БССР . . . . . 43
12. *М. Гардон*—Што дае хэмічная прамысловасьць сельскай гаспадаркі . . 47
13. *Кесараў*—Пашырым вапнаваньне глебы . . . . . . . 49
14. *В. Філіпеня*—Патрэбен рашучы пералом у справе вапнаваньня . . . 53
15. *М. Драздоў*—Вапна і на пясчаных глебах падвышае ўраджай . . . 54
16. *Гладзіловіч*—Да пытаньня аб вапнаваньні па Віцебскай і Полацкай акругах . 57
17. *Х. Бахцеяў*—Калгасы і саўгасы! Ужывайце торф на ўгнаеньве палёў . . 60

Калгасныя лісты.

18. *В. Самцэвіч*—Больш увагі пытаньню культурна-бытавога абслугоўваньня калгасаў . . . . . . . . . 65
19. *Пятрыкавец*—Яшчэ 80 кіраўнікоў для калгасаў . . . . . 67
20. *К. Петрачук*—Як у нас праходзіць калектывізацыя . . . . 68
21. *Я. Новікаў*—Праца застыла . . . . . . . . 69
22. *Ткач*—Пра калектывізацыю ў Ліпаўскім сельсавеце . . . . . —

Афіцыйны аддзел.

23. Палажэньне аб вытворчых нарадах у калгасах БССР . . . . 70
24. Новыя ільготы калгасам . . . . . . . . 73
25. Конкурс на лепшы калгас па правядзеньні веснавой сяўбы . . . 74
26. Умовы конкурсу на лепшы калгас па правядзеньні веснавой сяўбы . . 75
27. Адозва Саюзу Саюзаў і Калгасцэнтру СССР (аб усесаюзным аглядзе арганізацыі працы ў калгасах) . . . . . . . . . 77
28. Пастанова Белкалгасцэнтру аб усесаюзным аглядзе арганізацыі працы ў калгасах . . . . . . . . . . 78
29. Асноўныя паказчыкі для прэміраваньня калектыўных гаспадарак . . —
30. Абежнік Народных Камісарыятаў Працы і Земляробства БССР і Калгасцэнтру БССР . . . . . . . . . . 80

Цэнтр. бібліотэка Т.С.Г. Інв. № ... 1930


# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 4-5 (10-11) | Красавік-Май | 1930 г.


*І. СТАЛІН.*

## Адказы таварышам калгасьнікам

З газэт вядома, што артыкул т. Сталіна „Головокружение от успехов" і вядомая пастанова ЦК „Аб барацьбе са скрыўленьнямі партлініі ў калгасным руху" выклікалі шматлікія водгукі ў радох практыкаў калгаснага руху. У сувязі з гэтым, я атрымаў за апошні час рад лістоў ад таварышоў калгасьнікаў з патрабаваньнямі адказаць на пастаўленыя там пытаньні. Мой абавязак быў адказаць на лісты ў парадку прыватнай перапіскі. Але гэта аказалася немагчымым, бо больш палловы лістоў былі атрыманы без паказаньня адрасоў іх аўтараў (забылі прысылаць адрасы). Між тым, пытаньні, закранутыя ў лістох, прадстаўляюць вялікую палітычную цікавасьць для ўсіх нашых таварышоў. Апрача таго, зразумела, што я ня мог пакінуць без адказу і тых таварышоў, якія забылі прыслаць свае адрасы. З прычыны гэтага я апынуўся перад неабходнасьцю адказаць на лісты таварышоў калгасьнікаў адкрыта, г. зн. у друку, узяўшы з іх усе патрэбныя для справы пытаньні. Я тым ахватней пайшоў на гэту справу, што меў наконт гэтага простае рашэньне ЦК.

*Першае пытаньне*

### У чым корань памылак у сялянскім пытаньні?

АДКАЗ. У няправільным падыходзе да серадняка. У дапушчэньні гвалту ў галіне гаспадарчых адносін з серадняком. У забыцьці таго, што гаспадарчая змычка з серадняцкімі масамі павінна будавацца не на аснове гвалтоўных мер, а на аснове згоды з серадняком, на аснове саюзу з серадняком. У забыцьці таго, што падставай калгаснага руху ў даны момант зьяўляецца саюз рабочае клясы і беднаты з серадняком супроць капіталізму наогул, супроць кулацтва ў асаблівасьці. Пакуль наступленьне вялося супроць кулацтва ў адзіным фронце з серадняком, усё ішло добра, але калі некаторыя нашы таварышы, ап'янёныя посьпехамі, пачалі няпрыкметна спаўзаць са шляху наступленьня на

кулака на шлях змаганьня з серадняком, калі яны ў пагоні за высокімі процантамі калектывізацыі пачалі ўжываць у адносінах да серадняка гвалт, пазбаўляючы яго выбарных правоў, „раскулачваючы“ і экспрапрыюючы яго,—наступленьне пачало скрыўляцца, адзіны фронт з серадняком пачаў падрывацца і, ясная справа, кулак атрымаў магчымасьць папрабаваць зноў стаць на ногі. Забылі, што гвалт, неабходны і карысны ў справе змаганьня з нашымі клясавымі ворагамі, недапушчальны і загубны ў адносінах да серадняка, які зьяўляецца нашым саюзьнікам. Забылі, што кавалерыйскія наскокі, неабходныя і карысныя для вырашэньня задач ваеннага характару, недапушчальны і загубны пры вырашэньні задач калгаснага будаўніцтва, якое да таго-ж арганізуецца ў саюзе з серадняком.

У гэтым корань памылак у сялянскім пытаньні.

Вось што гаворыць Ленін наконт гаспадарчых адносін з серадняком:

> „Больш за ўсё мы павінны грунтавацца на тэй ісьціне, што тут мэтадамі гвалту па самой сутнасьці справы нічога нельга дасягнуць. Тут эканамічная задача стаіць зусім інакш. Тут няма тэй верхавінкі, якую можна зрэзаць, пакінуўшы ўвесь фундамант, увесь будынак. Тэй верхавінкі, якою ў горадзе былі капіталістыя, тут няма. Дзейнічаць тут гвалтам, значыць загубіць усю справу... Няма нічога больш недарэчнага, як самая думка аб гвалце ў абсягу гаспадарчых адносін сярэдняга селяніна“ (Том XVI, старонкі 150—151).

Далей:

> „Гвалт у адносінах да сярэдняга сялянства прадстаўляе з сябе найвялікшую шкоду—гэта пласт шматлікі, шматмільённы. Нават у Эўропе, дзе ён нідзе не дасягае такой сілы, дзе гіганцка разьвіта тэхніка і культура, гарадзкое жыцьцё, чыгункі, дзе лягчэй за ўсё было-б думаць аб гэтым, ніхто, ні адзін з самых рэвалюцыйных сацыялістых ніколі не прапаноўваў гвалтоўных мер у адносінах да сярэдняга сялянства“. (Том XVI, стар. 150).

Здаецца, ясна.

*Другое пытаньне*

## Якавы галоўныя памылкі ў калгасным руху?

АДКАЗ. Іх, гэтых памылак, прынамсі, тры:

1) Парушылі ленінскі прынцып добраахвотнасьці пры пабудове калгасаў. Парушылі асноўныя паказаньні партыі і прыкладны статут сельска-гаспадарчай арцелі аб дабраахвотнасьці калгаснага будаўніцтва. Ленінізм вучыць, што сялян трэба пераводзіць на рэйкі калектыйнае гаспадаркі ў парадку дабраахвотнасьці, пры пераканаиньні ў перавагах грамадзкае, калектыўнае гаспадаркі перад гаспадаркай індывідуальнай. Ленінізм вучыць, што пераканаць сялян у перавагах калектыўнае гаспадаркі можна толькі ў тым выпадку, калі будзе паказана ім і даведзена на справе, на практыцы, што калгас лепш за індывідуальную гаспадарку, што ён выгаднейшы за індывідуальную гаспадарку, што калгас дае выхад селяніну, бедняку і серадняку, з галечы і жабрацтва. Ленінізм вучыць, што па-за гэтымі ўмовамі калгасы ня могуць быць моцнымі, ленінізм вучыць, што ўсякая спроба навязаць

гвалтам калгасную гаспадарку, усякая спроба насадзіць калгасы ў парадку прымусу можа даць толькі адмоўныя вынікі, можа толькі адштурхнуць сялян ад калгаснага руху.

І сапраўды, калі гэтае асноўнае правіла захоўвалася, калгасны рух даваў посьпех за посьпехам. Але некаторыя нашы таварышы, ап'янёныя посьпехамі, пачалі пагарджаць гэтым правілам, пачалі праяўляць надмерную тарапліваcьць і ў пагоні за высокім процантам калектывізацыі пачалі насаджваць калгасы ў прымусовым парадку.



Калгасьнікі чытаюць артыкул тав. Сталіна „Адказы таварышам Калгасьнікам“ (Калгас „Ленінскі Шлях“, Клімавіцкага раёну).

Ня дзіва, што адмоўныя вынікі такой „палітыкі“ ня прымусілі сябе доўга чакаць. Наспех узьнікшыя калгасы пачалі таксама хутка раставаць, як хутка яны ўзьніклі, а частка сялянства, якая адносілася да калгасаў з вялікім давер'ем, пачала адварочвацца ад іх.

У гэтым першая і галоўная памылка ў калгасным руху.

Вось што кажа Ленін наконт добраахвотнасьці калгаснага будаўніцтва:

> „Зараз наша задача—пераход да супольнай апрацоўкі зямлі, пераход да буйное агульнае гаспадаркі. Але ніякіх прымусаў ад савецкай улады быць ня можа. Ніякі закон да гэтага не прымушае. Сельска-гаспадарчая камуна засноўваецца добраахвотна, пераход да супольнай апрацоўкі зямлі можа быць толькі добраахвотным. Ні найменшага прымусу ў гэтых адносінах з боку рабо-

ча-сялянскага ўраду ня можа быць і законам не дапускаецца. Калі-б хто-небудзь з вас такія прымусы назіраў, дык вы павінны ведаць, што гэта—злоўжываньне, што гэта—парушэньне закону, якое мы ўсімі сіламі стараемся выправіць і будзем выпраўляць". (Том XX, частка II, стар. 320).

Далей:

„Толькі ў тым выпадку, калі ўдасца на справе давесьці селяніну перавагу грамадзкай, калектыўнай, тavailable арцельнай апрацоўкі зямлі, толькі калі ўдасца дапамагчы селяніну пры дапамозе таварыскае, арцельнае гаспадаркі, тады толькі рабочая кляса, якая трымае ў сваіх руках дзяржаўную ўладу, сапраўды давядзе селяніну сваю правільнасьць, сапраўды прыцягне на свой бок моцна і як трэба шматмільённую сялянскую масу. Таму значэньне ўсякага роду прадпрыемстваў па дапамозе таварыскаму, арцельнаму земляробству нельга пералічваць. Мы маем мільёны раскіданых, распыленых у глушы вёсак паасобных гаспадарак... Толькі калі практычна, на вопыце, блізкім для сялян, будзе даведзена, што пераход да таварыскага, арцельнага земляробства неабходны і магчымы, толькі тады мы будзем мець права сказаць, што ў такой вялізарнай сялянскай краіне, як Расія, па шляху сацыялістычнага земляробства зроблен сур'ёзны крок". (Том XVI, стар. 392).

Нарэшце, яшчэ адно месца з твораў Леніна:

„Заахвочваючы таварыствы ўсякага роду, а таксама сельскагаспадарчыя камуны сярэдніх сялян, прадстаўнікі савецкай улады не павінны дапускаць ні найменшага прымусу пры стварэньні такавых. Толькі тыя аб'яднаньні цэнныя, якія праведзены самімі сялянамі, па іх свабодным пачынаньні, і выгады якіх праверены імі на практыцы. Надмерная тарапліваська у гэтай справе шкодная, бо здольна толькі ўзмацніць прадузятую думку сярэдняга сялянства супроць навін. Тыя прадстаўнікі савецкай улады, якія дазваляюць сабе ўжываць ня толькі просты, але хаця-б і ўскосны прымус, у мэтах далучэньня сялян да камун, павінны падлягаць строгай адказнасьці і адхіленьню ад работы на вёсцы". (Том XVI, стар. 159).

Здаецца, ясна. Ці трэба даводзіць, што партыя будзе праводзіць гэтыя паказаньні Леніна з усёй строгасьцю.

2) Парушылі ленінскі прынцып наяўнасьці рознастайнасьці ўмоў у розных раёнах СССР прыстасоўна да калгаснага будаўніцтва. Забылі, што ў СССР ёсьць самыя рознастайныя вобласьці з розным эканамічным укладам і ўзроўнем культуры. Забылі, што сярод гэтых вобласьцяй ёсьць перадавыя, сярэднія і адсталыя вобласьці. Забылі, што тэмпы калгаснага руху і мэтады калгаснага будаўніцтва ня могуць быць аднолькавымі для гэтых, далёка неаднолькавых вобласьцяй.

„Было-б памылкай,—гаворыць Ленін,—калі-б таварышы проста па шаблёне сьпісвалі дэкрэты для ўсіх месц Расіі, калі-б бальшавікі—камуністыя, савецкія работнікі на Украіне і на Доне, пачалі-б без разбору, агулам пашыраць іх на іншыя вобласьці..." бо „мы ня зьвязваем сябе аднастайным шаблёнам, не вырашаем раз назаўсёды, што нашу практыку, практыку цэнтральнай Расіі, можна перанесьці цалкам на ўсе акраіны". (Том XVI, стар. 106).

Ленін гаворыць далей, што:

„Цэнтральную Расію, Украіну, Сібір шаблёнізаваць, падначальваць пэўнаму шаблёну, будзе найвялікшай недарэчнасьцю". (Том XVIII, ч. I, стар. 143).

Нарэшце, Ленін абавязвае камуністых Каўказу, каб яны „зразумелі своеасабліваcьць сваёй рэспублікі ў адрозьненьне ад становішча і ўмоў РСФСР, зразумелі неабходнасьць не кап'яваць нашу тактыку, а абдумана відазьмяняць яе прыстасоўна да разьвіцьця канкрэтных умоў". (Том XVIII, ч. I-я, стар. 200).

Здаецца, ясна.

На падставе гэтых указаньняў Леніна ЦК нашай партыі ў сваёй пастанове „Аб тэмпах калектывізацыі" (гл. „Праўду" ад 6 студзеня 1930 г.), разьбіў вобласьці СССР з пункту гледжаньня тэмпаў калектывізацыі на тры групы, з якіх Паўночны Каўказ, Сярэдняя Волга і Ніжняя Волга могуць у асноўным скончыць калектывізацыю ўвесну 1931 году, іншыя збожжавыя вобласьці (Украіна, ЦЧО, Сібір, Урал, Казакстан і г. д.) могуць яе скончыць у асноўным увесну 1932 году, а рэшта вобласьцяй могуць расьцягнуць калектывізацыю да канца пяцігодкі, г. зн. да 1933 году.

Здаецца, зразумела. А што атрымалася на справе? Аказалася, што некаторыя нашы таварышы, захопленыя першымі посьпехамі калгаснага руху, спакойна забылі аб паказаньнях Леніна і аб пастанове ЦК.

Маскоўская вобласьць у ліхаманкавай пагоні за дутымі лічбамі калектывізацыі пачала арыентаваць сваіх работнікаў на сканчэньне калектывізацыі ўвесну 1930 году, хаця яна мела ў сваім распараджэньні ня менш трох год (канец 1932 году). ЦЧО, не жадаючы „адстаць ад іншых", пачала арыентаваць сваіх работнікоў на сканчэньне калектывізацыі да першай паловы 1930 году, хаця яна мела ў сваім распараджэньні ня менш двух год (канец 1931 году). А закаўказцы і туркестанцы ў сваёй прыткасьці „дагнаць і перагнаць" перадавыя раёны пачалі арыентавацца на сканчэньне калектывізацыі „ў самы кароткі тэрмін", хаця яны мелі ў сваім распараджэньні цэлыя 4 гады (канец 1933 году).

Зразумела, што пры такім хуткім „тэмпе калектывізацыі" раёны, менш падрыхтаваныя да калгаснага руху, у сваёй прыткасьці перагнаць раёны, больш падрыхтаваныя, аказаліся вымушанымі пусьціць у ход узмоцнены адміністрацыйны націск, прабуючы папоўніць нехапаючыя фактары шпаркага тэмпу калгаснага руху сваім уласным адміністрацыйным запалам.

Вынікі вядомыя. Усім вядома тая неразьбярыха, якая атрымалася ў гэтых вобласьцях, і якую прышлося потым разблытваць у парадку ўмяшаньня ЦК.

У гэтым другая памылка ў калгасным руху.

3) Парушылі ленінскі прынцып недапушчальнасьці пераскакваньня праз незавершаную форму руху дастасоўна да калгаснага будаўніцтва. Парушылі ленінскі прынцып—не абганяць разьвіцьцё мас, не дэкрэтаваць рух мас, не адрывацца ад мас, а рухацца разам з масамі і рушыць іх наперад, падводзячы іх да нашых лёзунгаў і палягчаючы іх пераконвацца на сваёй уласнай практыцы ў правільнасьці нашых лёзунгаў.

„Калі петраградзкі пралетарыят і салдаты петраградзкага гарнізону бралі ўладу,—гаворыць Ленін—яны добра ведалі, штодля

будаўніцтва на вёсцы сустрэнуцца вялікія затрудненьні, што тут трэбаісьці больш паступова, што тут прабаваць уводзіць дэкрэтамі, узаканеньнямі грамадзкую апрацоўку зямлі было-б найвялікшай недарэчнасьцю, што на гэта мог пайсьці мізэрны лік сьвядомых, а пераважная большасьць сялян гэтай задачы ня ставіла, таму мы абмяжоўваліся тым, што абсалютна неабходна ў інтарэсах разьвіцьця рэволюцыі: ні ў якім выпадку не выпярэджваючы разьвіцьцё мас, а чакаючы, пакуль з уласнае практыкі гэтых мас, з іх уласнага змаганьня вырасьце рух наперад" (Том XV, стар. 538—539).

Выходзячы з гэтых паказаньняў Леніна, ЦК у вядомай сваёй пастанове „Аб тэмпе калектывізацыі" (гл. „Праўду" ад 6 студзеня 30 г.) прызнаў, што а) галоўнай формай калгаснага руху ў даны момант зьяўляецца сельска-гаспадарчая арцель, што б) неабходна, з прычыны гэтага, выпрацаваць прыкладны статут СЕЛЬСКА - ГАСПАДАРЧАЙ АРЦЕЛІ, як галоўнай формы калгаснага руху, што в) нельга дапусьціць у нашай практычнай рабоце „дэкрэтаваньня" зьверху калгаснага руху і „гульні ў калектывізацыю".

Гэта значыць, што зараз мы павінны трымаць курс не на камуну, а на сельска-гаспадарчую арцель, як галоўную форму калгаснага будаўніцтва, што нельга дапускаць пераскокваньня праз сельска-гаспадарчую арцель да камуны, што нельга падмяняць масавы рух сялян да калгасаў „дэкрэтаваньнем" калгасаў, „гульнёй у калгасы".

Здаецца ясна. А што атрымалася на справе? Аказалася, што некаторыя нашы таварышы, ап'янёныя першымі посьпехамі калгаснага руху, спакойна забылі і аб паказаньнях Леніна і аб пастанове ЦК. Замест арганізацыі масавага руху за сельска-гаспадарчую арцель гэтыя таварышы пачалі „пераводзіць" сялян-індывідуальнікаў проста на статут камуны. Замест замацаваньня арцельнай формы руху, пачалі „абагульняць" у прымусовым парадку дробную жывёлу, птушку, нетаварную малочную жывёлу, жылыя будынкі.

Вынікі гэтай, недазволенай для ленінца, тарапліваьсці вядомы цяпер усім. Устойлівых камун, як правіла, зразумела, не стварылі. Але затое выпусьцілі з рук рад сельска-гаспадарчых арцеляй. Праўда, засталіся „добрыя" рэзалюцыі. Але які ў іх сэнс?

У гэтым—трэцяя памылка ў калгасным руху.

*Трэцяе пытаньне*

## Як маглі ўзьнікнуць гэтыя памылкі і як іх павінна выпраўляць партыя?

АДКАЗ. Яны ўзьніклі на падставе нашых хуткіх посьпехаў у галіне калгаснага руху. Посьпехі часамі кружаць галаву. Яны параджаюць нярэдка надмерную ганарыстасьць і зазнаўства. Гэта асабліва лёгка можа здарыцца з прадстаўнікамі партыі, якія стаяць на чале ўлады. Асабліва такое партыі, як наша партыя, сіла і аўтарытэт якое амаль што няьмерны. Тут зусім магчымы факты камчванства, супроць якога так заўзята змагаўся Ленін. Тут зусім магчыма вера ва ўсемагутнасьць дэкрэту, рэзолюцыі, распараджэньня. Тут зусім рэальная небясьпека абярненьня рэвалюцыйных мерапрыемстваў партыі ў пустое, чыноўніцкае дэкрэтаваньне ў паасобных прадстаўнікоў партыі ў тых ці

ішых кутков нашай неасяжнай краіны. Я маю на ўвазе ня толькі мясцовых работнікаў, але і паасобных абласьнікоў, але і паасобных членаў ЦК. „Камуністычнае чванства,—гаворыць Ленін,—азначае тое, што чалавек, знаходзячыся ў камуністычнай партыі і ня будучы яшчэ адтуль вычышчаным, думае, што ўсе задачы свае ён можа вырашыць камуністычным дэкрэтаваньнем. (Том XVIII, ч. І-я, стар. 384—385).

Вось на якой глебе ўзьніклі памылкі ў калгасным руху, скрыўленьні партыйнай лініі ў справе калгаснага будаўніцтва.

У чым небясьпека гэтых памылак і скрыўленьняў, калі яны будуць працягвацца і надалей, калі яны ня будуць ліквідаваны хутка і канчаткова? Небясьпека заключаецца тут у тым, што яны, гэтыя памылкі, вядуць нас простым шляхам да раздрабленьня калгаснага руху, да разладу з серадняком, да дэзарганізацыі беднаты, да замяшаньня нашых радоў, да паслабленьня ўсяго нашага сацыялістычнага будаўніцтва, да аднаўленьня кулацтва. Гаворачы каротка, гэтыя памылкі маюць тэндэнцыю штурхнуць нас са шляху ўмацаваньня саюзу з асноўнымі масамі сялянства, са шляху ўзмацненьня пралетарскай дыктатуры на шлях разрыву з гэтымі масамі, на шлях разрыву пралетарскай дыктатуры. Небясьпека гэта абазначалася ўжо ў другой палове лютага, у той самы момант, калі адна частка нашых таварышоў, асьлепленая папярэднімі посьпехамі, галопам неслася ў бок ад ленінскага шляху. ЦК партыі ўлічыў гэту небясьпеку і зараз-жа ўмяшаўся ў справу, даручыўшы т. Сталіну даць таварышом, якія зарваліся, папярэджаньне ў спэцыяльным артыкуле аб калгасным руху. Іншыя думаюць, што артыкул „Галавакружэньне ад посьпехаў“ прадстаўляе вынік асабістага пачыну Сталіна. Гэта, зразумела, глупства. Не дзеля таго ў нас існуе ЦК, каб дапусьціць у такой справе асабісты пачын каго-б там ні было. Гэта была глыбокая разьведка ЦК. І калі высьветліліся глыбіня і разьмеры памылак, ЦК зараз-жа ўдарыў па памылках усёй сілай свайго аўтарытэту, апублікаваўшы сваю выдатную пастанову ад 15 сакавіка 1930 году. Цяжка спыніць у часе шалёнага бегу і павярнуць на правільны шлях людзей, якія нясуцца да бездані. Але наш ЦК таму і называецца Цэнтральным Камітэтам Ленінскай партыі, што ён умее перамагаць і не такія труднасьці. І ён перамог ужо гэтыя труднасьці ў асноўным. Цяжка спыніць у такіх выпадках свой бег цэлым атрадам партыі, сваячасова павярнуць на правільны шлях і перастроіць свае рады на хаду. Але наша партыя таму і называецца партыяй Леніна, што яна ўладае выстарчальнай гібкасьцю для перамаганьня такіх труднасьцяй. І яна перамагла ўжо ў асноўным гэтыя труднасьці.

Галоўная справа заключаецца тут у тым, каб праявіць мужнасьць прызнаць свае памылкі і знайсьці ў сябе сілы ліквідаваць іх у самы кароткі тэрмін. Боязьнь прызнаць свае памылкі пасьля захапленьня нядаўнімі посьпехамі, боязнь самакрытыкі, нежаданьне выправіць памылкі хутка і рашуча,—у гэтым галоўная труднасьць. Варта перамагчы гэту труднасьць, варта адкінуць раздутыя лічбовыя заданьні і канцылярска-бюракратычны максымалізм, варта пераключыць сваю ўвагу на задачы арганізацыйна-гаспадарчага будаўніцтва калгасаў, каб ад памылак не засталося і сьледу. Няма ніякіх падстаў сумнявацца ў тым, што партыя ўжо перамагла ў асноўным гэтую небясьпечную труднасьць.

„Усе рэвалюцыйныя партыі,—гаворыць Ленін,—якія да гэтага часу гінулі ад таго, што зазнаваліся і ня ўмелі бачыць, у чым

сіла, баяліся гаварыць аб сваіх слабасьцях. А мы не загінем, бо не баімся гаварыць аб сваіх слабасьцях і навучымся перамагаць слабасьць". (Том XVIII, ч. II, стар. 59). Гэтых слоў Леніна забываць нельга.

*Чацьвертае пытаньне*

## Ці ня ёсьць змаганьне са скрыўленьнямі партыйнай лініі ход назад. Адступленьне?

АДКАЗ. Зразумела, не. Аб адступленьні могуць тут гаварыць толькі людзі, якія лічаць працяг памылак і скрыўленьняў наступленьнем, а змаганьне з памылкамі—адступленьнем. Наступленьне ў парадку награмаджэньня памылак і скрыўленьняў,—няма чаго гаварыць, добрае „наступленьне"... Мы высунулі сельска-гаспадарчую арцель, як асноўную форму калгаснага руху ў даны момант, даўшы адпаведны прыкладны статут, як кіраўніцтва ў рабоце па калгасным будаўніцтве.

Ці адступаем мы ад гэтае справы? Зразумела, не. Мы высунулі ўмацаваньне вытворчай змычкі рабочае клясы і беднаты з серадняком, як аснову калгаснага руху ў даны момант. Ці адступаем мы ад гэтае справы? Зразумела, не. Мы высунулі лёзунг ліквідацыі кулацтва як клясы, як галоўны лёзунг нашай практычнай работы на вёсцы ў даны момант. Ці адступаем мы ад гэтае справы? Зразумела, не. Мы ўзялі яшчэ ў студзені 1930 г. пэўны тэмп колектывізацыі сельскае гаспадаркі СССР, разьбіўшы вобласьці СССР на пэўныя групы і вызначыўшы для кожнай групы свой асобны тэмп. Ці адступаем мы ад гэтае справы? Зразумела, не.

Дзе-ж тут „адступленьне" партыі?

Мы хочам, каб людзі, дапусьціўшыя памылкі і скрыўленьні, адступілі ад сваіх памылак. Мы хочам, каб галавацяпы адступалі ад свайго галавацяпства на позыцыі ленінізму. Мы хочам гэтага, бо толькі пры гэтай умове можна будзе працягваць сапраўды наступленьне на нашых клясавых ворагаў.

Ці азначае гэта, што мы робім гэтым ход назад? Зразумела, не. Гэта азначае толькі тое, што мы хочам весьці правільнае наступленьне, а не галавацяпскую гульню ў наступленьне. Хіба ня ясна, што толькі дзівакі і „левыя" загібшчыкі могуць расцэньваць такую ўстаноўку партыі, як адступленьне.

Людзі, якія балбочуць аб адступленьні, не разумеюць, прынамсі, дзьвёх рэчаў:

1) Яны ня ведаюць законаў наступленьня. Яны не разумеюць, што наступленьне без замацаваньня заваяваных пазыцый ёсьць наступленьне, асуджанае на правал.

Калі можа быць наступленьне пасьпяховым, скажам, у галіне ваеннае справы? Калі людзі не абмяжоўваюцца агульным прасоўваньнем наперад, а стараюцца разам з тым замацаваць захвачаныя пазыцыі, перагрупаваць свае сілы адпаведна са зьмененай абстаноўкай, каб сьцягнуць сілы, падвесьці рэзэрвы. Для чаго ўсё гэта патрэбна? Дзеля таго, каб гарантаваць сябе ад неспадзяванак, ліквідаваць пасобныя прарывы, ад якіх не гарантавана ні адно наступленьне, і падрыхтаваць, такім чынам поўную ліквідацыю ворага. Памылка белапольскіх войск у 1920 годзе, калі ўзяць толькі ваенную старану справы, заключаецца ў тым, што яны пагарджалі гэтым правілам. Гэтым, між іншым, і тлу-

мачыцца, што, дакаціўшыся агулам да Кіева, яны вымушаны былі потым таксама агулам адкаціцца да Варшавы. Памылка савецкіх войск у 1920 годзе, калі ўзяць зноў такі толькі ваенную старану справы, заключаецца ў тым, што яны паўтарылі памылку палякаў пры сваім наступленьні на Варшаву. Тое-ж самае трэба сказаць аб законах наступленьня на фронце клясавага змаганьня. Нельга весьці з посьпехам наступленьне на прадмет ліквідацыі клясавых ворагаў, не замацоўваючы заваяваных пазыцый, не перагрупоўваючы сваіх сіл, не забясьпечваючы фронт рэзэрвамі, не падцягваючы сілы і г. д.

Уся справа ў тым, што галавацяпы не разумеюць законаў наступленьня. Уся справа ў тым, што партыя іх разумее і праводзіць у жыцьцё.

2) Яны не разумеюць клясавай прыроды наступленьня. Крычаць аб наступленьні. Але наступленьне на якую клясу, у саюзе з якою клясаю? Мы вядзем наступленьне на капіталістычныя элемэнты на вёсцы ў саюзе з серадняком, бо толькі такое наступленьне можа даць нам перамогу. Але як быць калі ў пылу прыцягненьня паасобных атрадаў партыі наступленьне пачынае спаўзаць з правільнага шляху і паварочваецца сваім лёзам супроць нашага саюзьніка, супроць серадняка? Хіба нам патрэбна ўсякае наступленьне, а не наступленьне на пэўную клясу, у саюзе з пэўнай клясай? Донкіхот таксама выабражаў, што ён наступае на ворагаў, ідучы ў атаку на млын. Аднак, вядома, што ён разьбіў сабе лоб аб гэтыя, з дазволу сказаць, наступленьні. Відавочна, лаўры Донкіхота не даюць спаць нашым „левым“ загібшчыкам.

### *Пятае пытаньне*

## Якая ў нас галоўная небясьпека—правая ці „левая?

АДКАЗ. Галоўная небясьпека ў нас—правая. Правая небясьпека была ў нас і застаецца галоўнай небясьпекай.

Ці ня супярэчыць гэтае палажэньне пэўнаму тэзісу ў пастанове ЦК ад 15-га сакавіка 1930 г. аб тым, што памылкі і скрыўленьні „левых“ загібшчыкаў зьяўляюцца цяпер галоўным тормазам калгаснага руху.

Не, ня супярэчыць.

Справа ў тым, што памылкі „левых“ загібшчыкаў у галіне калгаснага руху зьяўляюцца такімі памылкамі, якія ствараюць спрыяючую абстаноўку для ўзмацненьня і ўмацаваньня правага ўхілу ў партыі. Чаму? Таму, што гэтыя памылкі выяўляюць лінію партыі ў адваротным сьвятле, значыць, яны палягчаюць справу дыскрэдытацыі партыі,—значыць, яны палягчаюць змаганьне правых элемэнтаў супроць кіраўніцтва партыі.

Дыскрэдытацыя партыйнага кіраўніцтва ёсьць тая самая элемэнтарная глеба, на базе якое толькі і можа разыграцца змаганьне правых ухілістых супроць партыі. Гэту глебу даюць правым ухілістым „левыя“ загібшчыкі, памылкі і скрыўленьні. Таму, каб змагацца з посьпехам з правым апартунізмам, трэба перамагчы памылкі „левых“ апартуністых. „Левыя“ загібшчыкі зьяўляюцца аб'ектыўна саюзьнікамі правых ухілістых.

Такава своеасаблівая сувязь паміж „левым“ апартунізмам і правым ухілізмам. Гэтай сувязьзю і трэба вытлумачыць той факт, што некаторыя „левыя“ часта пагаворваюць аб блёку з правымі. Гэтым-жа

трэба вытлумачыць тое сваяасаблівае зьявішча, што адна частка „левакоў“, якая ўчора яшчэ „праводзіла наступленьне і прабавала калектывізаваць СССР за якіх-небудзь два-тры тыдні, сёньня ўпадае ў пасыўнасьць, апускае рукі і спакойна ўступае поле змаганьня правым ухілістым, вядучы, такім чынам, лінію за сапраўднае адступленьне (бяз двукосьсяў) перад кулацтвам.

Асаблівасьць перажыванага моманту заключаецца ў тым, што змаганьне з памылкамі „левых“ загібшчыкаў зьяўляецца ў нас умовай і сваяасаблівай формай пасьпяховага змаганьня з правым апартунізмам.

*Шостае пытаньне*

## Як расьцэньваць адліў аднэй часткі сялян з калгасаў?

АДКАЗ. Адліў аднэй часткі сялян азначае, што за апошні час нарадзілася ў нас некаторая колькасьць нямоцных калгасаў, якія ачышчаюцца цяпер ад няўстойлівых элемэнтаў. Гэта азначае, што дутыя калгасы зьнікнуць, моцныя застануцца і будуць умацоўвацца. Я думаю, што гэта—зусім нармальнае зьява. Некаторыя таварышы прыходзяць ад гэтага ў роспач, упадаюць у паніку і сударажна хватаюцца за раздутыя проценты; іншыя зларадуюцца і прадракаюць „правал“ калгаснага руху. І тыя і другія жорстка памыляюцца. І тыя і другія далёкі ад марксыцкага разуменьня існасьці калгаснага руху. Выходзяць з калгасаў перш за ўсё так званыя мёртвыя душы. Гэта нават ня выхад, а выяўленьне пустаты. Ці патрэбны нам мёртвыя душы? Зразумела, не патрэбны.

Я думаю, што паўночна-каўказцы і украінцы робяць зусім правільна, калі яны распускаюць калгасы з мёртвымі душамі і арганізуюць сапраўды жывыя і сапраўды ўстойлівыя калгасы. Ад гэтага толькі выйграе калгасны рух. Выходзяць, падругое, элемэнты чужыя, проста варожыя нашай справе.

Ясна, што чым хутчэй будуць вышыблены такія элемэнты, тым лепш для калгаснага руху.

Выходзяць, нарэшце, элемэнты хісткія, якіх нельга назваць ні чужымі, ні мёртвымі душамі. Гэта тыя самыя сяляне, якіх мы яшчэ ня здолелі пераканаць сёньня ў правільнасьці нашае справы, але якіх мы яшчэ напэўна пераканаем заўтра. Выхад такіх сялян прадстаўляе сур'ёзную, хаця і часовую страту для калгаснага руху. Таму змаганьне за хісткія элемэнты ў калгасах зьяўляецца цяпер аднэй з самых пільнейшых задач калгаснага руху.

Выходзіць, што адліў аднэй часткі сялян з калгасаў прадстаўляе ня толькі адмоўнае зьявішча. Выходзіць, што паколькі гэты адліў вызваляе калгасы ад мёртвых душ і проста ад чужых элемэнтаў, ён азначае спрыяючы працэс аздараўленьня і ўмацаваньня калгасаў. Месяц назад лічылі, што мы маем звыш 60 процантаў калектывізацыі па збожжавых вобласьцях. Цяпер ясна, што, калі мець на ўвазе сапраўдныя і колькі-небудзь устойлівыя калгасы, гэта лічба была яўна перавялічана. Калі калгасны рух замацуецца пасьля адліву аднэй часткі сялян на 40 процантах калектывізацыі па збожжавых вобласьцях, а гэта можа быць ажыцьцёўлена напэўна, дык гэта будзе найвялікшым дасягненьнем калгаснага руху ў даны момант. Я бяру сярэднюю лічбу для збожжавых вобласьцяй, добра ведаючы, што ў нас ёсьць пры

гэтым паасобныя раёны суцэльнай калектывізацыі з лічбай 80—90 проц. 40 проц. калектывізацыі па збожжавых вобласьцях гэта азначае, што першапачатковы пяцігадовы плян калектывізацыі мы здолелі выканаць к вясьне 1930 году ў два разы.

Хто адважыцца адмаўляць рашаючы характар гэтага гістарычнага дасягненьня ў справе сацыялістычнага разьвіцьця СССР?

*Сёмае пытаньне*

## Ці добра паступаюць хісткія сяляне, выходзячы з калгасаў?

АДКАЗ. Не, яны паступаюць нядобра. Выходзячы з калгасаў, яны ідуць супраць сваіх-жа ўласных інтарэсаў, бо толькі калгасы даюць сялянам выхад з галечы і цемры. Выходзячы з калгасаў, яны ставяць сябе ў горшае становішча, бо пазбаўляюць сябе тых ільгот і выгад, якія дае калгасам савецкая ўлада. Памылкі і скрыўленьні ў калгасах ня довад для выхаду. Памылкі трэба выпраўляць агульнымі сіламі, застаючыся ў калгасе. Іх тым лягчэй выправіць, што савецкая ўлада будзе ўсімі сіламі змагацца з імі. Ленін гаворыць, што „Сыстэма дробнае гаспадаркі пры таварнай вытворчасьці ня ў стане выратаваць чалавецтва ад галечы мас і прыгнечаньня іх“ (Том XIV, частка І-я, стар. 49). Ленін гаворыць, што: „Дробным гаспадаркам з галечы ня выйсьці“ (Том XVI, стар. 378). Ленін гаворыць, што: „Калі мы будзем сядзець па-старому ў дробных гаспадарках, хаця і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усё роўна пагражае нямінучая пагібель“ (Том XVI, частка І-я, стар. 159). Ленін гаворыць, што: „Толькі пры дапамозе агульнае, арцельнае, таварыскае працы, можна выйсьці з тупіку, у які загнала нас імпэрыялістычная вайна“. (Том XVI, стар, 375). Ленін гаворыць, што: „Неабходна перайсьці да агульнай апрацоўкі буйных узорных гаспадарак, бо бяз гэтага выйсьці з тэй разрухі, з таго проста такі распачлівага становішча, у якім знаходзіцца Расія, нельга“. (Том XVI, частка І-я, стар. 169).

Што ўсё гэта азначае? Гэта азначае, што калгасы зьяўляюцца адзіным сродкам, які дае сялянам выхад з галечы і цемры. Ясна, што сяляне паступаюць няправільна, выходзячы з калгасаў. Ленін гаворыць, што: „Савецкая ўлада надае вялізарнае значэньне камунам, арцелям і ўсякім наогул арганізацыям, накіраваным да ператварэньня, паступовай садзейнасьці гэтаму ператварэньню дробнае, індывідуальнае гаспадаркі ў грамадзкую, таварыскую або арцельную“. (Том XVI, стар. 391). Ленін гаворыць, што: „Савецкая ўлада дала простую перавагу камунам і таварыствам, паставіўшы іх на першае месца“. (Том XV, стар. 618).

Што гэта значыць? Гэта значыць, што савецкая ўлада будзе аказваць калгасам ільготы і перавагі перад індывідуальнымі гаспадаркамі. Гэта значыць, што яна будзе аказваць калгасам ільготы і ў сэнсе прадстаўленьня зямлі, і ў сэнсе забесьпячэньня машынамі, трактарамі, насенным збожжам і г. д., і ў сэнсе аблягчэньня падатковага абкладаньня, і ў сэнсе дачы крэдытаў.

Чаму савецкая ўлада аказвае ільготы і перавагі калгасам? Таму, што калгас зьяўляецца адзіным сродкам выбаўленьня сялян ад галечы. Таму, што пераважная дапамога калгасам зьяўляецца найбольш сапраўднаю формаю дапамогі беднаце і серадняком.

Гэтымі днямі савецкая ўлада пастанавіла вызваліць ад падатковага абкладаньня на два гады ўсю абагуленую рабочую скаціну ў калгасах (коняй, валоў і г. д.), усіх кароў, сьвіней, авец і птушак, што знаходзяцца як у калектыўным уладаньні калгасаў, так і ў індывідуальным уладаньні калгасьнікаў. Савецкая ўлада пастанавіла, апрача таго, адтэрмінаваць да канца году пакрыцьцё запазычанасьці калгасьнікаў па крэдытах і зьняць усе штрафы і судовыя спагнаньні, накладзеныя да 1-га красавіка на сялян, якія ўвайшлі ў калгасы. Яна пастанавіла, урэшце, абавязкова ажыцьцёвіць крэдытаваньне калгасаў у гэтым годзе ў разьмеры 500 млн. рублёў. Гэтыя ільготы пойдуць на дапамогу сялянам калгасьнікам. Гэтыя ільготы пойдуць на дапамогу тым сялянам-калгасьнікам, якія здолелі ўстаяць перад адлівам, якія загартаваліся ў змаганьні з ворагамі калгасаў, якія абаранілі калгасы і ўтрымалі ў сваіх руках вялікі сьцяг калгаснага руху. Гэтыя ільготы пойдуць на дапамогу тым бедняком і серадняком-калгасьнікам, якія складаюць зараз асноўнае ядро нашых калгасаў, якія замацуюць і аформяць нашы калгасы і якія заваююць на старану сацыялізму мільёны і мільёны сялянства. Гэтыя ільготы пойдуць на дапамогу тым сялянам калгасьнікам, якія складаюць зараз асноўныя кадры калгасаў і якія ў поўнай меры заслугоўваюць таго, каб назваць іх героямі калгаснага руху. Гэтых ільгот не атрымаюць сяляне, вышаўшыя з калгасаў.

Хіба-ж ня ясна, што сяляне дапускаюць памылку, выходзячы з калгасаў? Хіба-ж ня ясна, што толькі зваротам у калгасы могуць яны забясьпечыць сабе атрыманьне гэтых ільгот.

*Восьмае пытаньне*

## Як быць з камунамі, ці ня трэба іх распусьціць?

АДКАЗ. НЕ, НЯ ТРЭБА і няма чаго іх распускаць. Я гавару аб сапраўдных, а не папяровых камунах.

У збожжавых вобласьцях СССР існуе рад дасканалых камун, якія заслугоўваюць таго, каб заахвочваць і падтрымліваць іх. Я маю на ўвазе старыя камуны, якія вытрымалі гады і загартаваліся, поўнасьцю апраўдаўшы сваё існаваньне. Што-ж датычыць новых камун, якія толькі нядаўна стварыліся, то яны здолеюць адстаяць сваё існаваньне толькі ў тым выпадку, калі яны арганізаваліся дабраахвотна, пры актыўным падтрыманьні сялян, без прымусовага абагуленьня быту.

Стварэньне і вядзеньне камун—справа складаная і трудная. Буйныя і ўстойлівыя камуны могуць існаваць і разьвівацца пры наяўнасьці вопытных кадраў і выпрабаваных кіраўнікоў. „Скоропалительный" перавод з статуту арцелі на статут камуны можа толькі адштурхнуць сялян ад калгаснага руху. Таму да гэтае справы трэба адносіцца з асаблівай сур'ёзнасьцю і без якой-бы там ні было тараплівасьці. Арцель—больш лёгкая справа і больш даступная сьвядомасьці сялянскіх мас. Таму арцель зьяўляецца ў даны момант найбольш пашыранай формай калгаснага руху.

Толькі па меры ўмацаваньня і спрашчэньня сельска-гаспадарчых арцеляй можа стварыцца глеба для масавага руху сялян у бок камун. Таму камуна, якая прадстаўляе вышэйшую форму, можа стаць галоўным зьвяном калгаснага руху толькі ў будучым.

## Як быць з кулацтвам?

АДКАЗ. Да гэтага часу гутарка ішла ў нас аб серадняку. Серадняк ёсьць саюзьнік рабочае клясы, і палітыка ў нас павінна быць з ім прыяцельскай. Іншая справа—кулак. Кулак ёсьць вораг савецкай улады. З ім у нас няма і ня можа быць міру.

Наша палітыка ў адносінах да кулака ёсьць палітыка яго ліквідацыі як клясы. Гэта, зразумела, ня значыць, што мы можам яго ліквідаваць у адзін прысест. Але гэта значыць, што мы будзем весьці справу на тое, каб акружыць яго і ліквідаваць. Вось што кажа Ленін аб кулаку'

„Кулакі—самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары. якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі іншых краёў уладу памешчыкаў, цароў, папоў, капіталістых. Кулакоў больш, чым памешчыкаў і капіталістых. Але ўсё-ж кулакі—меншасьць у народзе... Гэтыя крывапіўцы нажыліся на народнай галечы ў часе вайны, яны скапілі тысячы і сотні тысяч грошай, павышаючы цэны на хлеб і іншыя прадукты. Гэтыя павукі тлусьцелі за кошт зруйнаваных вайною сялян, за кошт галодных рабочых. Гэтыя п'яўкі пілі кроў працоўных, багацеючы тым больш, чым больш галадаў рабочы ў гарадох на фабрыках. Гэтыя вампіры падбіралі і падбіраюць сабе ў рукі памешчыцкія землі, яны зноў кабаляць бедных сялян“. (Том XX, частка II, стар. 257).

Мы цярпелі гэтых крывапіўцаў, павукоў і вампіраў, праводзячы палітыку абмежаваньня іх эксплёататарскіх тэндэнцый. Цярпелі, бо ня было чым замяніць кулацкую гаспадарку, кулацкую вытворчасьць. Зараз мы маем магчымасьць замяніць іх гаспадаркі гаспадаркай нашых калгасаў і саўгасаў. Цярпець далей гэтых павукоў і крывапіўцаў няма чаго. Цярпець далей гэтых павукоў і крывапіўцаў, што падрываюць калгасы, забіваюць калгасных дзеячоў і прабуюць сарваць сяўбу,— значыцьісьці супроць інтарэсаў рабочых і сялян. Таму палітыка ліквідацыі кулацтва як клясы павінна праводзіцца з усёй тэй настойлівасьцю і пасьлядоўнасьцю, на якую толькі здольны бальшавікі.

*Дзесятае пытаньне*

## У чым заключаецца бліжэйшая практычная задача калгасаў?

АДКАЗ. Бліжэйшая практычная задача калгасаў заключаецца ў змаганьні за сяўбу, у змаганьні за найбольшае пашырэньне засеўных плошчаў, у змаганьні за правільную арганізацыю сяўбы. Да задачы сяўбы павінны быць дастасаваны зараз усе іншыя задачы калгасаў.

Рабоце па арганізацыі сяўбы павінны быць падпарадкаваны зараз усе іншыя работы калгасаў, значыць, што ўстойлівасьць калгасаў і іх беспартыйнага актыву, здольнасьць кіраўнікоў калгасаў і іх бальшавіцкага ядра будуць правярацца не на рэзалюцыях і шырокавяшчальных прывітаньнях, а на жывой справе правільнай арганізацыі сяўбы. Але, каб ажыцьцёвіць з гонарам гэту практычную задачу, трэба павярнуць увагу калгасных работнікаў у бок гаспадарчых пытаньняў калгаснага будаўніцтва, у бок пытаньняў унутры-калгаснага будаўніцтва.

Да апошняга часу ў цэнтры ўвагі калгасных работнікаў стала пагоня за высокімі лічбамі калектывізацыі, прычым людзі не хацелі бачыць розьніцы паміж сапраўднай калектывізацыяй і калектывізацыяй папяровай. Цяпер гэтае захапленьне лічбамі павінна быць адкінута прэч. Зараз увага работнікаў павінна быць згуртавана на замацаваньні калгасаў, на арганізацыйным афармленьні калгасаў, на арганізацыі сілавой работы ў калгасах.

Да апошняга часу ўвага калгасных работнікаў была згуртавана на арганізацыі буйных калгасных адзінак, на арганізацыі так званых „гігантаў", прычым „гігыанты" часта вырастаюць у грамодзкія папяровыя камэндатуры, пазбаўлення гаспадарчых карэньняў у вёсках і сёлах. Паказаная работа паглыала, значыцца, работу дзелавую. Зараз гэтае захапленьне паказной стараной павінна быць адкінута прэч. Зараз увага рабочых павінна быць завострана на арганізацыйна-гаспадарчай рабоце калгасаў у вёсках і сёлах, калі гэта работа пакажа належныя посьпехі, „гіганты" зьявяцца самі сабою.

Да апошняга часу на прыцягненьне сераднякоў да кіруючай работы ў калгасах зварачалася мала ўвагі. Між тым сярод сераднякоў ёсьць дасканалыя гаспадары, якія маглі-б стаць дасканалымі гаспадарчымі работнікамі калгаснага будаўніцтва. Зараз гэты недахоп у нашай рабоце павінен быць ліквідаваны. Зараз задача заключаецца ў тым, каб прыцягнуць да кіруючай работы ў калгасах лепшых людзей з сераднякоў і даць ім разгарнуць на гэтай справе свае здольнасьці.

Да апошняга часу не зварачалі належнай увагі на работу сярод сялянак. Мінулы пэрыяд паказаў, што работа сярод сялянак зьяўляецца ў нас найбольш слабым месцам нашай работы. Зараз гэты недахоп павінен быць ліквідаваны рашуча і беспаваротна.

Да апошняга часу камуністыя раду раёнаў выходзілі з таго, што яны змогуць вырашыць сваімі ўласнымі сіламі ўсе задачы калгаснага будаўніцтва. Выходзячы з гэтага, яны не зварачалі належнай увагі на прыцягненьне беспартыйных да адказнай работы ў калгасах, на вылучэньне беспартыйных на кіруючую работу ў калгасах, на арганізацыю ў калгасах шырокага беспартыйнага актыву.

Гісторыя нашае партыі паказала, а мінулы пэрыяд калгаснага будаўніцтва лішні раз паказаў, што такая ўстаноўка зьяўляецца ў корані няправільнай. Калі-б камуністыя замыкаліся ў сваю скарлупу, адгароджваючыся сьцяною ад беспартыйных, яны-б загубілі ўсю славу. Калі камуністым удавалася пакрыць сябе славай у баёх за сацыялізм, а ворагі камунізму аказаліся разьбітымі, то гэта, між іншым, таму, што камуністыя ўмелі прыцягваць да справы лепшых людзей з беспартыйных, яны ўмелі чэрпаць сілы сярод шырокіх пластоў беспартыйных, яны ўмелі акружаць сваю партыю шырокім беспартыйным актывам. Зараз недахоп нашай работы з беспартыйнымі павінен быць ліквідаваны рашуча і беспаваротна.

Выправіць гэтыя недахопы нашае работы, ліквідаваць іх у корані, гэта іменна і значыць паставіць на рэйкі гаспадарчую работу калгасаў.

Ітак, першае, правільная арганізацыя сяўбы—такава задача, другое, згуртаваньне ўвагі на гаспадарчых пытаньнях калгаснага руху—такавы сродак, неабходны для вырашэньня гэтай задачы.

---

# ДА „ДНЮ ЛЕСУ“



„Дзень лесу“ ў СССР нарадзіўся з гераічных суботнікаў і нядзельнікаў—самых цяжкіх момантаў Кастрычнікавае рэвалюцыі.

Сьвята „Дзень лесу“ ўведзена па ініцыятыве камсамолу і працоўных мас, зьмест якога выразна вызначаны ў лісьце ЦК ЛКСМ, у якім гаворыцца: „няхай-жа ў гэты дзень ад краю да краю загрымяць вольныя сьпевы маладой гвардыі і дружна застукаюць рыдлёўкі, аднаўляючыя нашы лясы,—будаўнікоў новага жыцьця, сапраўдных гаспадароў будучыні...“

„Дзень лесу“, ня гледзячы на сваю маладасьць, ужо ўвайшоў у гісторыю як рэвалюцыйнае сьвята працоўных. І калі ў буржуазных краінах дзень лесу праводзяць як дзень ґульняў капіталістычнае моладзі на паветры, дзень абсадкі будынка—у рэлігійнага культу і інш. месц буржуазнага зьместу,—дык у Савецкім Саюзе „ДЗЕНЬ ЛЕСУ“—ёсьць сьвята сацыялістычнага будаўніцтва, вытворчае сьвята нашай моладзі і працоўных мас.

„Дзень лесу“ цесна зьвязаны з значэньнем лесу ў гаспадарчым жыцьці краіны і людзей, ён мае добрыя практычныя вынікі і ў нас, на Савецкай Беларусі. За час існаваньня (з 1925 па 1930 г.) „Дню леса“ праароблена:

| | | |
|---|---|---|
| Засеяна лесу на плошчы | 2.100 | *га* |
| Пасаджана „ „ | 879 | „ |
| Закладзена выхавальнікаў | 11,4 | „ |
| „ паркаў | 17 | „ |
| Зроблена ачыстка лесу на плошчы | 16.600 | „ |
| Пасаджана дрэў на вуліцах і каля будынкаў | 138.000 | шт. |
| „ прысад на працягу | 615 | *клм* |
| Агароджана пасадак і пасеваў на плошчы | 850 | „ |
| Падрыхтавана глебы пад пасадку | 285 | *га* |
| Праведзена экскурсій, гутарак і лекцый | 7.016 | |
| У працы ўдзельнічала | 426.000 | асоб. |

У „Дзень лесу“—камсамол, працоўная моладзь, піанэры, школьнікі, настаўніцтва, сельскагаспадарчыя і лясныя рабочыя, калгасьнікі, спэцыялістыя і бядняцка-серадняцкае насельніцтва—усю сваю ўвагу павінны зьвярнуць на ахову лясоў ад пашкоджаньняў з боку людзей, жывёлы, лясных пажараў і шасьціножак. Неабходна зьвярнуць увагу на лесааднаўленьне высечак і пустак, на замацаваньне сыпучых пяскоў, на дагляд за лесам, на захаваньне і аднаўленьне лясоў мясцовага значэньня, перададзеных савецкай уладай калгасам, саўгасам і бядняцка-серадняцкаму насельніцтву вёсак, на рэканструкцыю лясной гаспадаркі ў іх да ўмоў суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі, захаваньне іх ад самачынных пасечак з боку кулацкіх элемэнтаў вёскі і на забесьпячэньне лесанарыхтовак і сплаву працоўнай сілай. Толькі пры такіх умовах мы адновім нашы лясы, павысім іх ураджайнасьць і прыбытковасьць, забясьпечым драўнінай прамысловасьць, экспарт, кал-



Пасаджаны лес на пяскох у „Дзень лесу“.

гаснае будаўніцтва, запатрабаваньні бядняцка-серадняцкага насельніцтва нашых вёсак і палепшым стан лясоў, асабліва мясцовага значэньня.

Моладзі, рабочым, калгаснаму і вясковаму працоўнаму насельніцтву і ўсёй савецкай грамадзкасьці трэба добра падрыхтавацца да „Дню леса“ і правесьці яго па-ўдарнаму, бо гэтага патрабуе ад нас сацыялістычнае будаўніцтва, індустрыялізацыя краіны і рэканструкцыя сельскае гаспадаркі і мы павінны гэта выканаць цалкам.

„Дзень лесу“ гэтага году правядзем пад лёзунгамі:

„Дзень лесу“—дзень калектыўнай дапамогі камсамолу, рабочых, батрацтва, калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага насельніцтва—лясной гаспадарцы ў падвышэньні ўраджайнасьці і прыбытковасьці яе“.

„Дзень лесу“—агляд арганізацыйных і вытворчых дасягненьняў лясной гаспадаркі“.

„Савецкая лясная гаспадарка—адна з сырцовых баз індустрыялізацыі краіны. Больш увагі лясной гаспадарцы“.

„Для будаўніцтва фабрык, заводаў і калгасаў трэба шмат лясных будаўнічых матар'ялаў. Арганізуем лепшае выкарыстаньне нашых лясоў і будзем клапаціцца аб іх аднаўленьні“.

„Недахоп лесаматар'ялаў, вузкае месца ў нашым будаўніцтве. Мабілізуем увагу на выкананьні лесазагатоўчых праграм“.

„Індустрыялізацыя і калектывізацыя краіны патрабуе ўвозу з-замеж машын у абмен на савецкі лес. Больш увагі разьвіцьцю лясного экспарту“.



Цяжкую працу пераложым на жалезныя плечы машыны. На здымку—амэрыканскі трактар з прыстасаваньнем для падняцьця і перавозкі цяжкіх бярвеньняў.

„Барацьба з самачыннымі высечкамі лесу, рацыянальная эксплёатацыя лясоў і лесааднаўленьне высечак—забясьпечыць аднаўленьне лясных дрэвастанаў“.

„Замест лясной варты і аб'езчыкаў, створым кадры сталых кваліфікаваных лясных рабочых—першыя атрады пралетарыяту ў лясной гаспадарцы“.

„Мэханізуем лясную гаспадарку—машыны і трактар у лясныя дрэвастаны“.

„На сыпучых пяскох створым лясныя дрэвастаны, ператворым пяскі ў карысную плошчу“.

„Лес памагае сельскай гаспадарцы ў барацьбе з сухменямі,—створым у бязьлесных мясцох штучныя лясныя палосы“.

„Зялёныя плошчы ў гарадох, калгасах і саўгасах—лепшы прыяцель здароўя людзей. Створым паркі і сады—месца адпачынку і культурных забаў працоўных мас“.

„Зьнішчым самачыныя высечкі ў лясох мясцовага значэньня, рэарганізуем гаспадарку ў іх, арганізуем ахову лясоў і лесааднаўленьне высечак“.

„Захаваем лясы ад пажараў, ня пусьцім дымам багацьце працоўных мас“.

„Горад, які не павялічвае зялёнай плошчы, рыхтуе непрацаздольных сяброў грамады“.

„У „Дзень лесу“—праверым і пашырым працу па сацыялістычнаму спаборніцтву ў лясной гаспадарцы“.

„Дзень лесу“ павінен скласьці армію прыяцеляў лесу і лясной гаспадаркі. Камсамол, піанэры і школы павінны выхаваць актыўных будаўнікоў Савецкай лясной гаспадаркі“.

„Камсамол, піанэры і моладзь у авангард прац „Дню леса“.

**Е. П. Міхасенка.**

---



Сыпучыя пяскі, замацаваныя шалюгою.

# ПЫТАНЬНІ ДЛЯ ХУТЧЭЙШАГА ВЫРАШЭНЬНЯ



Выезд у поле на сяўбу ў калгасе імя „Дзяржынскага", Гомельскай акр.

## Арганізацыя агляду працы ў калгасах і конкурс на лепшы калгас па правядзеньні веснавой сяўбы

I.

„Вытворчасьць працы—гэта самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу".

(ЛЕНІН).

Шляхі найлепшае арганізацыі працы ў калгасах яскрава акрэсьлены пастановай Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б). Гэта—па-першае, „неабходнасьць рашучага пералому ва ўзьняцьці працоўнае дысцыпліны ў калгасе на грунце сумленных адносін членаў калгасу да сваіх абавязкаў". Па-другое—гэта падвышэньне вытворчасьці працы, для чаго „павінны быць цалкам скарыстаны мэтоды сацыялістычнага спаборніцтва, разьвіцьця работы вытворчых нарад і шырокага разгортваньня самакрытыкі".

Галоўным у пасьпяховым прасоўваньні па гэтаму шляху зьяўляецца правільная арганізацыя труда ў калгасах. Гэта карэннае пытаньне калгаснага руху, гэта „пытаньне пытаньняў" калгаснага будаўніцтва. І гэта зусім зразумела, бо пераход да вышэйшых сацыяльных формаў абумоўлены вышэйшай ступеньню арганізацыі працы, вышэйшай вытворчасьцю працы.

Вышэйшая-ж вытворчасьць працы на данай ступені разьвіцьця калгаснага руху залежыць ад плянавасьці, правільнай растаноўкі рабочае сілы, правільнага вырашэньня пытаньняў цягавай сілы праз арганізацыю МКС і ТКС (машынна-конныя і трактара-конныя станцыі), правільнай сыстэмы аплаты працы, ад правільнага вырашэньня фуражнага і харчавога пытаньняў.

Вырашэньне ўсіх гэтых пытаньняў, пабальшавіцку, пераканае няўпэўненых ў посьпеху калгаснага руху аб пераважнасьці калектыўнае гаспадаркі над індывідуальнай, замацуе ўсе нашы посьпехі і дасягненьні ў галіне калектывізацыі і нанясе сьмяротны ўдар кулацтву.

Такім чынам, правільная арганізацыя калектыўнага труда ў калгасах ня толькі мае практычнае значэньне, павялічваючы таварнасьць калектыўнае гаспадаркі, але мае вялізарнейшае палітычнае значэньне.

І вось таму, згуртаваньне ўвагі ўсяе нашай грамадзкасьці навокал пытаньняў арганізацыі труда ў калгасах зьяўляецца асабліва неабходным, бо толькі ўдзел шырокіх мас гарантуе правільнае вырашэньне ўсіх пытаньняў наогул. У. І. Ленін лічыў, што *„шлях новага гаспадарчага будаўніцтва, шлях новай грамадзкай сувязі, новае працоўнае*



Калгасьнікі закупляюць с.-г. прылады для веснавой сяўбы.

*дысцыпліны“*—гэта ёсьць яднаньне *„апошняга слова навукі і капіталістычнае тэхнікі з масавым аб'яднаньнем сумленных (сознательных) работнікаў, якія будуюць буйную сацыялістычную вытворчасьць“*.

Адгэтуль вынік, што арганізацыя труда толькі тады можа быць названа правільнай, калі сама калгасная маса зьяўляецца актыўным удзельнікам гэтае арганізацыі.

Практычна гэта азначае абмен вопытам паміж усімі калгасамі, дэталёвае ўдасканаленьне гэтага вопыту і выкарыстаньне яго цалкам, выкарыстаньне гаспадарчага вопыту калгасьнікаў і прыстасаваньне яго да ўмоў калектыўнае вытворчасьці, уцягненьне ўсіх калгасьнікаў і калгасьніц да ўдзелу ў нашых падліках, меркаваньнях і плянаваньні.

Трэба, каб калгасьнікі ня толькі бачылі як удасканальваецца вытворчасьць, а каб яны адчувалі свой удзел у гэтым, каб яны пераканаліся, што ўдасканаленьне вытворчасьці—гэта іх справа, іх мэта.

Задача агляду, па-першае—высьветліць лепшыя прыклады арганізацыі труда ў калгасах і перадаць іх усім іншым калгасам, выправіць усе хібы, скрыўленьні і недарэчнасьці; па-другое—згуртаваць увагу ўсёй грамадзкасьці навокал пытаньняў організацыі труда і гэтым самым узьняць актыўнасьць калгасьнікаў, ва ўдасканаленьні гаспадаркі калгасу.

Пры правядзеньні агляду кладзецца ў аснову работа вытворчых нарад. Трэба, каб на вытворчых нарадах абгаварвалася арганізацыя



Кавалі калгасу, прэміраваныя за лепшае і хутчэйшае выкананьне рамонту с.-г. інвэнтару да веснавой сяўбы.

труда, трэба, каб вытворчыя нарады далі ацэнку гэтым формам, трэба, каб праз вытворчыя нарады калгасьнікі самі прынялі ўдзел у выпраўленьні хібаў і ў замацаваньні дасягненьняў. Найбольшы ўдзел калгасьнікаў у вытворчых нарадах і зьявіцца найлепшым дасягненьнем агляду.

Другім надзвычайна важным фактарам агляду зьяўляецца ўдзел у ім друку.

Удзел друку забясьпечвае жорсткую бязьлітасную самакрытыку, без якой немагчыма сур'ёзнае высьвятленьне недахопаў, забясьпечвае шырокі абмен вопытам. А таму ўвесь мясцовы друк, пачынаючы з насьценгазэт, павінен прыняць самы актыўны ўдзел у аглядзе. У друку павінны асьвятляцца падрабязна як дасягненьні, так і недахопы, павінны асьвятляцца карэньні як першых, так і другіх. Бязьлітасная самакрытыка і барацьба з усімі недарэчнасьцямі і скрыўленьнямі павінна быць цэнтрам агляду, бо толькі гэта гарантуе посьпех. У. І. Ленін пісаў, што *„у нас няма дзелавой бязьлітаснай сапраўдна-рэволюцыйнай вайны з канкрэтнымі насіцелямі зла. У нас мала*

*выхаваньня мас на жывых канкрэтных прыкладах і абразцах з усіх вобласьцяй жыцьця, а гэта галоўная задача друку ў час пераходу ад капіталізму да камунізму... Паменш палітычнае трэскатні, паменш інтэлігенцкіх разважаньняў. Бліжэй да жыцьця. Больш увагі таму, як рабочая і сялянская маса на справе будуе нешта новае ў сваёй штодзеннай працы. Пабольш праверкі таго, наколькі камуністычна гэта новае*".

Вытворчыя нарады і друк—вось тыя формы, у якіх павінен выказацца *ўдзел грамадзкасьці ў правядзеньні агляду.*

## III

Адначасова з правядзеньнем агляду арганізацыі труда ў калгасах, які займе час ад падрыхтоўкі к вясеньняй сяўбе да збору ўраджаю і здачы лішкаў сельска-гаспадарчых прадуктаў дзяржаве, Белкалгасцэнтрам, сумесна з газэтай „Беларуская Вёска“, праводзіцца конкурс на лепшы калгас па правядзеньню вясеньняй сяўбы.

Конкурс арганізуецца для замацаваньня дасягнутых тэмпаў калектывізацыі праз поўнае выкананьне вытворчых плянаў калгасу, праз



Ворыва да веснавога севу ў калгасе імя „Дзяржынскага“, Гомельскай акр.

уцягненьне ўсяе масы калгасьнікаў на чале з батрацка-бядняцкім і партыйна-камсамольскім актывам у сацыялістычнае спаборніцтва.

Конкурс мае мэтай правільную і чоткую арганізацыю працы, найрацыянальнейшае выкарыстаньне цягавай сілы і інвэнтару, зьнішчэньне прастояў, халастых перагонаў і пераездаў, а гэтак сама абагуленьне сродкаў вытворчасьці, згодна статуту.

Веснавая сяўба павінна быць скончана ў вызначаны плянам тэрмін, без спазьненьня, а таму конкурс працягваецца толькі да 1-га чэрвеня і ў асабліва важных выпадках, з-за кліматычных умоў, можа быць адкладзен, але-ж ня болей як на 2 тыдні. Адтэрміноўка конкурсу для паасобных мясцовасьцяй дапускаецца толькі з дазволу Калгасцэнтру, прычым хадайніцтва аб адтэрміноўцы павінна быць пацьверджана мэтэоролёгічнымі бюлетэнямі.

Пажадана, каб кожны калгас прыняў удзел у конкурсе, прычым калгасы, якія маюць намер удзельнічаць у конкурсе, для падліку сваіх

дасягненьняў, складаюць камісію, у склад якой павінны ўвайсьці: прадстаўнік ад групы беднаты, с.-савету, парт'ячэйкі, агранома і праўленьня калгасу.

Усе дасягненьні калгасу падрабязна фіксуюцца камісіяй у акце, які накіроўваецца праз Райкалгассаюз Акркалгассаюзу.

Камісія павінна ўжыць захады к асьвятленьню ў мясцовым і цэнтральным друку як у газэтах, так і ў часопісах, як дасягненьняў, так і недахопаў працы.

Акркалгассаюз, які атрымоўвае матар'ялы конкурсу, павінен іх сыстэматызаваць і з сваімі заключэньнямі дасылаць у Калгасцэнтр, які канчаткова правярае матар'ял і перадае яго конкурсному журы, арганізаванаму пры ЦК КП(б)Б.



Пробныя выезды ў поле калгасьнікаў паказалі, на што трэба зьвярнуць больш увагі пры сапраўдным правядзеньні працы веснавой сяўбы. На здымку—пробны выезд для пасеву радавым сяўнікам.

Матар'ялы, якія дасылаюцца ў Калгасцэнтр, абавязкова павінны быць першатворныя (падлінькі), бо яны найбольш яскрава характарызуюць працу калгасу і камісію, якая вылучана для падліку дасягненьняў.

Конкурс на лепшы калгас па правядзеньню весновой сяўбы зьяўляецца часткай агульна-саюзнага агляду арганізацыі працы ў калгасах, прычым калгас, які атрымаў прэмію за лепшае правядзеньне вясеньняй сяўбы, можа быць прэміраваны і на агульна-саюзным аглядзе.

Пачынаючы з гэтага году, конкурсы на лепшае правядзеньне вясеньняй сяўбы будуць праводзіцца кожны год і таму прэміі, вызначаемыя па конкурсу, зьяўляюцца пераходнымі, г. зн. прэмія, атрыманая калгасам у гэтым годзе, можа быць перадана ў наступным годзе іншаму калгасу, які правядзе сяўбу больш арганізавана, з большым гаспадарчым эфэктам.

Па пастанове Калгасцэнтру, прэміяў вызначаецца тры:

Першая прэмія—ганаровы штандар Калгасцэнтру і газэты „Беларуская Вёска“ і трактар. Другая—радыё-ўстаноўка з гучна-гаварыцелем і трэцяя—кінаперасоўка з аднэй зьменнай кінастужкай.

Зразумела, што калгас, атрымаўшы прэмію ў гэтым годзе, прылажыць усе свае намаганьні, каб захаваць за сабою прэмію ў наступным годзе, ці замест трэцяй ці другой прэміі атрымаць першую. Калгас, які ў гэтым годзе не прэміраваны, мае поўную магчымасьць атрымаць прэмію ў наступным годзе.

## IV

Для ўдзелу ў конкурсе ад калгасаў патрабуецца: па-першае—выкананьне агра-зоо-мінімуму і скончэньне пасеўнае кампаніі к першаму чэрвеня. Па-другое, павялічэньне засеўнае плошчы на 25 проц. праз скарыстаньне неабжытых зямель і павялічэньне ўраджайнасьці на 8 проц. Па-трэцяе—ахоп усіх калгасьнікаў і калгасьніц ударнымі брыгадамі



Весткі з далёкай краіны—Сібіру. Там, у буйных саўгасах праца ў полі выконваецца ў тры зьмены. Грузавыя аўтомабілі прывозяць у поле рабочых. На здымку—ворыва ў саўгасе Барысаўскім, Омскае акругі—момант прыбыцьця зьмены.

і ўдзелу ў сацыялістычным спаборніцтве. Па-чацьвертае—правільная арганізацыя труда пры ўвядзеньні зьдзельшчыны і тарыфікацыі работ па разрадах і, па-пятае,—абагуленьне, згодна статуту, усіх сродкаў вытворчасьці.

Пералічаныя ўмовы зьяўляюцца мінімальна абавязковымі для ўдзелу ў конкурсе і невыкананьне іх калгасам пазбаўляе яго магчымасьці ўдзельнічаць у конкурсе наогул.

Калі калгас выконвае гэтыя ўмовы, дык ён можа ўдзельнічаць у конкурсе, але-ж для атрыманьня прэміі, звыш мінімальных умоў, павінен выканаць яшчэ цэлы шэраг іншых, якія вызначаюцца ў адпаведнасьці з прэміяй.

Для атрыманьня трэцяй прэміі, калгас павінен пры выкананьні мінімуму запатрабаваньняў праявіць большыя гаспадарчыя і арганізатарскія здольнасьці і дасягненьні, якія павінны выказацца ў арганізацыі цягавай сілы і машын у машынна-конную станцыю, арганізаваць бат-

рацка-бядняцкія групы, вытворчыя нарады, прытрымліваццa прыкладных нормаў выпрацоўкі, правесьці спробны выезд у поле да пачатку веснавой сяўбы, скласьці баланс працы, вылучыць адыходнікаў і арганізаваць на час сяўбы дзіцячыя ясьлі.

Выкананьне гэтых запатрабаваньняў паказвае, што калгас прылажыў намаганьні да ажыцьцяўленьня дырэктыў партыі і ўраду, што ён ідзе правільным напрамкам і мае ўсе падставы к разьвіцьцю.

Праяўленьне калгасам большых гаспадарчых намаганьняў і атрыманьне большага гаспадарчага эфэкту дае права калгасу на атрыманьне другой прэміі, прычым для яе атрыманьня калгас, зразумела, павінен выканаць тое, што выканаў калгас прэміраваны трэцяй прэміяй. Большыя-ж дасягненьні павінны выказацца ў правільным разьмеркаваньні рабочай сілы, максімальным вылучэньні спэцыялістых-будаўнікоў у сэзонную прамысловасьць, пашырэньні плошчы кармовых траў на 20 проц. і арганізацыі сталых дзіцячых ясьляў.

Нарэшце—лепшы калгас па правядзеньню вясеньняй сяўбы—гэта той, які цалкам выкарыстаў усе свае мажлівасьці ў даны пэрыяд. Гэта той калгас, які ўсе пасевы зрабіў гатунковым насеньнем, пашырыў плошчу культурных пасеваў на 30 проц., уцягнуў найбольшую колькасьць жанчын у працу, разьвіў новыя промыслы, якія павялічваюць таварнасьць (цагельні, смалакурні, майстэрні і інш.). Гэта той калгас, які перамог цемру, усьвядоміў выгаду бесьперапыннае працы і *перайшоў на бесьперапынны тыдзень.* Гэты калгас, зразумела, атрымоўвае і ганаровы штандар і трактар.

Выяўленьне гэтых сапраўды лепшых калгасаў магчыма толькі пры шырокім удзеле грамадзкасьці і друку, а таму трэба спадзявацца, што як эканамічная, так і палітычная важнасьць конкурсу і агляду гарантуе нам абодвы гэтыя фактары.

К. Буйніцкі.

---

## Вучот і кантроль працы ў калгасах

Для правільнага і поўнага выкарыстаньня ўсяе рабочай сілы ў калгасе неабходна загадзя, напярэдадні работ, вызначыць для кожнай брыгады, кожнай групы працаўнікоў і паасобнага работніка ў брыгадзе пэўнае працоўнае заданьне з указаньнем месца характару і памеру работ, а таксама тэрміну, у працягу якога гэта работа павінна быць выканана.

У працягу выкананьня работ неабходна арганізаваць вучот яе колькасьці і якасьці, а таксама ўдзелу ў працы кожнага работніка. Трэба вызначыць, хто і як вядзе гэты вучот і арганізаваць сваячасовае паступленьне матар'ялаў першапачатковага вучоту працы ў кантору для адпаведных разьлікаў за выкананую работу між членамі і запісаў па журналу работ і асабовых рахунках членаў.

Прыстасоўна да вучоту зьдзельнай аплаты працы ў калгасах, якая цяпер павінна зьявіцца асноўнай формай, Белкалгасцэнтрам распрацавана наступная форма табель-нараду.

## ТАБЕЛЬ-НАРАД №.........

с.-г. .................... (назва колгасу) Брыгада №......... на час .................. месяц .................. дзень 19......... году.

Месца работы ..............................

Галіна гаспадаркі .................... культура .................... Від жывёлагадоўлі .................... і г. д.

| №№ па чарзе | Прозьвішча, імя і імя па бацьку працаўнікоў | Назвы і колькасьць рабочых (аб'ём заданьня) | Разрад па тарыфнай сетцы і сума расцэнкі ўсяе работы | Якой цягавай сілай работа выконвалася і лік галоў раб. жывёлы | Адзнакі аб рабоце кожнага працаўніка па лічбам месяцу ў днях і гадзінах | Усяго патрачана часу ў днях і гадзінах | Колькі выканана работы | Якасьць работы | Прагулы, спазьненьні і нявыхады на работу | Разьлік за работу: Аплата за работу па тарыфу | Прэмія | Зьніжэньне за дрэннае выкананьне работы | Падлягае аплаце | № асобнага рахунку члена |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| | | | | | | | | | | | | | | |

Гэтая форма табель-нараду адпавядае, як для вызначэньня працоўных заданьняў (нарад), так і для вучоту фактычнага выкананьня работ і вызначэньня разьлікаў за выкананую работу.

Табель-нарад, як правіла, павінен складацца напярэдадні пачатку работ, кожным брыгадзірам разам з кіраўніком адпаведнай галіны гаспадаркі, у якой брыгада працуе. Прычым для таго, каб дадзеныя табель-нараду было лёгка запісваць па журналу работ, яго неабходна складаць на кожную работу паасобна. Табель-нарад можа складацца на кожны дзень, але калі адна і тая брыгада ці група будзе выконваць адну работу некалькі дзён, дык і табель-нарад трэба складаць не на кожны дзень, а на тэрмін выкананьня ўсяе работы.

Першая частка табель-нараду, а іменна 1, 2 і 3 графы запаўняецца брыгадзірам пры яго складаньні. Прычым у графу першую запісваюцца ўсе работнікі па групах брыгады, а ў графе другой—назва і памер работы, якая даручаецца да выкананьня, напрыклад, узараць 50 *га*, засеяць 50 *га* і г. д. Назва і памер работы пры групавой працы запісваюцца супроць прозьвішча працаўнікоў усяе групы аднэй лічбай. Паасобныя-ж заданьні і работы запісваюцца супроць прозьвішча кожнага працаўніка. У графу трэцюю (3) брыгадзір запісвае разрад тарыфнай сеткі, да якога адносіцца даручаная выканаць работа і сума расцэнкі ўсяе работы ў грашовым выглядзе, напрыклад, разрад IV—50 руб.

У працягу выкананьня работы брыгадзір вядзе падлік фактычнага ўдзелу кожнага працаўніка групы ў рабоце і кожны дзень робіць адзнаку аб гэтым у графе 5-ай табель-нараду ў днях і гадзінах, супроць прозьвішча кожнага працаўніка. На ўважлівае запаўненьне гэтай графы брыгадзіру неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо інакш пры групавым выкананьні работы, цяжка будзе ўтварыць разьлік за работу між асобнымі ўдзельнікамі групы, якія выконвалі работу.

Па выкананьні работы брыгадзір разам з групаводамі запаўняе 6, 7 і 8 графы табель-нараду. Прычым у графу 6 супроць прозьвішча кожнага працаўніка запісваецца агульная сума дзён і гадзін фактычна патрачаных на рабоце на падставе штодзенных запісаў у графе 5 гэтага-ж табель-нараду. Разам з гэтым падлічваецца і запісваецца ў

графу 7 агульная колькасьць выкананай работы, усёй групы, ці кожным працаўнікоам пры паасобнай рабоце.

Пры запаўненьні графы 8 табель-нараду неабходна запісваць пэўныя паказчыкі якасьці выкананай работы. Вучот якасьці работы ў калгасе мае вялікае значэньне для ўздыму прадукцыйнасьці працы і асабліва пры зьдзельнай аплаце працы. Таму праўленьню калгасу неабходна загадзя вызначыць гэтыя паказчыкі, прапрацаваць іх на вытворчых нарадах і на агульным сходзе членаў.

Паказчыкі гэтыя для вучэту якасьці могуць быць прыкладна наступныя:

а) Работа, выкананая здавальняюча—прымаецца за 100% і аплачваецца па існуючых у калгасе сярэдніх расцэнках адпаведнага разраду тарыфнай сеткі, да якога адносіцца выкананая работа.

б) Добра выкананая работа прымаецца, напрыклад, са 105 проц. ці 115 проц. і аплачваецца вышэй на 5 ці 15 проц. сярэдніх расцэнак на гэтую работу.

в) Дрэнная работа прымаецца з 85—95 проц. і выплачваецца на 15—5 проц. ніжэй існуючых у калгасе сярэдніх расцэнак.

Маючы такія пэўныя паказчыкі, вызначаныя праўленьне і зацьверджаныя агульным сходам калгасу, брыгадзір пры запаўненьні табель-нараду супроць прозьвішча кожнага працаўніка ці ўсяе групы, калі работа групавая, прастаўляе адпаведныя лічбы—100, 105, 115, 85, 95 проц. і г. д.

Азначасова, на падставе паказчыкаў графы 5-й, падлічваюцца прагулы, спазьненьні і нявыхады на работу, і агульная сума дзён і гадзін іх запісваецца ў адпаведную графу табель-нараду.

Па запаўненьні табель-нараду брыгадзір павінен падпісаць яго і перадаць адпаведнаму кіраўніку галінай гаспадаркі. Кіраўнік галінай гаспадаркі прыймае ад брыгадзіра работу, уласным подпісам пацьвярджае правільнасьць зробленых брыгадзірам запісаў і перадае табель-нараду ў кантору адпаведнаму рахункаводу.

Аграном Д. Лодысеў.

---

# Як уводзіць севазвароты ў калгасах

## (У парадку пастаноўкі пытаньня)

### 1. Як пытаньне аб севазваротах вырашаецца на мясцох

(З ліста студэнта К. П. Пінчука, мабілізаванага на пасеўкампанію)

У Полацкай акрузе, у раёнах суцэльнай калектывізацыі, зямляўпарадкавацелі, пры арганізацыі тэрыторыі, плошчы калгасаў разьбіваюць на аддзяленьні ці эканоміі, разьмеры якіх самыя разнастайныя ў залежнасьці ад прыродных і інш. умоў. У Абольскім калгасе, дзе я працую, маецца ўсяго восем аддзяленьняў ці эканомій (эканоміі тут, зразумела, як асобныя гаспадарчыя адзінкі з сваімі севазваротамі і будынкамі), разьмеры эканоміі ад 800 да 1.600 *га* пахаці і лугавых ужыткаў і ў залежнасьці ад умоў маюць радыус 2—3 *клм.*

У межах эканоміі ва ўмовах Полацкай акругі на данай плошчы знаходзіцца 8—10 былых залюдненых пунктаў, з якіх частка на хутарох, а частка так і засталася вёскамі ў 15—20 двароў; глебы самыя разнастайныя па сваёй якасьці.

У кожнага гаспадара па новаму статуту застаецца карова, сьвіньня і авечкі.

Якім шляхам можна падыйсьці к складаньню, ці правільней, правядзеньню ў жыцьцё якога-б ні было севазвароту для дадзенага аддзяленьня ня сёньнешні дзень?

Тутэйшыя каморнікі, выходзячы з 10-палёвага севазвароту, адбіваюць дзе-небудзь на краю аддзяленьня два палі пад папар, дзе-небудзь поле пад канюшыну, а рэшту прапануюць разьмеркаваць кожнаму аграному згодна яго асабістага погляду.

Наогул атрымоўваецца, што экономію ўжо ў гэтым годзе разумеюць як зусім цэльную адзінку і адразу ўжо з нейкім гатовым севазваротам. Атрымоўваецца такая гісторыя, што я нічога тут не магу зразумець, якім шляхам магчыма ставіць перад сабой выпаўненьне такой задачы на сёньнешні дзень. Выходзіць, што кароў і авец азначаная вёска, папаўшая ў поле яравых з падсевам канюшыны, павінна ганяць з аднаго канца аддзяленьня на паравое поле ці выган, разьмяшчоны на другім канцы аддзяленьня, вярсты за 4. Палі, якія пападаюць пад канюшыну, па сваёй угноеннасьці дасканальна стракатыя. Гной трэба вазіць з паловы селішча аддзяленьняў за 2 вярсты.

Я не магу згадзіцца з такой устаноўкай на сёньня і не магу зразумець, як правесьці ў жыцьцё такую ўстаноўку. Памойму трэба ў кожнай вялікай вёсцы мець амаль усе пасевы, у тым ліку і па парнае поле, а малыя вёскі і хутары аб'яднаць у месца па 2—3, і наогул, па мажлівасьці, выходзячы з неабходнасьці сумеснага карыстаньня выганам; зразумела, калі глебы адной вёскі будуць прыгодны пад бульбу, а другой пад лён, то няма патрэбы ў кожнай сеяць і лён і бульбу.

Студ. К. П. Пінчук.

---

## 2. Як трэба падыходзіць да пытаньня аб севазваротах у калгасах

Тав. Пінчук ставіць на абгаварэньне надзвычайна важны момант у арганізацыі калгасаў, які заслугоўвае самай пільнай увагі.

Увядзеньне агульных севазваротаў для асобных вытворчых адзінак калгасу зьяўляецца абавязковай мерай на шляху калектывізацыі земляробства.

Аднак, пераход на агульны севазварот, асабліва ва ўмовах бягучага году, вымагае ўдумчывых і асьцярожных адносін.

Возьмем два прыклады: На плошчы гаспадарчай адзінкі калгасу (1.000—1.500 *га*) маюцца глебы, якія па сваіх уласьцівасьцях рэзка адрозьніваюцца адна ад другой, напрыклад, суглінкі і пяскі. У такім выпадку трэба загадзя праектаваць не адзін агульны, а два севазвароты, прыстасованых да тыпаў глебы. Адзін агульны севазварот, ахопліваючы і пяскі і суглінкі, быў-бы не рэальным, затым, што глебавыя рознасьці, якія вельмі адрозьніваюцца адна ад другой, не дапушчаюць аднальковага складу і чаргаваньня пасеваў. Будзе тым больш правільней, калі пры вылучэньні гаспадарчых адзінак арганізуючагася калгасу будзе захоўвацца аднастойнасьць глебавых умоў.

Для другога прыкладу возьмем выпадак, апісаны тав. Пінчуком, калі на тэрыторыі гаспадарчай адзінкі раскідана некалькі залюднёных пунктаў.

Ці магчымы тут пераход да агульнага севазвароту з вясны бягучага году? Акрамя тых сумненьняў, якія выказаны тав. Пінчуком, значныя цяжкасьці выклікае пасеў такіх вымагальных расьлін, як бульба, ячмень, канюшына на суцэльных плошчах, агульных палёў, уноў разьбіваемага севазвароту. Пры стракатасьці папярэдняй угноенасьці сялянскіх палос, сабраных у адно поле, ураджаі на іх натуральна будуць таксама стракатымі. У большасьці выпадкаў, у новых калгасах гною хопіць толькі для ўгнаеньня аднаго поля. Найчасьцей за ўсё гэта будзе бульба; значыцца з ёю пытаньне вырашаецца досыць проста. Але як быць з канюшынай, ячменем, ільном і г. д.? Іх прыдзецца сеяць па ўгнаеньню папярэдніх гадоў. І ў гэтым выпадку на значнай плошчы аб'яднанага поля, стракатага па сваёй угноенасьці, няўхільна ўгноеныя вучасткі будуць чаргавацца з няўгноенымі; побач з добрымі ўраджаямі будуць атрымоўвацца дрэнныя, якія ня вернуць нават вы-



Новае ў сельскай гаспадарцы Амэрыкі. Барана з 50 зуб'ямі, якая прычэпліваецца да трактара.

даткаў па пасеву і кампрамэтуючыя калгас. Вялікую дапамогу магло-б прынесьці тут дадатковае ўгнаеньне ў выглядзе мінэральных парашкоў, але пры недахопе іх у бягучым годзе, ускладаць на іх вялікія надзеі немагчыма. Між тым, мы павінны рэзка ставіць перад сабою задачу, каб ужо ў першым годзе ўноў арганізуемыя калгасы далі-б павышаную вытворчасьць у параўнаньні з раздробленай сялянскай гаспадаркай. Гэта неабходна для ўзмацненьня і матар'яльнай і грамадзкай базы калгасаў.

Пры такой пастаноўцы думка, высунутая тав. Пінчуком аб тым, каб для пераходнага часу разьмяркоўваць пасевы з гэтай вясны, прывязваючы іх да буйнейшых селішч, заслугоўвае вялікай увагі. Разьвіваючы гэтую думку трэба прызнаць неабходным, каб пасевы разьмяшчаліся маналітна, магчыма, больш буйнымі плошчамі, у адпаведнасьці з палямі будучага агульнага севазвароту.

Пры такім падыходзе разьвязваецца ня толькі пытаньне аб выпасе жывёлы, але больш мэтазгодна магчыма разьмясьціць пасевы, каб гарантаваць павышаную вытворчасьць. Такі падыход мае асаблівую перавагу для калгасаў з разнастойнымі глебамі.

Канкрэтны плян разьмеркаваньня пасеваў будзе дыктавацца мясцовымі ўмовамі калгасу.

Якіх-небудзь схэм тут нельга даць і іх ня можа быць. Тут патрэбен з боку арганізатара вучот усіх асаблівасьцяй данага выпадку.

Мы ні ў якай ступені не жадалі-б паменшыць значэньня хутчэйшага пераходу калгасаў на аб'яднаныя агульныя севазвароты. І там, дзе для гэтага маюцца спрыяючыя мажлівасьці, яны павінны быць абавязкова і поўнасьцю скарыстаны.

Але гэтага пажаданьня для сёлетняй вясны ня трэба ўвадзіць у правіла, бо ў выпадках аналёгічных апісваемаму тав. Пінчуком, яно ня будзе пакрываць адмоўных бакоў. Каб паменшыць цяжкасьці наступнага году ў сэнсе пераходу ад такіх усё-ж раздробленых пасеваў да цэнтралізаваных агульных севазваротаў, неабходна цяпер-жа для кожнай вытворчай адзінкі калгасу, намеціць хаця-б у асноўных контурах і іх севазвароты і скласьці пераходныя для іх пляны. Гэтыя пляны, сумесна з вучотам папярэдняй угнаёнасьці палёў і дадуць кіруючыя ўказаньні для разьмяшчэньня пасеваў бягучага году.

Е. К. Аляксееў.

---

# Пра папары ў саўгасах і калгасах

Позьнія сялянскія папары ня толькі не падвышаюць ураджайнасьці глебы, а нават, наадварот, зьніжаюць яе якасьць, становячыся крыніцаю засьмечанасьці пасеваў і размножваньня пустазельля наогул. Тое тлумачэньне, што гэткія папары пакідаюцца як паша для жывёлы, таксама адпадае, бо мы ведаем, што пашы там ніякай няма, што гэтыя папары становяцца стойлам, ці выганам для жывёлы, якая ўтрамбоўвае грунт данага поля і гэтым значна зьніжае яго якасьць.

Бязумоўна, што стан папарнага кліну вельмі адбіваецца на ўраджаі. Выбар таго ці іншага папару справа вельмі адказная, бо ад гэтага залежыць тое, наскольки мы будзем спрыяць паляпшэньню, або пагаршэньню ўрадлівасьці нашае глебы.

Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі на сацыялістычны лад патрабуе ад нас максымальнага вучоту сучасных дасягненьняў навукі і тэхнікі, максымальнага выкарыстаньня ўсіх мажлівасьцяй, якія-б спрыялі чым найбольшаму падняцьцю ўраджайнасьці.

Нашы саўгасы і калгасы ўжо адкінулі дзедаўскія спосабы культуры і, зразумела, што аб т. зв. сялянскім позьнім папары і гутаркі ня можа быць. Але перад намі павінна паўстаць пытаньне: які-ж папар павінен быць у даных эканамічных і прыродна-гістарычных умовах?

Вядомая рэч, што для кожнага раёну, а можа і для кожнага буйнага калгасу папар, у залежнасьці ад мясцовых умоў, павінен быць выбран самастойна.

Па даных Дасьледчага поля Ціміразеўскай с.-г. Акадэміі найлепшым лічыцца чысты раньні папар.

Раньняе пульхненьне папару стварае вельмі добрыя ўмовы аэрацыі (праніканьне паветра) глебы, выклікаючы найлепшыя біолёгічныя ўмовы для жыцьця карысных бактэрый, працэсы ў пахаці. Чысты раньні папар намнажае найбольш вільготнасьці ў параўнаньні з іншымі відамі папараў. Чысты раньні папар да часу пасева намнажае

524 кілёграмы салетры (азотная спажыва расьлін) на 1 гектар, у той час як чорны папар 458 і позьні толькі 108 кілёгр.

Чысты раньні папар дае лепшыя ўраджаі жыта ў параўнаньні з іншымі відамі папару. Напрыклад, па даных таго-ж Ціміразеўскага дасьледчага поля ўраджай жыта ў сярэднім за шэсьць год на раньнім папары—24,8 цэнтнэра з гектару, або 50 проц. прыбаўкі ў параўнаньні з позьнім. Па чорным папары —20,8 цэнтн. або 26 проц. прыбаўкі ў параўнаньні з тым-жа позьнім папарам. Пасеяны пасьля жыта авёс даў таксама значную прыбаўку ўраджаю. Па чыстаму раньняму папару прыбаўка ўраджаю аўса-зерня была 25,9 проц., па чорнаму 18,5 проц. у параўнаньні з тым-жа позьнім папарам.

Не затрымоўваючыся на лубінавым папары, які для бедных пескавых глеб мае выключнае значэньне, трэба разглядзець два віды папараў, якія найбольш падыходзяць да нашых умоў, гэта бульбяны і вікава-аўсяны.

Па даных таго-ж Ціміразеўскага дасьледчага поля вільготнасьць папараў к часу пасеву жыта была:

Чысты раньні папар—17 проц.
Бульбяны —19,9 „
Вікава-аўсяны —18 „

У працягу лета ў пэрыяд найбольшага высыханьня глебы вікавааўсяны папар зьніжае сваю вільготнасьць ніжэй 10 проц., чаго ў іншых папарах ня бывае.

Колькасьць салетры на гектар у кілёграмах намнажаюць: раньні папар 513 клгр., бульбяны 254 клгр., віка-аўсяны—190 клгр.

Засьмечанасьць наступных пасьля папару культур па розных папарах будзе гэткая:

| Папары | У травастоі жыта кілёгр. сухога пустазельля на гект. | Ва ўраджаі жыта з гект. кілёгр. насеньня пустазельля |
|---|---|---|
| Раньні папар . . | 370 | 7,8 |
| Бульбяны папар . . | 237 | 7,8 |
| Вікавы . . . . | 532 | 34,3 |
| Позьні . . . . | 2112 | 62,2 |

Заўважым, што па вільготнасьці і па зьнішчэньню пустазельля бульбяны папар найлепшы; ён адстае толькі намнажэньнем салетры, у сувязі з чым важна знаць, як-жа гэта адаб'ецца на ўраджаі. Па тых-жа даных ураджаі жыта ў цэнтнэрах па розных папарах з гэктару былі:

1. Раньні папар . . . . 26,8 прыбаўка +8,3
2. Бульбяны папар . . 19,8 „ +3,9
3. Вікава-аўсяны . . . 20,8 „ +2,3

Мы бачым, што па ўраджайнасьці бульбяны папар займае сярэдняе месца. Паляпшаючы добра глебу, ён дае каля 4 цэнтнэр. зерня прыбаўкі ў параўнаньні з позьнім папарам.

Калі-ж улічыць эканамічную карысьць (эфэктыўнасьць) бульбянога папару, г. зн. улічыўшы ўраджай бульбы, які ў сярэднім прымем за 65,5 цэнтн. з гектару, плюс звыш 81,9 бацьвіньня—бульбянiку, якое можа быць выкарыстана на корм жывёле, дык становіцца зусім ясна, што зьняты папар выгадней чыстага.

Па даных Беларускай Дасьледчай Станцыі віка-аўсяная мешаніна ў папары дае 44,5 цэнтн. сырое масы, ці 19,7 цэнтн. сена з гектару. Бульба-ж у папары дае ўраджай 98,28 цэнтн. Лічбы гавораць самі за сябе і адсюль зусім ясна, што, маючы з папару такі ўраджай, эканамічны эфэкт занятых папараў значна вышэй чыстага, пры якім у нас вядомая частка зямлі штогод павінна быць вольнай ад пасеву.

Такім чынам, найлепшым занятым папарам трэба лічыць бульбяны. Вікава-аўсяны папар таксама дае прыбаўкі ўраджаю і ён у нашых умовах павінен мець месца. У сувязі з гэтым трэба паглядзець яшчэ на адзін бок справы. Вясною на рынку адчуваецца недахоп раньняе бульбы. Забясьпечаньне гарадзкіх рабочых цэнтраў раньняю бульбай мае вялікае значэньне і таму, калі-б мы хоць часткова займалі ёю свой папар, дык гэтае пытаньне было-б вырашана. Раньняя бульба магла-б вывазіцца і па-замежы БССР, у буйныя гарады Саюзу, як Ленінград і інш. Цэны вясною на раньнюю бульбу звычайна бываюць высокія, у Маскве і Ленінградзе за 400 грам бульбы плацяць 10—15 кап. Калі-ж прадаць бульбу нават па 6 руб. за цэнтнэр, дык пры ўраджаі 65,5 цэнтн. мы з гектару мелі-б 400 руб.

Калі-б саўгас, або калгас меў 20 *га* раньняе бульбы, сабраўшы ўраджай 1.310 цэнтн. і прадаў па вельмі нізкай цане—6 р. за цэнтн., дык ён валавую выручку меў-бы 8.000 руб., ці ня менш 5.000 руб. чыстага прыбытку, а ў сыстэме ўсёй народнай гаспадаркі БССР гэта склала-б вельмі значную суму.

Для гэтае мэты можна раіць вельмі раньні гатунак „Эпікур" ці „Раньні Ружовы", які ў БССР значна распаўсюджаны. Але раньні ружовы раўняцца з „Эпікурам" па многіх прычынах ня можа. Таму лепш займаць папар „Эпікурам".

**А. Дзямідовіч.**

---

# Засявайце сэрадэлю

Усім вядомы якасьці сэрадэлі, якая служыць і для корму жывёле і для ўгнаеньня поля. Засяваць яе вельмі выгадна, асабліва на пясчаных і супяшчаных глебах, на тых глебах, на якіх ня любіць расьці канюшына.

Але і цяпер часта прыходзіцца чуць, што сэрадэля то там, то тут не ўрадзіла. Уважна вывучаючы *прычыны гэтых няўродаў,* знайшлі, што яны *здараюцца, галоўным чынам, дзякуючы няўважліваму выкананьню асноўных правіл пасеву і догляду* за сэрадэляй.

*Каб у бягучым годзе ня было няўдач*, неабходна цьвёрда ведаць *і выконваць правілы пасеву сэрадэлі.*

Сэрадэлю трэба сеяць рана вясною. Замаразкаў яна не баіцца, а баіцца майскіх сухменяў.

Для пасеву трэба браць 45—60 кл. на гэктар добрага насеньня. Першыя пасевы сэрадэлі трэба заражаць. Для заражэньня бяруць 5—8 вазоў зямлі з поля, дзе раней расла сэрадэля. Раскідваюць зямлю раў-

намерна па полі, на якім мяркуецца сеяць сэрадэлю. Раскіданую зямлю трэба зараз-жа заараць плугам ці забаранаваць бараною. На ўгноенай зямлі сэрадэля часта ўдаецца і бяз заражэньня.

Добра расьце сэрадэля падсеяная ўвесну пад ярыну,—ячмень або авёс.

Сеяць сэрадэлю добра па забаранаванаму полю. Насеньне ня трэба запраўляць глыбей 2 сантым., бо іначай яно ня ўзойдзе. Па жыту сэрадэлю падсяваюць рана ўвесну, як толькі выяжджаюць у поле. Насеньне запраўляюць бараною—гэта жыту ня шкодзіць. Пры падсеве ў ярыну насеньне сэрадэлі можна высяваць радавой сеялкай адначасна з аўсом або ячмянём, добра перамяшаўшы іх. Пры ручным пасеве—высяваць па запраўленаму аўсу або ячменю і мелка забаранаваць.

Сэрадэля ня любіць сьмяцьцёвых траў. Таму поле пад сэрадэлю трэба добра ўзараць рана ўвосень або пускаць пад яе чыстае поле, напрыклад, пасьля бульбы або грэчкі. Калі сьмяцьцёвыя травы забіваюць сэрадэлю, не забудзьце прапалоць яе ці абкасіць.

На насеньне сэрадалю трэба касіць асьцярожна, па „расе“, каб бобікі стручкі яе не асыпаліся. Скошаную сэрадэлю зараз-жа прыбіраюць граблямі ў „валочкі“. Лепшым часам уборкі сэрадэлі на насеньне лічыцца момант дасьпяваньня, наліваньня бобікаў, калі яны ўжо не прасьвечваюцца. Перад возкай сэрадэлю трэба добра страсянуць над посьцілкай. Самае сьпелае насеньне пры гэтым асыпіцца—яго і трэба захаваць для пасеву ў наступным годзе.

Сэрадэля, якая да часу ўборкі збожжа амаль што няпрыкметная, пасьля ліпеньскіх дажджоў хутка абрастае і ў канцу восені можа даць звыш 22,5 цэнт. сена з гектару, а дзеля таго, што ўвосень сена трудна сушыць, дык сэрадэлю можна заквасіць на сілас. Такой квашанай сэрадэлі—сіласу з гэктара атрымліваецца 90 цнт.

Узімку сэрадэлю ахвотна ядуць каровы і даюць такія-ж удоі, як і на добрым выпасе. З вялікай карысьцю падсеўную сэрадэлю можна ўвосень пасьля замаразкаў або нават і ўвесну заараць на ўгнаеньне. Бульба і морква даюць добрыя ўраджаі па зааранай сэрадэлі.

У досьледах Новазыбкаўскай станцыі бульба па аднаму гною давала 162 цнт. на *га*, а там, дзе заворвалі з сэрадэляй і гной, атрымлівалі 234 цнт. на *га*. Такім чынам сэрадэля давала прыбаўкі 72 цнт. на *га*. Там, дзе сэрадзэля была скошана на корм і на полі потым былі завораны толькі яе карані, ураджай бульбы таксама павялічыўся на 34 цнт. на *га*.

Пад кармовую моркву клалі поўнае мінэральнае ўгнаеньне, але там, дзе ўгнаеньне было ўнесена на заворанай сэрадэлі, кармовая морква дала ўраджай на 69 цнт. на *га* больш, чымся па адным мінэральным угнаеньні.

Па скошанай сэрадэлі прыбаўка морквы атрымалася ў 26 цнт. на *га*.

Па досьледах станцыі сэрадэля павышае ня толькі ўраджай бульбы, але і наступнага за ім аўса.

Шмат хто баіцца, што падсеяная пад жыта ці авёс сэрадэля зьнізіць ураджай. Такія здарэньні бываюць вельмі рэдка, і то толькі ў дажджлівыя гады, як, напр., у 1928 г. сэрадэля пышна разьвілася яшчэ пад акрыцьцёвай расьлінай.

Шматгадовыя досьледы Новазыбкаўскай дасьледчай станцыі паказваюць наступнае:

Цэнтнэраў на гектар

| | | |
|---|---|---|
| Жыта без падсеву сэрадэлі | 15,3 зерня | 20,9 саломы |
| Жыта з падсевам сэрадэлі | 15,0 „ | 19,1 „ |
| Авёс без падсеву сэрадэлі | 13,5 „ | 16,7 „ |
| „ з падс. „ | 13,7 „ | 18,0 „ |

Ураджай збожжа не зьмяншаецца. А ад падсеўнай сэрадэлі гаспадарка атрымлівае добры корм і ўраджаі наступных за ёй пасеваў павялічваюцца. Падсявайце сэрадэлю сьмела, не пашкадуеце. Сэрадэля дапаможа калгасам і саўгасам павысіць свае ўраджаі і назапасіць корму для зімы.

Правілы пасеву сэрадэлі вельмі простыя. Пасеў танны, а карысьць ад сэрадэлі вялізарная. Сейце сэрадэлю-яна дапаможа ўзьняць гаспадарку на пясчаных глебах.

Аграном **Я. Панамарэнка.**

Новазыбкаўская с.-г.
дасьледчая станцыя.



Трактарнае ворыва ў саўгасе „Лубровіцы“ (Падольскае акругі).

# УВАГА ДРОБНАЙ ЖЫВЁЛЕ



Трус пароды „белы волат“ з племгасу Сеньніца, Менскай акругі і раёну.

## Мясная праблема і трусаводзтва

Пытаньне вырашэньня мясной праблемы зараз патрабуе сур'ёзнае ўвагі з боку ня толькі дзяржаўных устаноў, але і ўсёй грамадзкасьці. Прычыны цяжкасьці скlаліся на падставе цэлага шэрагу аб'ектыўных умоў, аб якіх у кароткіх рысах будзе сказана ніжэй. Пасьпяхова вырашыць гэтую досыць складаную задачу можна пры вялікай напружанасьці ўсіх працоўных ня толькі БССР, але і СССР.

Аднэй з галоўнейшых прычын харчавых недахопаў зьяўляецца дробна-ўласьніцкі характар с.-г. вытворчасьці, у якой і да гэтае пары яшчэ маюцца капіталістычныя элемэнты, якія ўвесь час упарта супраціўляюцца соцыялістычнаму наступу. Ад гэтага і залежыць часовае адставаньне разьвіцьця сельскае гаспадаркі ад патрабаваньняў, вызначаных пяцігодкай, і нашыя цяжкасьці ў забясьпечаньні прамысловасьці сыравінай, а гарадоў і прамысловых цэнтраў харчовымі прадуктамі. Асабліва адставаньне сельскай гаспадаркі назіраецца ў галіне жывёлагадоўлі. У БССР у гэтым годзе замест праектуемага пяцігодкай росту ў галіне жывёлагадоўлі назіраецца зьніжэньне на 3,1 проц., галоўным чынам у прыросьце маладняка, што яскрава сьведчыць аб зьмяншэньні мясных запасаў. Спажываньне мясных прадуктаў у сучасны момант значна падвышаецца, так, напрыклад, т. Мікаян гаворыць, што спажываньне мяса ў сельскай гаспадарцы падвысілася на 74 проц. З падвышэньнем бюджэту рабочых значна падвышаецца спажываньне масла і мяса. З другога боку, колькасны рост рабочых, праэктуемы

па пляну на 1929—30 г. на 28 проц. складае каля 10.000 чалавек. Што з падвышэньнем рэальнай зарплаты на 11 проц. таксама павялічвае значна запатрабаваньні на харчовыя прадукты, асабліва на мяса. Улічваючы ўсе гэтыя моманты для забясьпечаньня мясам усяго працоўнага насельніцтва БССР, патрэбна 3.300 дэкатон (дэкатона 610 пуд.), калі лічыць рабочым 150 грам у суткі, а інш. 100 грам. Нарыхтоўкі у БССР могуць даць каля 2.500—3.000 дэкатон (М. Карклін „Выкананьне пляну сацбудаўніцтва—шлях да вырашэньня харчовых цяжкасьцяй).

Такім чынам становіцца яскрава, што неабходна ці ўвозіць мяса ў БССР з другіх месц, ці вышукваць шляхі для забясьпечаньня ім унутры



Агульны выгляд трусаніка ў саўгасе „Кленава", Падольскага раёну.

рэспублікі. Мы схіляемся на другі шлях, таму што ёсьць досыць значная магчымасьць унутры БССР ня толькі забясьпечыць мясам насельніцтва ў дастатковай колькасьці, а пашырыць нашу апрацоўваючую прамысловасьць і значна павялічыць увоз валюты з-за меж, трэба толькі зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на трусаводзтва. На гэтую галіну ў свой час зьвяртаў нашу ўвагу т. Мікаян у брашуры „Праблема снабжэньня страны і рэконструкцыя народнае гаспадаркі" і інш. таварышы, але, на жаль, да гэтага часу сур'ёзнага размаху ў павялічэньні і палепшаньні трусаводзтва ў БССР яшчэ няма. Трэба адзначыць, што за межамі ўжо даўно зьвернута вялікая ўвага гэтай галіне і нам ня шкодна ад іх навучыцца і лепшыя моманты разьвядзеньня трусоў ужыць у сябе, таму што трусаводзтва ў БССР і нават у СССР пры існуючых умовах рэконструкцыі с. г., шляхам перабудовы яе ў плянавую колектыўную і саўгаскую гаспадарку, мае больш грунтоўныя экономічныя і гаспадарчыя падставы, чым за межамі. Пацьверджаньнем

гэтага служыць наяўнасьць у нашых гаспадарках цэлага шэрагу адкідаў ад кармоў, якія часта не скарыстоўваюцца, а выкідаюцца ў гной. Ёсьць шмат і такіх кармоў, якія незаўсёды зьбіраюцца ў гаспадарках, але могуць быць утылізаваны шляхам скармліваньня іх трусамі і, такім чынам, харчаваньне трусоў, калі ня ўлічваць працу па збору і нарыхтоўцы кармоў, абойдзецца зусім дарэмна. З такіх кармоў можна назваць наступныя: 1) зялёны капусны ліст, храпкі і качарэжкі, якія шляхам прасолкі могуць захоўвацца ўсю зіму і ў запараным і нават у сырым выглядзе могуць скармлівацца трусам, 2) сушоная крапіва ў запараным выглядзе, 3) сянная пацяруха, а асабліва канюшынная, якая скармліваецца ня толькі ў чыстым выглядзе, але можа ўжывацца як прысмака супольна з іншымі кармамі, 4) лясное сена, як маючае шмат усялякіх лісткоў ахвотна паядаецца трусамі, у той час калі коні і каровы часта іх ганьбуюць, 5) венікі, а таксама і галінкі дрэў, засушаныя ўлетку з лісьцем, таксама ахвотна паядаюцца трусамі. Можна з посьпехам уводзіць у рацыён для трусоў усялякага роду насеньне і лісьце розных араматычных траў (сьмяцьцёвых), якіх так шмат расьце на ўмежках нашых гародаў, садоў і ў полі, якія дзякуючы сваёй араматычнасьці паляпшаюць у трусоў апэтыт, 6) з вялікім посьпехам могуць быць ужыты ў харч трусом дробныя клубняплоды і бульба, якая вельмі часта ў гаспадарках зусім застаецца на палёх, 7) ня дрэнным харчовым прадуктам для трусоў зьяўляюцца апаўшыя ў садох зялёныя яблыкі ды ігрушы, якія гінуць у гаспадарках без скарыстаньня. Сюды можна аднесьці і недасьпеўшую гародніну, як гарбузы ды інш., 8) адкіды тэхнічных прадпрыемстваў таксама могуць паслужыць добрым кормам для трусоў.

Як відна з гэтых прыкладаў, арганізаваць харчаваньне трусоў ва ўсякай гаспадарцы вельмі лёгка і ня дорага. Даглядаць за трусамі могуць дзеці і старыкі, якіх нельга выкарыстаць для іншых больш-менш цяжкіх прац. Вось чаму трусаводзтва за межамі прыняло такое вялікае гаспадарчае значэньне, дае вялікі прыбытак, якога нельга атрымаць ні ад аднаго віду свойскае жывёлы.

Каб лепш уявіць сабе той размах і значэньне трусаводзтва за межамі, дастаткова сказаць, што ў 1926 г. у Францыі зварот мяса трусоў быў равен 160 мільёнам руб., а кошт шкурак, паступіўшых у перапрацоўку, быў роўны 56 мільёнам руб. Акрамя гэтага шмат трусоў было спажыта насельніцтвам, якое разводзіць іх.

Калі лічыць у сярэднім кошт шкуркі 3 руб., дык шкурак было-б больш 18 мільёнаў, а калі па 2 руб. дык 28 мільёнаў (трусаводзтва праф. Макарэўскага).

У Англіі адзін толькі Лёндан паядае за 1 толькі тыдзень каля 1 мільёну тушак трусоў, што за год складае болей 100 тыс. тон (тона—61 пуд). Паўночныя Штаты Амэрыкі завозяць з іншых дзяржаў каля 100 мільёнаў трусіных шкурак.

Не бяз сур'ёзнай увагі мы павінны аднесьціся і к таму факту, што на апрацоўцы трусіных шкурак у Францыі занята каля 30 тысяч рабочых. Вось тыя жывыя факты, якія яскрава даводзяць аб выгаднасьці гэтае галіны, а калі ўлічыць яшчэ, што мяса труса па сваім спажыўным якасьцям стаіць вышэй за валоўе і нават сьвіное і курынае, што скурка ад труса можа быць скарыстана як агульна даступны па цэнах мех дзеля цёплай адзежы, які легка падрабляецца пад колеры каштоўных мяхоў, што з пуху ад трусоў можна вырабляць розныя

шарсьцяныя вырабы—фэтр і інш., з абрэзкаў ад шкурак, вушэй, лап і інш. вырабляецца высокаякасны клей, трусіны памёт служыць добраякасным угнаеньнем у гародах і садох,—то зусім бясспрэчна становіцца неабходнасьць масавага разьвядзеньня трусоў у БССР. Нельга не адзначыць таксама вялікае пладавітасьці і хуткасьпеласьці трусоў, што ставіць іх на першае месца па сваёй прадукцыйнасьці сярод іншых відаў свойскае жывёлы.

*Якія-ж пэрспэктывы для свайго далейшага разьвіцьця мае трусаводзтва ў БССР?*

Па недахопу канкрэтных матар'ялаў у нашых зямельных, вучотных і дасьледчых установах, адкажам у досыць грубых разьліках на пастаўленае пытаньне.

На сёньня мы маем у саўгасах Белсельтрэсту (БСТ) 700 племянных трусоў (Сеньніца), акрамя гэтага мы маем некаторую колькасьць, ні-



Памяшканьне для трусоў у племгасе Сеньніца, Менскай акругі.

кім ня ўлічаную, трусоў у аматараў вёскі і ў гарадох. Паміж гэтых трусоў ёсьць чыстапародны матар'ял, але пераважная большасьць яго складаюць трусы беспародныя, якія ўтрымліваюцца самым прымітыўным спосабам. Белкалгасцэнтр мяркуе пабудаваць у бягучым годзе 10 племрассаднікаў, дзеля чаго бярэ ў БСТ 500 племянных самак па 50 галоў на кожны рассаднік і ў кожны рассаднік дадае па 10 самцоў, акрамя гэтага ў 1929-30 годзе мяркуецца закупіць 900 племяных самцоў, з якімі будзе рабіць мэтызацыю 4.500 набытых простых матак. На пабудову адпаведных памяшканьняў, на абсталяваньне і набыцьце трусоў Белкалгасцэнтр адпусьціў адпаведную колькасьць сродкаў. Белмалжывёлсаюз удзельнічае сваімі сродкамі ў гэтай галіне і мае спэцыялістага трусавода ў калгаснай сыстэме. Беларускі паляўнічы саюз таксама арганізоўвае сёлета 3 трусаводных гаспадаркі з агульным лікам каля 300 племянных трусоў.

БСТ, акрамя трусаводнай гаспадаркі ў Сеньніцы, арганізуе ў бягучую вясну шэраг новых племянных трусятнікаў.

Падагуліўшы ўвесь прыведзены матэрыял, ня ўлічваючы трусоў, якія знаходзяцца ў аматараў і ў навучальных установах, як с.-г. Акадэмія і інш., мы будзем мець каля 960 племянных матак і 4.500 простых, астатняя колькасьць будуць племяныя самцы ў ліку каля 1.240 шт., якія будуць адпаведна разьмеркаваны паміж трусаводнымі гаспадаркамі і рассаднікамі БССР. Вось тое ядро, на якое мы зараз можам апірацца ў далейшай працы па трусаводзтву, ды ня так дорага каштуе набыцьце нават большай колькасьці трусоў, аб чым адпаведным установам, як Белдзяржгандаль, Калгасцэнтр, Белсельтрэст і інш. неабходна паклапаціцца.

*Які-ж прыбытак у гаспадарцы могуць даць трусы?*

Прафэсар Макарэўскі па гэтаму пытаньню гаворыць наступнае: „Самка за адзін раз прыносіць ад 1 да 12 трусоў, але пажадана каб



Клетка для трусоў (племгас Сеньніца).

яна за адзін раз узронявала ня больш 8 штук, таму што вялікая колькасьць іх вельмі сьцягвае самку. Такім чынам да 4—5 магчымых краленьняў у год, можна атрымаць ад 1 самкі ў сярэднім 20 і нават болей трусоў. Прымаючы пад увагу, што частка з іх родзіцца самцоў, а таксама некаторы процант будзе адыходу на падзеж і інш. страты, мы можам разьлічваць, што асноўнае матачнае ядро штогод павялічваецца мінімальна ў 10 раз“.

Такім чынам праз 3 гады будзем мець 960 тысяч племяннога матарыялу, акрамя таго, што кожны год мы будзем мець павялічэньне колькасьці шкурак і мяса ад убою самцоў, і калі на такім матачным ядры застанавіцца, то штогод мы зможам атрымаць 9 мільёнаў 600 тысяч скурак (калі лічыць прыплод у сярэднім 10 трусоў на год). Калі гэтыя скуркі вывезьці за межы, дык мы зможам увезьці 19.200 тыс. р.

штогод (лічучы кошт 1 скуркі у сярэднім толькі 2 рублі). Прыведзеныя лічбы малююць толькі мінімальную магчымасьць, а пры належнай увазе гэтая лічба можа значна павялічыцца. Скуркі можна апрацаваць унутры рэспублікі, шляхам пабудовы апрацоўваючых заводаў і такім чынам уліць новыя сотні людзей у шэраг рабочых мас гораду. Мы можам атрымаць ад такое колькасьці забітых трусоў мяса штогод 900 тысяч пудоў, лічучы што кожны трус дасьць толькі паўтара кілёграма (колькасьць мінімальная). Гэтая лічба значна прыўменшана, папершае, таму, што кожны трус у сярэднім важыць значна больш (у некаторых выпадках трус важыць каля 8 кіл.), а па-другое, штогодны прыплод бывае значна большы чым мы дапускаем і ня будзе ніякай рызыкі, калі колькасьць атрымліваемага штогод мяса мы прымем у два разы большую, альбо 1.800 тысяч пуд., інакш кажучы гэтая колькасьць складзе 89% ад усяго запросу на мяса па БССР праз тры гады. Таварны зварот мяса ад забракаваных самцоў і ад прыплодаў па 10 шт. штогод, які дадуць 4.500 простых матак, прынятых за ядро, з убойнай вагай прыплоду ў 2 кілёграма кожнай штукі, па гадох выразіцца ў наступных лічбах.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| У 1-шы год | 6.525 пуд. | альбо | 0,3% | ад запатрабаваньня |
| у 2 „ | 14.625 „ | „ | 0,7% | „ |
| у 3 „ | 95.625 „ | „ | 4,7% | „ |
| і на 4 год | 1.800.000 „ | „ | 89% | „ |

Калі нават прыняць першую мінімальную лічбу ў 900 тысяч пудоў мяса дык і то яна будзе складаць каля 45% ад агульнай колькасьці патрэбнага мяса для забясьпечаньня насельніцтва БССР. Вось якую масу мяса, і скурак можа даць „нікчэмная“ жывёла—трус, да якога дасюль адносіліся ў нас як да нікому непатрэбнай забавы.

У паасобнай гаспадарцы, якая займаецца трусаводзтвам, гэтая галіна дае надзвычайна вялікі прыбытак. Мы ня будзем такімі прыкладамі займаць чытача, таму што вельмі добра гэта апісана ў існуючых падручніках, а пагэтаму ташлем чытача, які цікавіцца, к кнізе прафэсара Макарэўскага „Кролиководство“ і Галубчыка „Прыбытковае трусаводзтва“.

1-ая Ўсебеларуская Выстаўка с.-г. і прамысловасьці, якая адбудзецца сёлета ў жніўні месяцы, павінна зьявіцца школай і папулярызатарам гэтай галіны. Кожны калгасьнік, саўгасьнік, батрак, бядняк і серадняк вёскі і наогул кожны, хто зацікаўлены трусаводзтвам, зможа павучыцца гэтай нескладанай, але вельмі прыбытковай справе. На выстаўцы будзе прадстаўлена 120 трусоў галоўнейшых парод, якія маюцца ў БССР, а таксама сярод няжывых экспонатаў будзе дэмонстравацца шмат мадэляў, прыладаў, інвэнтару і будынкаў, неабходных для вядзеньня трусаводзтва, а таксама будуць дэманстравацца дыяграмы, плякаты і лепшыя падручнікі, якія будуць вучыць правільнаму вядзеньню гэтае галіны.

**І. Крывадубскі.**
**П. Сяргейчык.**

# СЬЦЕРАЖЫСЯ ТРЫХІНОЗУ [1])



Трыхінаскоп для распазнаваньня заражонае трыхінозам сьвініны.

## Як трэба весьці барацьбу з трыхінозам

З гэтай распаўсюджанай хваробай трэба вясьці самую рашучую барацьбу, іначай яна можа канчаткова падарваць сьвінаводзтва паасобных раёнаў і нават цэлых акруг.

Хоць хворую на трыхіноз сьвіньню лячыць немагчыма, але перасьцерагчы ад гэтай хваробы ня толькі можна, але і трэба.

Мы ўжо ведаем, што сьвіньні заражаюцца трыхінозам паядаючы пацукоў і іх трупы, адкіды ад заражоных сьвіных туш і ад пацуковага памёту, які пападае ў корм. Тады трэба каб кожны саўгас і калгас трымаў сваіх сьвіней у такіх умовах, пры якіх яны не маглі-б заразіцца трыхінозам праз пацукоў і іх памёт.

Для гэтага трэба так будаваць сьвінухі, каб у іх не маглі завадзіцца пацукі. Неабходна ўнікаць падвойнае падлогі, закладзеных дошкамі ясьляй, закрытых жолабаў і іншых месц. Пры пабудове сьвінарнікаў карысна перад тым, як насьцілаць падлогу, насыпаць пад падлогу густы пласт дробнага шкла.

Кожную сьвіньню перад убоем трэба даваць на агляд свайму participants участковаму вэтурачу, ці прывазіць для агляду ў гарады на мяса-кантрольныя станцыі, а адкіды ад неагледжанай сьвіньні не даваць сьвіньням у корм і не выкідаць на двор.

Але самым надзейным сродкам, які можа канчаткова пазбавіць сьвіней і чалавека ад заражэньня трыхінозам—гэта поўнае зьнішчэньне ўсіх пацукоў. Трупы пацукоў неабходна абавязкова закопваць у зямлю, ці, яшчэ лепш, спальваць.

## Як захаваць здароўе людзей ад трыхінозу

У мэтах абароны здароўя людзей ад захворваньня на трыхіноз, трэба заўсёды ўжываць у ежу толькі такую сьвініну, якая агледжана вэтэрынарам.

[1]) Канец артыкулу, зьмешчанага ў часопісу „Шляхі Калектывізацыі“ № 1—1930 г.

У вэтэрынарных урачоў ёсьць асобныя прылады трыхінаскопы (гл. мал.) для агляду сьвінога мяса. Кожны зацікаўлены ў гэтым заўсёды можа атрымаць ад вэтурача самыя дакладныя зьвесткі аб тым, наколькі прыгодна ў ежу мяса забітае сьвіньні.

За межамі, пасьля ўвядзеньня абавязковага вэтэрынарнага агляду сьвініны, пошасьць (эпідэмія) на трыхіноз зусім спынілася.

У нас на БССР таксама можна ажыцьцявіць абавязковы агляд сьвіных туш: у кожным раёне ёсьць па аднаму вэтпункту, а ў некаторых і па два. Кожны саўгас, калгас і паасобны гаспадар мае мажлівасьць прывезьці сьвіную тушу для агляду на гэтыя пункты. У крайнім выпадку можна даставіць для агляду кавалачкі мяса з той плявы, якая аддзяляе грудзі ад бруха (т. зв. грудабрушная перагародка) з тэй яе часткі, якая прымацоўваецца да рэбраў. Можна прыносіць кавалкі мяса і з іншых частках тушы, але, галоўным чынам, з мускулаў языка і горла.

У кожным акруговым горадзе БССР ёсьць спэцыяльна абсталёваныя мяса-кантрольныя станцыі, на якіх робяць агляд сьвінога мяса на трыхіны і куды кожны можа даставіць для агляду сьвіную тушу ці кавалкі сьвінога мяса, узятыя пераважна з паказаных месц.

### Што трэба памятаць кожнаму пра трыхіноз

1) Ня трэба ўжываць у ежу сьвінога мяса, якое ня было агледжана вэтэрынарным урачом.

2) Ня трэба выкідваць і даваць сабакам, кошкам і тым больш сьвіньням адкідаў пасьля забою сьвіней, тушы якіх яшчэ не агледжаны вэтурачом.

3) Ніколі ня трэба есьці самому і ня сьлед даваць жывёле сьвінога мяса ў сырым, аб напоўсырым відзе.

4) Неабходна ўсе знойдзеныя трупы пацукоў абавязкова закопваць у зямлю ці спальваць, таксама і трупы сьвіней павінны закопвацца ў зямлю на скоцкіх могілках.

5) Трэба зьнішчаць пацукоў усімі вядомымі спосабамі (атрутаю, пасткамі і г. д.).

6) Ува ўсіх выпадках захворваньня сьвіней невядомай хваробай, трэба зварочвацца за дапамогай да вэтэрынарнага ўрача.

Толькі пры сумеснай працы вэтэрынарнага пэрсаналу і самога насельніцтва можна канчаткова выкараніць распаўсюджаную ў нас у сучасны момант трыхінную хваробу.

Толькі тады наша сельская гаспадарка пазбавіцца ад той вялікай страты, якая наносіцца ёй гэтай страшэннай хваробай—трыхінозам.

Усе на барацьбу з трыхінозам! Мы павінны не дапусьціць гэту хваробу ў нашы калгасы і саўгасы. Мы павінны зьнішчыць яе канчаткова. Гэта залежыць ад нас саміх. Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**



# Хэмія ў падвышэньні ураджайнасьці




Ураджаі Турскай С.-Г. Дасьледчай Станцыі.

## Хэмізацыя сельскае гаспадаркі БССР

Сучасны стан сельскае гаспадаркі БССР характырызуецца надзвычайна нізкай прадукцыйнасьцю. Для падкрэсьленьня гэтага дастаткова паказаць, што сярэднія ўраджаі зернявых культур у сучасны момант па БССР не перавышаюць 6—7 цэнтнэраў зерня на *га*. А між тым даныя дасьледчых станцый БССР, а таксама практыка некаторых замежных краін з шырокім ужываньнем мінэральных угнаеньняў паказвае, што нашы сярэднія ўраджаі могуць быць у 2—3 і нават у 4 разы вышэй у параўнаньні з сучаснымі.

Для гэтага патрэбна, у першую чаргу, зьвярнуць увагу на пытаньні ўгнаеньня глебы. У нашых умовах найбольшы эфэкт у справе

павялічэньня ўраджайнасьці можа даць гной, лубін, торф і асабліва мінэральныя ўгнаеньні.

Нашы глебы ў галоўнай сваёй частцы надзвычайна бедныя пажыўнымі матэрыямі. Але затое нашы падзолавыя, суглінкавыя і супескавыя глебы вельмі моцна рэагуюць на ўжытае ўгнаеньне. Розныя віды ўгнаеньняў у нашых умовах даюць павышэньне ўраджайнасьці на 50—70 проц. Вось чаму пытаньню хэмізацыі сельскае гаспадаркі Камуністычнай партыяй і Савецкай уладай надаецца належная ўвага. Праз павялічэньне колькасьці гною ў сельскай гаспадарцы, праз пашырэньне пасеваў лубіну на ўгнаеньне, ужываньне торфу ў сельскай гаспадарцы і, асабліва, праз шырокае ўжываньне мінэральных угнаеньняў на базе суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі—нашы ўраджаі ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы могуць дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны.

Усім вядома, што с.-г. расьліны для свайго харчаваньня бяруць пажыўныя матэрыі галоўным чынам з зямлі. Толькі вуглярод, неабходны для пабудовы арганічные матэрыі расьліны, апошнія бяруць з паветра пры дапамозе зялёнай часткі ліста.

Для свайго харчаваньня с.-г. расьліны бяруць з зямлі галоўным чынам азот, фосфар, калі і вапну. Нам прыходзіцца клапаціцца аб забесьпячэньні расьліны менавіта гэтымі пажыўнымі матэрыямі.

З кожнага гэктара, ураджаем с.-г. расьлін бярэцца пэўная колькасьць азоту, фосфарнай кіслаты, калія і вапны. Пры гэтым, чым лепшы ўраджай атрымліваецца на нашых палёх, тым больш пажыўных матэрый бярэцца з глебы. Так, сярэднімі ўраджаямі ў беларускіх умовах за 1924-27 г. г., можна лічыць, узята наступная колькасьць пажыўных матэрый з 1 *га* за год:

| Назва культуры | Ураджай у цэнтн. | | Узята пажыўных матэрый у кілёгр. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Зерня або клубн. | Саломы і мякіны | Азоту | Фосфар. кіслаты | Калія | Вапеня |
| Азімае жыта . . . | 6,55 | 11,23 | 16,0 | 8,4 | 13,5 | 3,8 |
| Авёс . . . . | 6,87 | 9,9 | 17,6 | 7,5 | 19,4 | 5,0 |
| Ячмень . . . . | 7,05 | 9,9 | 17,6 | 7,4 | 12,4 | 3,7 |
| Бульба . . . . | 85,57 | 40 (б). | 48,7 | 20,1 | 66,8 | 28,2 |
| Лён . . . . | 3,0 | 11,70 | 15,1 | 9,0 | 14,3 | 8,9 |

З павялічэньнем ураджайнасьці сельскае гаспадаркі ў канцы пяцігодкі на 60 проц. у калектыўных гаспадарках і на 70 проц. у савецкіх гаспадарках, адпаведна павялічыцца і колькасьць узятых з глебы пажыўных матэрый. А каб гэта павялічэньне ўраджайнасьці ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы было рэальна магчыма, патрэбна забясьпечыць глебу значна большай колькасьцю ўгнаеньня.

Нашы сродкі ўгнаеньня глебы маюць у сабе тыя пажыўныя матэрыі, якія патрэбны для расьліны. Так, гной зьяўляецца поўным угнаеньнем і мае ў сябе азот, фосфарную кіслату, калі і вапну.

Лубін на ўгнаеньне, пры дапамозе клубяньковых бактэрый, якія жывуць на карэньнях, узбагачае зямлю азотам з паветра. Торф пераважна зьяўляецца азоцістым угнаеньнем. Мінэральныя ўгнаеньні— азоцістыя забясьпечваюць глебу азотам, фосфарна-кіслыя—фосфарнай кіслатой, каліевыя—каліем, а вапна забясьпечвае глебу вапенем. Попел мае ў сябе калі, фосфарную кіслату і вапну.

Калі пералічыць атрыманы ў БССР ураджай і ўжытае ўгнаеньне за розныя гады на 1 *га* засеўнай плошчы ў пажыўных матэрыях па сярэдняму хэмічнаму складу, дык мы атрымаем наступны малюнак:

Вынас ураджаямі і ўнясеньне пажыўных матэрый з угнаеньнем у БССР на 1 *га* засеўнай плошчы (у кілёгр.):

| Гады | Ужыта ў выглядзе | | | | Усягоужыта | Усягоўзята | Розьніца на карысьць угнаен. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Гною | Зялёнага ўгнаен. | Мінэр. угнаен. | Торфу і інш. | | | |
| 1926 . . | 20,5 | 2,5 | 0,0 | азот | 23,0 | 19,1 | + 3,9 |
| 1928 . . | 22,8 | 2,2 | 0.0 | — | 25,0 | 23,4 | + 1,6 |
| 1932 . . | 31,1 | 13,6 | 5,1 | 18,2 | 68,0 | 31,0 | +37.0 |
| **Фосфарная кіслата.** | | | | | | | |
| 1926 . . | 9,2 | — | 0,5 | — | 8.7 | 8.4 | + 0,3 |
| 1928 . . | 9,1 | — | 1,8 | — | 10.9 | 10,0 | + 0.9 |
| 1932 . . | 12,4 | — | 15,0 | 0.9 | 28,3 | 13.2 | +15,1 |
| **Калі** | | | | | | | |
| 1926 . . | 24,6 | — | 0,0 | — | 24,6 | 21.6 | + 3,0 |
| 1928 . . | 27,3 | — | 0.5 | — | 27,8 | 25.8 | + 2.0 |
| 1932 . . | 37,3 | — | 10.5 | 0,8 | 48,6 | 34,1 | +14,5 |
| **Вапень** | | | | | | | |
| 1926 . . | 20,5 | — | — | — | 20.5 | 5,7 | + 14,8 |
| 1928 . . | 22,8 | — | 0,9 | — | 23.7 | 8.4 | + 15.3 |
| 1932 . . | 31,1 | — | 80,2 | 3,3 | 114,6 | 11.5 | +103.1 |

Табліца яскрава сьведчыць, што за 1926 і 1928 год у нас устанавілася некаторая роўнавага паміж ужытым угнаеньнем і атрыманым ураджаем. Гэта раўнавага ня спрыяла павялічэньню ўраджайнасьці, а наадварот, затрымлівала ўзрост нашых ураджаеў. Нашы ўраджаі, як быццам, стабілізаваліся.

Каб парваць гэта зачарованае кола паміж угнаеньнем і ўраджаем, патрэбна значнае павялічэньне колькасьці ўгнаеньняў. Як відаць з табліцы, у 1932 годзе можна чакаць значнага павялічэньня колькасьці пажыўных матэрый, ужытых з угнаеньнем на 1 *га* засеўнай плошчы,

Гэта павялічэньне колькасьці пажыўных матэрый датычыцца ўсіх відаў угнаеньня ў сельскай гаспадарцы БССР.

Так, колькасьць гною павялічваецца ня толькі за кошт павялічэньня колькасьці жывёлы, але і за кошт павялічэньня выхаду гною ад аднае штукі жывёлы ў год. Выходзячы з паляпшэньня ўмоў харчаваньня жывёлы можна меркаваць, што колькасьць гною ад аднае штукі буйнае рагатае жывёлы павінна павялічыцца з 4,2 тоны ў 1926 годзе да 6 тон у 1932 годзе. Адначасова з гэтым павінны быць прыняты меры ў саўгасах і калгасах для лепшага захоўваньня і выкарыстаньня гною. Гной у сельскай гаспадарцы БССР прыходзіцца разглядаць як галоўнае ўгнаеньне, якое разам з торфам і лубінам зьяўляецца неабходным для карэннай запраўкі глебы. На фоне гэтых арганічных угнаеньняў лепш павінны ўплываць мінэральныя ўгнаеньні.

Неабходна яшчэ адзначыць, што ў нашых умовах наглядаецца значны недахоп подсьцілу для жывёлы. Гэты недахоп у 1932—33 годзе па БССР дасягае да 1.100.000 тон сухога подсьцілу. Гэта колькасьць неабходна папоўніць за кошт здабычы тарфянога подсьцілу.

Зялёнае ўгнаеньне, як лубін, сэрадэля і г. д., у бліжэйшыя гады павінна значна пашырыцца. З 52 тысяч *га* ў 1928 г. пасевы лубіну павінны павялічыцца да 520 тыс. *га* ў 1932 г. Пасевы лубіну на ўгнаеньне павінны пашырацца ў першую чаргу на лёгкіх глебах, як пяскі і супяскі, але і на больш цяжкіх глебах лубін зьяўляецца каштоўным угнаеньнем. Лубін павінен высявацца ў занятым папары, а таксама ў якасьці падсяўной і пажніўнай культуры.

Торф зьяўляецца таксама каштоўным угнаеньнем пры недахопе гною ў сельскай гаспадарцы. Лепшымі шляхамі для ўжываньня торфу ў сельскай гаспадарцы зьяўляецца выкарыстаньне яго ў якасьці падсьцілу для жывёлы, затым у якасьці кампосту разам з гноем (3—4 часткі торфу і 1 частка гною) і пры палявым кампаставаньні разам з гноем (1 частка гною і 1 частка торфу).

Мінэральныя ўгнаеньні зьяўляюцца вельмі хуткадзейнічаючым фактарам у справе падвышэньня ўраджайнасьці. Акрамя таго, у БССР мінэральныя ўгнаеньні даюць высокую эфэктыўнасьць. У гэтых адносінах даказваць патрэбнасьць мінэральных угнаеньняў у сельскай гаспадаркі БССР справа зусім лішняя. Трэба толькі клапаціцца аб большым забясьпечаньні сельскае гаспадаркі мінэральнымі ўгнаеньнямі і найбольш мэтазгодным іх выкарыстаньні.

У канцы пяцігодкі, г. зн. у 1932—33 годзе ў БССР мяркуецца ўжыць па новаму пляну больш 2 мільёнаў тон азоцістых, фосфарна-кіслых і каліевых угнаеньняў і больш 2 мільёнаў тон молатае вапны. З мінэральных угнаеньняў больш усяго павінна быць зьвернута ўвага на фосфарна-кіслыя ўгнаеньні і вапну. Нашы суглінкавыя і нават супескавыя глебы найбольш чулы да ўжываньня фосфарна-кіслых угнаеньняў. Пасьля задавальненьня патрэбнасьці глебы ў фосфарнай кіслаце, пачынае адчувацца патрэбнасьць у азоце і нарэшце ў каліі. На пескавых глебах у першую чаргу адчуваецца патрэбнасьць у азоцістых угнаеньнях, а затым у каліевых і фосфарна-кіслых. Балотныя глебы патрабуюць ужываньня каліевых угнаеньняў, а ў шмат якіх мясцох і фосфарна-кіслых.

З фосфарна-кіслых угнаеньняў асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на супэрфосфат і фосфарытавую муку для суглінкаў. Фосфарытавая мука ў колькасьці 6 цэнтн. на *га* зьяўляецца каштоўным угнаень-

нем пад азімае жыта. Фосфарытавая мука рашчыняецца павольна, а таму пад яравыя культуры яе лепш ужываць з восені. Асабліва каштоўным зьяўляецца ўжываньне фосфарытавай мукі супольна з сульфат-амоніем (1,5 цэнтн. на *га)*. Прычым у гэтым выпадку фосфарытавая мука рашчыняецца хутчэй і зьяўляецца карыснай нават вясною.

Вапна зьяўляецца ўкосна-дзейным угнаеньнем. Асаблівая каштоўнасьць вапны заключаецца ў тым, што яна зьнішчае кісласьць у глебе і надае глебе дробна-грудкаватую пабудову. На нашых кіслых падзолавых глебах вапнаваньне зьяўляецца вельмі патрэбным і на гэта мерапрыемства саўгасы і калгасы павінны зьвярнуць выключную ўвагу.

У заключэньне трэба адзначыць, што колькасьць угнаеньняў у сельскай гаспадарцы БССР у канцы пяцігодкі павялічваецца ў 3 разы супроць 1928—29 году. Каб мець пэўную карысьць ад гэтых угнаеньняў, трэба шырока разгарнуць дасьледчую працу з угнаеньнямі. Неабходна вызначыць пэўныя сыстэмы ўжываньня ўгнаеньняў у пэўных севазваротах. У гэтых умовах можна разьлічваць на значнае павялічэньне ўраджайнасьці ў сацыялістычнай сельскай гаспадарцы БССР.

**М. Савіцкі.**

---

# Што дае хімічная прамысловасьць сельскай гаспадарцы

У справе ўзьняцьця ўраджайнасьці хімічная прамысловасьць адыгрывае вялізарнейшую ролю. Ужываючы хімічныя ўгнаеньні можна адразу павялічыць ураджай на 50%. Ня меншае значэньне мае хімія ў барацьбе са шкоднікамі сельскай гаспадаркі. Савецкая ўлада робіць усё магчымае, каб задаволіць гаспадаркі неабходнымі хімічнымі прадуктамі. Згодна пяцігадовага пляну наша хімічная прамысловасьць павінна шырока разгарнуцца.

Ураджаі ў СССР у шмат якіх раёнах нізкія, у параўнаньні з ураджаямі заграніцай, ня гледзячы на захады, якія робіць наш урад для падвышэньня ўраджайнасьці.

Высокія ўраджаі заграніцаю тлумачацца, галоўным чынам, тым, што там у вялікай колькасьці кладуць штогод у глебу мінэральнае ўгнаеньне, а таксама, з дапамогаю хімічных матар'ялаў, змагаюцца са шкоднікамі,—рознымі казуркамі і хваробамі расьлін.

Вядома, што павышэньне ўраджайнасьці на 50% залежыць толькі ад ужываньня мінэральных угнаеньняў.

У дарэволюцыйнай Расіі розныя мінэральныя ўгнаеньні ўжываліся выключна ў буйных абшарніцкіх гаспадарках; селянін аб гэтым і ня марыў, з аднаго боку,—з прычыны іх дарагоўлі, а з другога,—таму, што іх наогул было мала. Але бяда была яшчэ і ня ў гэтым, а ў тым, што хімічная прамысловасьць была разьвіта вельмі слаба, а большая частка галоўных хімічных матар'ялаў прывозілася да нас з заграніцы, галоўным чынам з Нямеччыны.

Што датычыць барацьбы са шкоднікамі і хваробамі расьлін, дык фактычна толькі пасьля рэвалюцыі пачалі зварачаць увагу на гэту справу, асабліва на ўжываньне хімічных продуктаў, якія раней у нас зусім не вырабляліся, прывозіліся выключна з заграніцы. Толькі за апошнія гады, дзякуючы попыту на гэтыя матэрыі і цэламу шэрагу іншых прычын, нашы прадпрыемствы пачалі выпрацоўку гэтых матэрый на нашых заводах.

Вялікім дасягненьнем у справе індустрыялізацыі краін зьяўляецца вытворчасьць у СССР розных апаратаў для барацьбы са шкоднікамі на заводзе „Вулкан“ трэсту масавай вытворчасьці ў Ленінградзе, так што ўвоз гэтых апаратаў з заграніцы амаль-што спыніўся. Спачатку вытвору гэтых апаратаў—1924 г.—распаўсюджана ўжо звыш 100 тыс. штук па ўсяму Саюзу.

Калі мы возьмем толькі адну Паўночную вобласьць, у сэнсе забясьпечаньня яе матэрыямі і апаратамі для барацьбы, дык мы ўбачым, што ў 1915 г. было разьмяркована толькі каля 7.000 кгр. матэрый і 20 апаратаў, а ў 1927—28 г. ужо 260.000 кгр. матэрый, і маецца па вобласьці звыш 2.000 розных апаратаў, уключаючы сюды і магутныя апырскваце́лі і апылкаваце́лі.

Лічачы, што хімічныя ўгнаеньні вельмі карысны для падняцьця ураджайнасьці, шляхам унясеньня іх у глебу, а таксама і для зьніштажэньня шкоднікаў, неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на хуткі тэмп разьвіцьця нашай хімічнай прамысловасьці, якая зьяўляецца асновай усёй народнай гаспадаркі СССР.

Ужо зараз мы бачым, што ўсе тыя хімічныя продукты, а таксама і неабходныя нам апараты, мы можам рабіць унутры краіны, скарачаючы гэтым пакупкі заграніцай.

Трэба цьвёрда памятаць, што без разьвіцьця хімічнай прамысловасьці, асабліва ў сучасны момант, немагчыма і абарона краіны, бо большасьць хэмматар'ялаў, якія ўжываюцца ў мірны час у сельскай гаспадарцы, у часе вайны ўжываюцца для вайсковых мэт. Так, напрыклад, салетра ўжываецца для вырабу выбухавых матэрый, як і азотная кіслата, з якой атрымліваецца салетра і серкавая кіслата. Супэрфасфат—угнаеньне, якое патрабуе для свайго вырабу, як сыравіны,—фасфарыту, які таксама ідзе на выраб розных выбуховых матэрый, стварэньне дымовых заслонаў і атрутных газаў.

Меленіт, які шырака ўжываецца на вайне, атрымліваецца з матэрый пераапрацоўкі сернакіслага аміяку; аршэньнік, мыш'як, які ўжываецца для зьністажэньня грызуноў і іншых шкоднікаў, фармалін,—які ідзе на пратручваньне насеньня, хлёр і элёр-пікрын—пры дапамозе якіх труцяць грызуноў у стэпу і на палёх, а таксама і шкоднікаў зерня і мукі на складах, ужываюцца ў часе вайны для вырабу розных атрутных матэрый.

Такім чынам заводы і фабрыкі, якія вырабляюць хімічныя прадукты, могуць служыць, у залежнасьці ад умоў, і для мірнага будаўніцтва і для вайсковых мэт, пераводзячы іх, у выпадку неабходнасьці, на вырабатку выбуховых матэрый, без асаблівых страт, а таксама і часу.

У сучасны момант, у сувязі з задачай павышэньня ўраджайнасьці, урад прымае шэраг мерапрыемстваў да вытворчасьці, распаўсюджваньня і зьніжэньня сабекошту ў нас у СССР хімічных прадуктаў.

Так, напрыклад, для азнаямленьня шырокіх мас насельніцтва з мінэральнымі ўгнаеньнямі і матэрыямі для барацьбы са шкоднікамі, адпушчаюцца сродкі на пастаноўку шырокіх досьледаў з гэтымі матэрыям ў калгасных гаспадарках, пад кіраўніцтвам спэцыялістых-аграномаў.

З мэтаю ўкараненьня хімпродуктаў у гаспадаркі калгасаў, саўгасаў, пры пакупцы даецца доўгатэрміновы крэдыт, а большасьць матэрый для барацьбы са шкоднікамі і хваробамі расьлін адпускаецца дарма, асабліва пры масавым зьяўленьні шкоднікаў, як, напрыклад, шаранчы, лугавога матыля, азімай соўкі, палявога смаўжа.

Каб зьнізіць сабекошт хімічных прадуктаў, прыняты шэраг мерапрыемстваў па аднаўленьню заводаў, якія раней выраблялі хімпрадукты, а таксама і па пабудове новых заводаў унутры краін.

Хуткі тэмп разьвіцця хімічнай прамысловасьці ў СССР дае неабходную колькасьць як мінэральных угнаеньняў, так і атрутных хімічных матэрый для барацьбы са шкоднікамі.

Па 5-гадоваму пляну, урадам дана дэрыктыва разгарнуць прамысловасьць з такім разьлікам, каб вытворчасьць хімпрадуктаў, а таксама і апаратаў для барацьбы са шкоднікамі сельскай гаспадаркі была даведзена да наступных разьмераў:

| | | |
|---|---|---|
| Фосфарна-кіслыя ўгнаеньні | 3.400 | тыс. тон. |
| Фосфарытная мука | 2.700 | „ „ |
| Азоцістыя ўгнаеньні | 1.000 | „ „ |
| Калійная соль | 1.500 | „ „ |
| Матэрыі для барацьбы са шкоднікамі | 200 | „ „ |
| Апаратура | 300 | „ штук |

Пры выкананьні гэтага пляну і пры бесьперабойным снабжэньні сельскай гаспадаркі, будзе выканана заданьне па падвышэньні ўраджайнасьці.

Спэцыялісты **М. Гафрон.**

---

## Пашырым вапнаваньне глебы

Адным з галоўных мерапрыемстваў, якое патрэбна правесьці ў вясеньнюю с.-г. кампанію і якое зьяўляецца адным з забясьпечваючых вырашэньне праблемы ўраджайнасьці, ёсьць практычнае правядзеньне



На вапненых распрацоўках пры саўгасе Покрышава, Грэскага раёну, Менскай акругі.

ў жыцьцё вапнаваньня глебы. Вялікая квасьнасьць беларускіх глеб значна перашкаджае далейшаму ўнядрэньню і прыстасаваньню завазімых мінэральных угнаеньняў, якія даюць меншы эканамічны эфэкт

пры ўнясеньні іх у падзолістыя квасныя глебы. Вапнаваньне глебы зьнішчае гэтую квасласьць і таму правядзеньне яго ва ўмовах Беларусі будзе адным з карысных мерапрыемстваў. Увага па выкананьню вызначаных заданьняў па кожнаму раёну ў кожнай гаспадарцы, павінна быць згуртавана ўсёй савецкай грамадзкасьцю. Дзякуючы ўжываньню вапны, мажліва ўраджайнасьць зернявых падвысіць на 15 проц. і бабовых на 25 проц.

У вясеньнюю с.-г. кампанію, згодна пляну НКЗБ патрэбна вапнаваць пад яравыя культуры па акругах наступную колькасьць гэктараў:

| Назва акругі | У саўг. | У калгасах | Усяго | Патрэбна вапны ў тон |
|---|---|---|---|---|
| 1. Аршанская . . | 270 | 1800 | 2070 | 6210 |
| 2. Бабруйская . . | 864 | 2630 | 3464 | 10392 |
| 3. Віцебская . . | 108 | 2100 | 2208 | 6624 |
| 4. Гомельская . . | 648 | 1600 | 2248 | 6744 |
| 5. Магілеўская . . | 270 | 3000 | 3270 | 9810 |
| 6. Мазырская . . | 81 | 1000 | 1081 | 3243 |
| 7. Менская . . . | 2052 | 3000 | 5052 | 15156 |
| 8. Полацкая . . . | 27 | 1700 | 1727 | 5181 |
| Усяго па БССР . | 4320 | 16800 | 21160 | 63480 |

У першую чаргу вапнаваць патрэбна тыя плошчы пахаці, якія ідуць пад пасеў: 1) яравых зернявых, як-та: ячмень, яр. пшаніцу і авёс з надсевам канюшыны; 2) зернявых бабовых—гарох фасоль і бабы; 3) заняты папар віка-аўсянай мешанкай; 4) цукровых і кармовых буракоў.

Вапну нельга ўнасіць у першы год пад лён і каноплі, бо атрымліваецца валакно горшай якасьці, пад бульбу, бо яна тады больш хварэе рознымі грыбнымі хваробамі, пад лубін і сэрадэлу і пад іншыя расьліны, як грэчку і проса, на якія невядома дзейнасьць вапны.

Вясной вапну трэба ўнасіць пад вышэйпамянёныя расьліны да першага вясеньняга ворава поля.

Можна вапну вясной высеваць павярхова на канюшынішчы першага году ўкосу. Ад такога ўнясеньня атрымліваецца да 11—14 проц. больш канюшыннага сена.

Прыблізна можна раіць на гэктар класьці 2—4 тоны молатага вапняку і крэйды, прычым на супячасных 2 тоны, на сярэдніх суглінiстых 3—3,5 тоны і на цяжкіх суглінiстых і гліністых—4—4,5 тоны.

Каб выканаць вызначаемыя заданьня вясной па вапнаваньню глебы таго ці іншага поля, саўгас і калгас павінны заранее нарыхтаваць вапну і зьвесьці ў поле для расьсеву.

Лепш усяго вапну ўнасіць разам з гноем, торфам альбо іншымі арганічнымі ўгнаеньнямі (завораны лубін і інш.).

Лепш, там дзе можна, вапну вазіць непасрэдна з вапнадрабілак у поле і расьсяваць, у зьвязку з чым скароцяцца выдаткі па перавозцы вапны да сядзібы і зноў з сядзібы ў поле.

Амаль усе глебы Беларусі патрабуюць вапнаваньня, але каб удасканаліць патрэбу кожнага поля саўгасу альбо калгасу ў колькасьці вапны, патрэбна праверыць кваснасьць глебы.

Кваснасьць глебы можа апрадзяліць: 1) раённы аграпэрсанал, які ў большасьці мае апараты па вызначэньню кваснасьці глебы і 2) дасьледчая станцыя, куды патрэбна пасылаць узятыя з палёў пробы глебы. Прычым, розныя дасьледчыя станцыі абслугоўваюць наступныя акругі:

| Назва дасьледчай станцыі | Якія акругі абслугоўвае | Па якому адрасу патрэбна пасылаць пробы глебы |
|---|---|---|
| 1. Горацкая . . | Аршанск. і Магілеўск. | г. Горкі, Аршанск. акр. дасьл. станц. |
| 2. Турская . . | Бабруйск. і Гомельск. | г. Рагачоў, пошта Гадзілавічы, дасьл. ст. |
| 3. Віцебская . . | Віцебск. і Полацкую | г. Віцебск, Дасьледчай станцыі |
| 4. Палеская . . | Мазырскую | Скрыгалава, Мазырск. акр. Дасьледч. станц. |
| 5. Цэнтр. аграхэмічная лябараторыя Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна ў гор. Менску . . | Менскую | г. Менск, Шырокая, 28 Н. Д. І. |

Пробы глебы трэба браць з поля ў некалькіх мясцох паасобку з роўнага месца, з лагчыны і са схілаў, бо кваснасьць іх бываюць неаднолькавая. Так, напрыклад, пры дасьледваньні Менскай Аграхэмічнай Лябараторыяй Самахвалавіцкага раёну высьвятлілася, што каля вёскі Буйвідаўкі бугор патрабуе 7,5 тоны вуглякіслага вапеню, западзіна—16 тон і ўжо лугова-балоцістая западзіна 22 тоны.

Як браць пробы глебы павінен паказаць раённы аграпэрсанал.

Па даных дасьледчых станцый высьвятлена, што вапна, унесеная за 2—3 м-ца да пасеву культур, дае самыя лепшыя вынікі па прыбаўцы ўраджаю, а таму НКЗ дадзена заданьне акругам у вясеньнюю сель-

ска-гаспадарчую кампанію завапнаваць папары пад пасеў жыта, наступную колькасьць гэктараў па акругах:

| Назва акругі | У саўг. | У калгасах | Усяго | Патрэбна вапны ў тонах |
|---|---|---|---|---|
| 1. Аршанская . . | 120 | 2.200 | 2.320 | 6.960 |
| 2. Бабруйская . . | 360 | 3.500 | 3.860 | 11.580 |
| 3. Віцебская . . | 50 | 2.000 | 2.050 | 6.150 |
| 4. Гомельская . . | 300 | 2.000 | 2.300 | 6.900 |
| 5. Магілеўская . . | 120 | 4.500 | 4.620 | 13.860 |
| 6. Мазырская . . | 40 | 1.500 | 1.540 | 4.620 |
| 7. Менская . . . | 840 | 3.000 | 3.840 | 11.520 |
| 8. Полацкая . . | 10 | 1.200 | 1.210 | 3.630 |
| Усяго па БССР . | 1.840 | 19.900 | 21.740 | 65.120 |

З боку саўгасаў і калгасаў, у якіх вызначаны палі да вапнаваньня глебы, патрэбна прыняць сваячасовыя захады па перавозцы вапны, дзеля чаго выкарыстаньне маючыхся перавозачных сродкаў і цягавай сілы павінна быць пастаўлена ў цэнтр увагі.

Арганізаваныя конна-машынныя і конна-трактарныя станцыі пры правільнай пастаноўцы выкарыстаньня коняй і трактароў даюць пэўныя і цьвёрдыя мажлівасьці, што перавозка будзе зроблена ў час.

Разам з гэтым патрэбна выкарыстаць маючыйся аўтатранспарт-грузавыя аўтамабілі ў гарадох, саўгасах і калгасах па перавозкам вапны да гаспадарак.

Для Мазыршчыны і для некаторых раёнаў Гомельшчыны вапна завозіцца з Добрушскай папяровай фабрыкі.

Гэтая вапна перад унясеньнем у глебу павінна быць прасушана і прапушчана праз грахаты, якія Белпаляводсаюз пасылае ў гэтыя акругі.

Мажліва пры атрыманьні крэйды з Добруша вазіць з вагонаў непасрэдна ў поле, дзе згрузіць у невялічкія кучы для падсушваньня і потым праграхаціць.

Поўная мабілізацыя ўсіх сіл, сродкаў і асабліва зацікаўленасьць гаспадарчых арганізацый па выкананьню вызначаных заданьняў вапнаваньня глеб—даюць усе мажлівасьці зрабіць гэта сваячасова, што ў сваю чаргу забясьпечыць падвышэньне ўраджайнасьці.

**Кесараў.**

# Патрэбен рашучы пералом у справе вапнаваньня

Вынікі працы па вапнаваньню ў 1929 г. паказваюць, што глебы Беларусі, амаль без выключэньня (па даных аналізаў Горацкай с.-г. дасьледчай станцыі,—90% глеб Аршаншчыны і Магілеўшчыны), патрабуюць значнай запраўкі вапнай, а між тым плян вапнаваньня ў мінулым годзе па БССР амаль зусім ня выкананы.

Паспрабуем разабрацца, што зьяўляецца прычынай таго факту, перад якім мы апынуліся ў Аршанскай і Магілеўскай акругах.

Па-першае,—нядбайнасьць акруговых земорганаў у справе вапнаваньня, вынікам чаго зьявілася несваячасовае прасоўваньне плянаў вапнаваньня па раёнах і, што горш за ўсё—несваячасовае інфармаваньне раённай дасьледчай станцыі аб меркаваньнях па асобных раёнах (Магілеўская акруга прыслала плян вапнаваньня тады, калі тэрмін летняга вапнаваньня скончыўся,—у ліпені м-цы).

Нядбайныя адносіны назіраліся і ў раённых земорганаў, дзе і наогул было спазьненьне з пачаткам працы,—пляны-ж вапнаваньня складаліся зусім позна. А яны павінны былі быць намечаны зараней, добра прадуманы ў залежнасьці ад розных умоў раёну, што сьведчыла-б аб жыцьцёвасьці вызначаных лічбаў.

Нядбайнасьць райземорганаў наглядалася і ў тым, што за ўвесь час працы ні аднае спробы ўзору не паступіла з раёнаў, таму станцыя абслугоўвала толькі саўгасы і калгасы (і то ня ўсе).

Другой, ня менш важнай прычынай зьяўлялася тое, што большасьць вапенных млыноў пачалі працаваць позна, млыноў было не дастаткова, ды і ў тых была дрэнная якасьць памола (Дрыбінскі млын). Дрэнная якасьць памолу і адносна вялікія нормы вапны (10 і нават 30 тон $CaCO_3$ на *га)* стварылі ўмовы, на якія спасылаюцца цяпер пры апраўданьні невыкананьня пляну асобныя гаспадаркі (Горацкая фэрма).

Трэцяй прычынай зьяўляецца—адсутнасьць растлумачальнай кампаніі, павольнасьць ў арганізацыі пунктаў па падрыхтоўцы вапны, кепская якасьць працы апошніх і безадказнасьць спажыўца,—вось шэраг прабелаў і шурпатасьцяй з працы мінулага. І чацьвертае— гэта, як бачым, навізна справы. Але, як вядома, вапнаваньне справа зусім ня новая, яна мае даўнасьць каля сотні год.

У бягучым годзе ўсе праблемы мінулага павінны быць улічаны і, як вынік, зьнішчаны.

У парадку прапаноў па справе вапнаваньня неабходна застанавіцца на наступным:

1. Абавязкова вылучыць у кожным раёне па аднаму аграпрацаўніку выключна для працы па вапнаваньні і ўгнаеньнях. На абавязку вылучанага працаўніка павінна быць: а) поўнае абсьледваньне раёну ў фізыка-хэмічных, глебава-гістарычных і гео-батанічных адносінах з абавязковым дакладным апісаньнем; б) складаньне мап раёну зьменнасьці памянёнага ў пункце „а“ па гадох; в) непасрэдны ўдзел у працы па правядзеньні ў жыцьцё плянавых заданьняў па вапнаваньні і ўгнаеньнях; г) праверка ў межах раёну вынікаў; д) правядзеньне, пад кіраўніцтвам дасьледчай станцыі, досьледаў па вапнаваньні і ўгнаеньнях; е) непасрэдны ўдзел, кіраваньне і нагляданьне за ўзяцьцем глебавых проб для аналізаў і пасылка іх на дасьледчую станцыю.

Працаўнік павінен знаходзіцца пад ідэёвым кіраўніцтвам у працы, выключна ў дасьледчай станцыі, быць яе членам, для чаго абавязкова павінна быць моцная і пастаянная сувязь з апошняй.

2. Ва ўдарным парадку арганізаваць курсы па падрыхтоўцы вышэйазначаных працаўнікоў.

3. Зараз-жа разгарнуць падрыхтоўку шляхам распрацоўкі праграм і пляну і прасоўваньня іх на месцы для сваячасовага абгаварэньня на вытворчасьці (саўгас, калгас); надрукаваць інструкцыі-лістоўкі і плякаты, што дасьць магчымасьць шырока папулярызаваць гэту справу.

**В. Філіпеня.**

---

# Вапна і на пясчаных глебах падвышае ўраджай

Найбольш недаверліва да пытаньняў вапнаваньня адносяцца тыя працаўнікі і нават аграномы, якія працуюць у пясчаных раёнах Беларусі (Гомельшчына, Бабруйшчына і Магілеўшчына). Былі выпадкі, калі паасобныя прадстаўнікі зямельных работнікаў сьцьвярджалі, што вапнаваньне па досьледах Турскай станцыі дае адмоўны эфэкт.

Каб гэтае непаразуменьне адхіліць, падаем даныя, атрыманыя Турскай с.-г. дасьледчай станцыяй.

Перш за ўсё неабходна адзначыць, што станцыя зрабіла 400 аналізаў па вызначэньню кіслотнасьці глеб паўднёва-ўсходняга раёну БССР. Усе аналізы далі кіслотную рэакцыю, г. зн., што глебы, з якіх браліся пробы, патрабуюць вапнаваньня. Нормы па вызначэньню гідролітычнай кіслотнасьці ад 1 да 15 тон на *га*. Данае зьявішча характарызуе вялікую разнастайнасьць нашых глеб у сэнсе вапнаваньня. Па вызначэньню актуальнай кіслотнасьці глеб (PH) раёну тых-жа 400 проб таксама магчыма адзначыць вялікае хістаньне ў розных глеб (PH бывае ад 4 да 7).

На падставе прыведзеных даных трэба сказаць аб неабходнасьці перад вапнаваньнем глебы вызначыць нормы вапны, для чаго спробы глеб з палёў, намечаных для вапнаваньня, трэба пасылаць на дасьледчыя станцыі, або тым аграномам, якія ўжо наладзілі ў сябе вызначэньне кіслотнасьці глеб.

Турская станцыя на працягу 5 год ставіла і палявыя досьледы з вапнай. На жаль, норма вапны ўносілася без папярэдняга лябараторнага вызначэньня патрэбы ў вапнаваньні глебы, у 2 тоны размолатай крэйды. Клалася крэйда ўвесну каля 1-га мая пад авёс з падсевам канюшыны Заворвалася вапна плугам на 14—16 *см*, і зараз-жа рабіўся пасеў аўса і канюшыны. Лепей было-б класьці вапну пад зяблевае ворыва, але калі прыняць пад увагу замежную практыку, дык убачым, што там часта ўкладаюць яе за 10—12 дзён да пасеву.

Зроблены аналіз глеб з палявых досьледаў па вапнаваньню даў нам кіслотнасьць pH—5,38—5,8, што вызначае патрэбу ў вапне па гідралітычнай кіслотнасьці 4—6 тон чыстай вугля-кіслай вапны.

Такім чынам прыстасаваная доза ў 2 тоны крэйды была вельмі малая. Тым ня менш уплыў вапны быў прыкмецен. Ураджай аўса даў прыбаўку ад вапны ня больш 2-х цэнтнэраў, а ў большасьці прыбаўку яшчэ меншую, але за тое на падсееную канюшыну ў 1 і 2-гі год карыстаньня вапна ўплывала вельмі значна.

Прыбаўкі ўраджаю сена канюшыны за 1 і 2 год карыстаньня вагаецца ад 9,5 да 19,9 падвойных цэнтнэраў на *га*. Кожны цэнтнэр унесенай вапны ў сярэднім аплачваецца 0,8 падв. цэнтн. на гектар канюшыннага сена.

Такую аплату вапны ўраджаем сена трэба прызнаць зусім здавальняючай пры кацтоўнасьці яе нават па 1 р. 80 к. за цэнтнэр. Карысьнасьць ужываньня яе відавочна, бо каштоўнасьць прыбаўкі сена ад 1 цэнтн. вапны бывае ў 2 р. 40 к. (0,8 пад. цэнт. $\times$ 3 р.). Такім чынам унясеньне нават і ня поўных норм вапны, як 18 пад. цэнтн. на *га* робіць сваё станоўчае дзеяньне.




У другім досьледзе станцыя вывучала дзеяньне паленай вапны на ўраджай жыта і канюшыны. Папярэдне гэтая вапна клалася кучамі на полі і засыпалася зямлёй. Праз 2—3 дні, у кучах, пакрытых зямлёй, яна гасілася, пасьля чаго роўнамерна па полю раскідвалася з разьліку на 1 *га* 1 тона паленай (нягашанай) вапны.

Вапна ўкладалася па фону няўгноенаму, угноенаму гноем, заворанаму лубінаваму ўгнаеньню (мал. 1).

Ураджай жыта па вапне значна падвысіўся. Так ад адной вапны атрымана прыбаўка 3 пад. цэнтн. на *га*, або ўраджай павялічыўся на 32 проц., ад вапны на гнаёвым фоне ўраджай падняўся на 28%, а прыбаўка ўраджаю атрымалася 2,7 цэнтн. зерня жыта.

Пасьлядзеяньне вапны на ўраджай канюшыны 1-га і 2-га году падсеянай пад жыта вельмі моцнае. Адна вапна дае прыбаўкі за 2 гады 24,5 пад цэнтн. на *га* сена канюшыны, што складае 28 проц. ад ураджаю бяз вапны. На гнаёвым фоне вапна дала прыбаўку сена канюшыны 34 пад. цэнтн. на *га* ці на 40 проц. больш параўнальна з дзя-

лянкамі таксама ўгноенымі, але бяз вапны. Паданыя прыбаўкі ўраджаю жыта і канюшыны сьведчаць, што яны значна вышэй, чым прыбаўкі атрыманыя ў 1-м досьледзе з аўсом і канюшынай. Данае зьявішча знаходзіцца ў залежнасьці ад большай актыўнасьці паленай вапны ў параўнаньні з крэйдай. Такім чынам устанаўляецца, што вапна мае пэўнае пасьлядзеяньне на канюшыну.

Прыбаўка жыта і канюшыны на кожны цэнтнэр вапны прыходзіцца 0,3 пад. цэнтн. зерня і плюс 2,4 пад цэнтн. сена. Значыцца гэты досьлед яшчэ больш кажа за карысьць вапнаваньня глебы, чым першы. Вывучэньне ўплыву вапны на лён паказала, што ўраджай ільну зьмяншаецца ад вапнаваньня пры слабай кіслотнасьці глеб (pH=5,5). Бульба дала падвышэньне ўраджаю па вапне на 15 проц. (кіслотнасьць глебы досьледа была pH 4,85). Найбольш эфэктыўна ўплывае вапна на ўраджай буракоў. Пры ўкладаньні яе ў колькасьці 2-х тон на *га*, за 2 тыдні да пасеву буракоў атрымана прыбаўка ўраджаю ў 71 проц. (ці 28,5 пад. цэнт. на *га*) у параўнаньні з аднолькавымі дзялянкамі, але бяз вапны. Такая моцная прыбаўка ўраджаю кажа за тое, што пад буракі абавязкова трэба на паказаных вышэй глебах класьці вапну.

Па даных вэгэтацыйных досьледаў уплыў вапны найбольш моцны на нашых лёгкіх глебах, пры ўнясеньні па гідролітычнай кваснасьці, а нормы меншыя (па абменнай колькасьці) значна горш праявілі сябе (мал. 2).

Вывучэньне вапнавых адкідаў Дабрускай папяровай фабрыкі паказалі, што актыўнасьць іх ніколькі ня горшая, чым паленай вапны. Асабліва моцна адбіваецца на намнажэньне нітратаў і памяншэньне кваснасьці глеб, што тлумачыцца вялікай шчалакавасьцю Дабрускай вапны.

Вышэй прыведзеныя вынікі па досьледах Станцыі адносяцца да глеб слаба-падзолістых пясчаных. Глебы моцна ападзоленыя патрабуюць вапнаваньня ў першую чаргу. Без вапнаваньня на гэтых глебах мінэральныя ўгнаеньні не даюць падвышэньня ўраджайнасьці, аб чым сьведчаць наступныя вынікі:

Ураджай сена канюшыны ў падв. цэнтн. на гектар:

Без угнаеньня 41,70 пад. цэнтн. (278 пуд. на *га*).

| | | |
|---|---|---|
| Па ўгнаеньню супэрфосфат+кал. соль . . . . . . | 44, 9 пад. цэнтн. | (293 пуб. на *га*) |
| „ „ „ +кал. соль+крэйда 2 тоны . . . | 54, 0 „ „ | 359 пуд. |
| Па адной крэйдзе . . . . . . . . . . . . . . | 45,30 „ „ | 302 п. на *га*. |

З гэтых лічб відаць, што мінэральныя ўгнаеньні значна падвышаюць ураджай канюшыны толькі на дзялянках з вапнай. У гэтым выпадку вапнаваньне зьяўляецца такой-жа мерай на падзолістых глебах, як, скажам, дрэнаж на балоце, г. зн. карэннай мэліарацыяй глеб. І адсюль, як вывад, бяз вапны на моцна ападзоленых глебах падвысіць ураджай амаль што немагчыма. На тыднёвых курсах, якія адбыліся на станцыі з 25 чэрвеня па 2 ліпеня 1929 г., аграномы азнаёміліся з азначэньнем кіслотнасьці глеб, але каб самі аграномы на мясцох маглі дакладна і навукова падысьці к пытаньню вапнаваньня глеб, усе раёны павінны мець належныя прылады для гэтай работы. Па прычыне адсутнасьці на мясцох сродкаў для належнага абсталяваньня раённых лябораторый неабходна ў кожным раёне мець хаця-б прыбор Вэры, дзеля вызначэньня актуальнай кіслотнасьці глебы. Гэты прыбор

раіць нарада дасьледчыкаў СССР, якая адбылася 9 III—1929 г. пры дзяржаўным Інстытуце дасьледчай агранаміі. Каштуе ён усяго 32 руб., выпісаць можна з Масквы з выдавецтва „Новы аграном“, пры Цімі-разеўскай с.-г. Акадэміі.

Аграномы, якія самі ня могуць зрабіць аналізу, павінны зьвярнуцца за дапамогаю на станцыю (лепш за ўсё прыехаць на станцыю і зрабіць аналіз глебы ў лябараторыі станцыі пад кіраўніцтвам адпаведных спэцыялістых), дзе можна будзе і даведацца, ці патрабуе глеба вапнаваньня і ў якой колькасьці патрэбна класьці вапну. Дзякуючы асаблівай увазе з боку Савецкай улады, якая забясьпечыла амаль што ўсім неабходным абслугоўваньне вапнаваньня, плян працы ўпаўне магчыма выканаць. Трэба толькі больш актыўнасьці з боку аграномаў і іншых асоб. Асобную ўвагу зараз трэба зьвярнуць на забясьпечаньне месц молатай вапнай, бо з-за недахопу яе можа быць сарваным плян па вапнаваньню.

*М. Драздоў.*

---

## Да пытаньня аб вапнаваньні па Віцебскай і Полацкай акругах

На вапнаваньне глебы ў нас зварачвалася мала ўвагі, і толькі цяпер, у сувязі з рашучымі захадамі да павышэньня ўраджайнасьці, пры сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і суцэльнай калектывізацыі, гэта пытаньне мае асабліва важнае значэньне.

Вапна неабходна ўсім расьлінам, але ў меншай колькасьці, чымся іншыя пажыўныя матэрыі. Таму расьлінам хапае той вапны, што знаходзіцца ў кожнай глебе, і клапаціцца аб папаўненьні запасу вапны для пажывы расьлін практычна ня прыходзіцца. Вапна зьяўляецца ўкоснадзейным угнаеньнем, чаму і прыходзіцца ўнасіць у глебу значныя дозы вапны. Карысьць ад вапны наступная:

1) Вапна зьнішчае шкодную для расьлін кіслотнасьць падзолавых глеб.

2) Цяжкія хутка заплываючыя глебы робіць пухкімі і менш злучнымі;

3) Вызваляе пажыўныя матэрыі з цяжкадаступнага расьлінам запасу іх у глебе.

Зразумела, што гэта датычыцца глеб, якія маюць запасы пажыўных матэрый, напрыклад, гліністых і суглiністых. Глебы пясчаныя, як бедныя, альбо зусім не даюць павышэньня ўраджая, альбо на адзін-два гады, пасьля чаго атрымліваецца спад па прычыне глыбокага выдаваньня запасу пажыўных матэрый. Наогул трэба заўважыць, што вапнаваньне бедных глеб карысна пры адначасовым ужываньні іншых угнаеньняў.

4) Узмацняе ўплыў гною, торпу і штучных угнаеньняў.

Карысьць ад вапны па падвышэньню ўраджайнасьці сьведчыцца наступнымі лічбамі:

Так, па даных Віцебскай Дасьледчай станцыі, ураджай аўса павышаўся—зерня на 30% і саломы на 50%; ураджай ячменю зерня на 103% і саломы на 83%; канюшыны—на 23% сена і г. д.

З прычыны таго, што не на ўсіх глебах вапна дае належную карысьць, перш чым вапнаваць глебу трэба даведацца, ці патрэбна для данай глебы вапна і ў якой колькасьці. Лепш усяго гэта пытаньне разьвязваецца пасылкай глебавых спроб для аналізу на Віцебскую Дасьледчую Станцыю. Спробы вагай каля 400 грам бяруцца рыдлёўкай на пахаці на глыбіны 20 сант. і пасьля падсушваньня на газэтнай паперы ў сухім сьветлым памяшканьні пакуюцца і перасылаюцца поштай у адрас станцыі. Калі мясцовасьць узгоркаватая, дык патрэбна ўзяць глебавыя спробы з кожнага элемэнту рэльефу паасобна. К спробам прыкладаюцца зьвесткі аб адпаведным адрасу мясцовасьці, тыпу глебы і рэльефу. Віцебская Дасьледчая станцыя вельмі зацікаўлена, каб атрымаць ад калгасаў і саўгасаў гэтыя спробы, неабходныя для складаньня мапы кіслотнасьці.

Па хэмічных даных Віцебскай Дасьледчай Станцыі, патрэбнасьць глеб у вапне па Віцебскай акрузе наступная:

| Тып глебы | Назва раёнаў і патрэбн. у вапне (у тон. на *га*) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Віцебскі | Лёзьнянск. | Гарадоцкі | Высачанскі | Бешанкавіцкі |
| Цяжкі суглінак . | 7—8 | 6,5—7,5 | 6,5—10 | — | — |
| Сярэдні „ . | 4—5,5 | 5,25—5,75 | 4—5,5 | — | 4,5 |
| Лёгкі „ . | 3,25—4,5 | — | 1,5—3 | — | — |
| Супясі і пяскі . | 2—3,75 | — | — | 2 | — |

Увага. Дзе няма лічбаў, даныя адсутнічаюць, таксама няма даных і па іншых раёнах.

Патрэбнасьць у вапне глеб Полацкай акругі наступная (у тонах на *га*):

| Тып глебы | Ушацкі р. | Дрысенскі р. |
|---|---|---|
| Цяжкі суглінак . . . | 6—7 | — |
| Сярэдні „ . . | 3,5—5,2 | — |
| Супяскі і пяскі . . . | 0,75—3,7 | 0,2—0,5 |

Увага. Лічбы па іншых раёнах адсутнічаюць.

Далей застановімся на пытаньні аб мясцовых крыніцах вапны, якімі БССР наогул багата. Хэмічны склад вапнякоў, якія залягаюць у Віцебскай і Полацкай акругах наступны:

| Месцазнахаджэньне вапняку | Тып вапнякоў | Хэмічны склад | |
|---|---|---|---|
| | | Не распускаемая частка | Карысная частка вуглекісл. вапна і магнэзія |
| Капачова, Віцебск. акр. | Плітняк. вапн. | 1,2% | 98,5% |
| Езершчына | „ | 3,2 „ | 95 „ |
| Бешанковічы | „ | 9 „ | 90,2 „ |
| Лiозно-Высачаны | „ | 9—13 „ | 86,5—90 „ |
| Дрыса, Полацк. акр. | „ | 8 „ | 92,7 „ |
| в. Дольцы, Ушацкага раёну, Полацкай акр. | „ | 9,5 „ | 90,4 „ |
| в. Мураш, Ушац. р. Пол. акр. | Рухляк. мэргэль | 18,6 „ | 79,3 „ |
| в. Капылоўшчына | „ | 6,4 „ | 92,3 „ |
| в. Лагі | „ | 10,8 „ | 88 „ |
| в. Зазер'е | „ | 15,5 „ | 83,4 „ |

Усе гэтыя вапнякі прыгодны ў якасьці ўгнаеньня з той розьніцай, што плітняковыя вапнякі для ўжываньня патрабуюць размолу, рухляковыя мэргэлі размолу не патрабуюць.

Для размолу вапнякоў працуюць спэцыяльныя млыны ў месцах заляганьня вапнякоў. Як відаць з наступнай табліцы, якасьць памолу ніжэй прынятага штандарту:

| Назва вапнякоў | Якасьць памолу | | |
|---|---|---|---|
| | Праходзіць скрозь сіта | | Буйныя астачы |
| | 0,3 м/м | 1 м/м | |
| Капачоўскі | 72,6% | 8,5% | 18,9% |
| Езершчанскі | 86,9 „ | 5,4 „ | 7,7 „ |
| Бешанкавіцкі | 59,4 „ | 10,7 „ | 29,9 „ |
| Прыняты штандарт памолу | 80 „ | 20 „ | 0 „ |

Трэба заўважыць, што дзеяньне вапны забясьпечана тады, калі яна будзе мець дробных частак каля 80%, сярэдніх каля 20%, а буйных зусім ня будзе, г. зн. блізка да штандарту.

Пяройдзем да тэхнікі вапнаваньня. У шматпольным севазвароце патрэбна вапнаваць адзін раз, так як вапна ўплывае на ўраджай ня менш васьмі год. Лепш за ўсё ўжываць вапну разам з гноем пад засевы вікі ў занятым папары, альбо пад засевы азімага жыта з наступным падсевам канюшыны. Вапнаваньне робіцца пад першае ворыва, а гной у колькасьці 18 тон пры другім ворыве. У бульбяных севазваротах вапна ўжываецца ўвосень пад зяблевае ворыва для ячменя альбо аўса з падсевам канюшыны. Вапна раскідаецца ў ціхае надвор'е раўнамерна па полі рукамі, альбо сяўнікамі і потым заворваецца, альбо забараноўваецца.

У заключэньне трэба сказаць, што кожная сельгаспадарчая арганізацыя павінна клапаціцца аб своечасовай достаўцы вапны з прымацаваных млыноў у прадугледжанай колькасьці і выконваць плян вапнаваньня на 100%.

Агрохімік **Гладзіловіч**.

---

## Калгасы і саўгасы! Ужывайце торф на ўгнаеньне палёў!

Штогодна палі ў БССР не даатрымліваюць 240 мільёнаў тон гною. Ад гэтага ўраджайнасьць палёў з гадамі ня толькі не падвышаецца, але нават падае.

Чым мы можам замяніць гной? Навука і практыка сельскае гаспадаркі ў БССР паказвае, што гной магчыма замяніць *торфам*. Торф, прыстасаваны як угнаеньне, па даных практыкі сельскіх гаспадарак БССР, падвышае ўраджай, у сярэднім, на 77 проц.[1]).

*Торф—гэта нацыянальнае прыроднае багацьце Беларусі, гэта той матар'ял, які вытварыць рэвалюцыю ва ўсім строю народнае гаспадаркі Савецкай Беларусі і яго эканоміцы, калі яму будзе надана дастатковая ўвага.*

Што можа даць торф? Торф дае паліва, газ, кокс, вугаль, брыкеты; хэмічныя прадукты—вінны сьпірытус, фарбы, паперу, тканіну, дубільныя матэрыі, будаўнічы матар'ял; далей торф—гэта матар'ял для шырокага прыставаньня яго ў сельскай гаспадарцы, як угнаеньня і падсьцілкі для жывёлы (торф непасрэдна, тарфяны гной, тарфяны кампост, тарфяны попел); торф у ваеннай справе—супроцьгазы для людзей і жывёлы, падсьцілка для коняў у кавалерыскіх частках, перавязачны матар'ял у ваеннай вэтэрынарыі; торф у мэдыцыне, у санітарыі гарадоў і г. д. і г. д.

Унівэрсальныя ўласьцівасьці торфу прыводзяць да магчымасьці унівэрсальнага і разнабаковага яго прыстасаваньня наогул у народнай гаспадарцы.

У даным артыкуле мы застановімся на торфе, як угнаеньні.

Адзін селянін Барысаўск. раёну, Менскай акр. піша: *„Ураджай па торфу быў вышэй чым па звычайнаму гною“...*

Другі селянін в. Мордвін, Петрык. р., Мазырск. акр. гаворыць—*„прыстасовываю торф 2.000 пуд на дзесяціну; раней ураджай бульбы меў 500 пуд., а пасьля прыстасаваньня торфу—900 пуд. з дзесяціны“.*

---

[1]) *Х. Бахцееў.*—„Ужываньне тарфяных угнаеньняў у сельскай гаспадарцы“. Выд. Белдзяржвыдавецтва. Менск, 1930 г.

Селянін Менскай акр., Сьмілавічск. р. піша: *„Ураджай жыта пры ўгнаеньні торфам атрымаў 139 пуд. зерня з дзесяціны, супроць 75 пуд. без тарфяногі ўгнаеньня“...*

Я маю сотні гэткіх лістоў ад сялян Сав. Беларусі, дзе яны ў адзін голас гавораць: *„мой намер—гэта павялічваць кожны год колькасьць тарфянога ўгнаеньня“...*

Для сельскае гаспадаркі БССР ужо добра вядома як прыстасоўваць тарфяное ўгнаеньне, вядома, якая ад гэтага карысьць, і ўсё-ж калгасы і саўгасы яшчэ не раскачаліся да масавага прыстасаваньня торфу на ўгнаеньне.

Вось прыклады ўжываньня торфу на ўгнаеньне ў саўгасах і калгасах: Саўгас „Узьдзянка“, Менск. акр. піша: *„пры магчымасьці прапусьціць торф праз хлеў—ён лепш скарыстоўваецца, але добрыя вынікі дае і пры скарыстаньні з гноем“.*

Комуна імя т. Фрунзэ, Магіл. акр. піша: *„лепей вазіць сухі 20 проц. торф у абору і пасьля зімы вывазіць у поле“.*

Колгас „Красный Октябрь“, Мазыр. акр. піша: „намі быў закладзены досьлед у 1928 г. з чыстым праветраным торфам, як угнаеньнем, у колькасьці 1.200 пуд. на дзес. пад азімае жыта; прычым да ўгнаеньня торфам ураджай азім. жыта быў 50 пуд. зерня з дзес.; у 1929 г. пасьля дзеяньня 1.200 пуд. торфу на дзес., ураджай зерня азім. жыта атрымалі 115 пуд. з дзес.; *ні ў адным полі мы лепшага ўраджаю ня мелі“.*

Мы можам стала сказаць, што калгасы і саўгасы маюць вялікую адсталасьць у справе прыстасаваньня торфу на ўгнаеньне. Гэтыя гаспадаркі, зьяўляючыся правадырамі ўдасканаленых, рацыянальных спосабаў вядзеньня сельскае гаспадаркі павінны падцягнуцца і ў парадку спаборніцтва давесьці да максымуму прыстасаваньне торфу на ўгнаеньне і ня толькі ў сябе, але і ў бліжэйшых сялянскіх гаспадарках, павінны за кошт торфу поўнасьцю забясьпечыць урадлівасьць сваіх палёў.

Пытаньні карыснасьці прыстасаваньня торфу вырашаны канчаткова як данымі навуковых і дасьледчых устаноў БССР, так і практыкаю калгасаў і саўгасаў, сялян дасьледчыкаў і нават звычайных сялянскіх гаспадарак, ня кажучы аб досьледах СССР і заграніцы.

У БССР торф прыстасоўваецца ў 36 проц. выпадкаў непасрэднае як угнаеньне, у 54—прапускаючы папярэдня торф праз хлеў (тарфяны гной) і ў 10 проц. выпадкаў—кампастуючы торф рознымі спосабамі. У гэтых гаспадарках усе расьліны, якія сеюцца ў Сав. Беларусі: азім. жыта, бульба, авёс, ячмень, пшаніца, гароднія расьліны—адклікаюцца на тарфяныя ўгнаеньні з вялізарным эфэктам па падняцьцю ўраджайнасьці.

Таму неабходна зараз-жа справу прыстасаваньня тарфяных угнаеньняў перарабіць у масавае мерапрыемства; неабходна каб Савецкая Беларусь, якая мае запасы да 9 мільярдаў куб. мэтраў торфу, скарыстала яго з адпаведнымі станоўчымі вынікамі.

Для гэтага *неабходна:* 1) узмацніць папулярызацыю ведаў аб торфе сярод шырокіх колаў насельніцтва праз распаўсюджваньне папулярнай літаратуры, масавы паказ кіналент, побач з правядзеньнем лекцый, гутарак і курсаў у калгасах і саўгасах, у сяленьнях, сельскіх школах, партячэйках, савецкіх і каапэрацыйных арганізацыях; 2) узмацніць распрацоўку законадаўства па пытаньнях тарфяной справы

і па пытаньнях ільготнага крэдытаваньня колгасаў, саўгасаў і насельніцтва на здабыцьце неабходных машын і на вытвар работ, зьвязаных з здабычай торпу; 3) узмацніць каапэраваньне насельніцтва па лініі торфаздабычы і вырашыць пытаньне рацыянальнага абслугоўваньня яго ў каапэратыўна і тэхнічна-арганізацыйнай адносінах; 4) безадкладна правесьці па БССР зараз-жа, тэрмінова *„месяц торфу"* (і паўторна ў жніўні мес.), на працягу якога арганізаваць узмацнёную прапаганду прыстасаваньня торфу ў сельскай гаспадарцы з паказальнымі работамі; 5) выдаць абавязковую пастанову СНК БССР—увесьці ўжываньне торфу на ўгнаеньне ў калгасах і саўгасах у прымусовым парадку; 6) і нарэшце, прыцягнуць да гэтай справы вясковы актыў у цэлым—сельскія парт'ячэйкі, камсамольскія арганізацыі, сялянскія вобчаствы ўзаемадапамогі, савецкія і грамадзкія ўстановы і г. д.

Прыстасаваньне тарфяных угнаеньняў у БССР—справа карысная і яскравая. Неабходна, галоўным чынам, работа саміх кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў. Пытаньне вельмі актуальна і ня мае прадзелаў у імкненьні да паляпшэньня сельскае гаспадаркі...

Бедныя і бесструктурныя глебы Сав. Беларусі, маючыя патрэбу, галоўным чынам, у азоце і арганічнай матэрыі, не маючыя магчымасьці атрымаць іх у форме гною, павінны атрымаць іх у форме торфу, які ня ўступае гною ні па сваіх каштоўных уласьцівасьцях, ні па дзейнічаньню на ўраджайнасьць палёў БССР.

---

Галоўная задача Савецкага ўраду і грамадзянства ў сучасны момант—гэта павялічэньне пасеўнай плошчы і павялічэньне ўраджаяў палёў і лугоў.

У гэтых адносінах беларуская сельская гаспадарка мае шмат магчымасьцяй, асабліва ў справе павялічэньня ўраджаяў: яна дасягне гэтага, калі палепшыць апрацоўку глебы, калі будзе прыстасоўваць добры пасяўны матар'ял і будзе даваць столькі ўгнаеньня, колькі яго патрабуе глеба.

Гною для палёў Савец. Беларусі не хапае, і сельская гаспадарка мае магчымасьць угноіць толькі трэцюю частку сваёй пахаці. Дзеля таго, каб угноіць поле як належыць, неабходна павялічыць колькасьць гною ў тры разы. Гэта можна лёгка зрабіць, калі прыстасоўваць торф на ўгнаеньне і ў падсьцілку жывёле.

Ва ўмовах Савец. Беларусі прыстасоўваньне тарфяных угнаеньняў грае вялізарную ролю ў сельскай гаспадарцы. Глебы БССР—або цяжкія гліністыя і сугліністыя, або надта лёгкія—пясчаныя; часта сустракаюцца лясныя, падзолістыя глебы. Усе гэтыя глебы патрабуюць унясеньня гною таму, што ў іх адсутнічае арганічная (сгараемая) матэрыя і спажыўная матэрыя для расьлін—азот.

Торф амаль што цалкам складаецца з арганічнай матэрыі, акрамя таго ў 100 пуд. яго маецца ад 2 да 4 пуд. азоту.

Акрамя гэтага торф мае ў сабе попел, у якім знаходзяцца спажыўныя матэрыі для расьлін.

Так, у 100 пуд. торфу з лугавых балот маецца 85—90 пуд. арганічнай матэрыі і 10—15 пуд. попелу; 100 пуд. махавога торфу маюць арганічнай матэрыі больш—95—98 пуд., а попелу менш—2—5 пуд.

Іншымі словамі, торф мае ў сабе тыя-ж спажыўныя матэрыі для расьлін, як і звычайны гной. Адгэтуль яго карысьць як угнаеньня.

Торф ужываецца на ўгнаеньне ў 4-х відох: 1) вільготны, здабыты з балота, але праветраны торф (які пралежаў каля году на паветры); 2) тарфяны гной, які атрымоўваецца з таго-ж торфу, калі яго прапусьціць праз хлеў; 3) тарфяны гной, які атрымоўваецца ад торфамохавай падсьцілкі і 4) у відзе тарфяных кампостаў.

Самы просты спосаб—гэта першы здабыты з балота торф складаецца ў кучы і ляжыць тут-жа на балоце каля году. Неабходна яго час-ад-часу пералапачваць. Узімку торф вывозіцца на поле, дзе раскладаецца кучамі, вясною раскладваецца па полю і заворваецца плугам, альбо бараной. Уносіцца торф па 2.400, 3.600 і 4.800 пуд. на дзесяціну, у той-жа час, таксама як і гной[1]).

Лепш калі гэты торф, прасушаны і праветраны прапусьціць праз хлеў: яго кладуць слоем у 2—3 вярш. пад скаціну, торф перамешваецца з гноем і дае надта каштоўнае ўгнаеньне.

Але самым найлепшым угнаеньнем зьяўляецца тарфяны гной, які атрымліваецца з мохавай тарфяной падсьцілкі[1]).

Нарэшце тарфяны кампост, які атрымліваецца пры зьмешваньні торфу з вапнаю, фасфарытам, попелам, гноем і інш. Гэтыя кампосты па свайму ўгнаіваючаму дзейнічаньню ня ўступаюць гною. Прыгатаўляюцца яны так: кладуць торф у кучу шырынёю ў $2^1/_2$ і вышынёю $2^1/_2$ арш.; даўжыня кучы залежыць ад колькасьці патрэбнага ўгнаеньня.

Слой торфу праз кожныя $^1/_2$ арш. пераkладваюць вапнаю, альбо попелам, ці фасфарытам (тады без вапны і попелу), альбо, нарэшце, проста перакладваюць слоем звычайнага гною.

У кампост ідуць усе адкіды гаспадаркі: сьмяцьцё з двара і хаты, памыі, косьці, рогі, пер'я, сажа, попел і наогул усе непатрэбныя ў гаспадарцы адкіды. Кампосную кучу трэба час-ад-часу паліваць гнаёвай жыжкай (праз 2—3 тыдні), альбо проста вадой і пералапачваць.

Месца для кучы выбіраецца высокае, сухое, цяністае, з цьвёрдым грунтам. Кучы пры добрым нагляданьні, праз год, а інагды і раней даюць добры, гатовы кампост, які дзейнічае лепш гною.

Вось усе простыя спосабы атрыманьня тарпяных угнаеньняў. Лепш за ўсё браць торф з лугавога балота, прычым вывезьці яго на поле неабходна тыдні за 2—3 перад пасевам. Торф разьбіваецца і калі трэба, дык зьверху пакрываецца звычайным гноем і заворваецца. Норма ўжываньня ў сярэднім 2.400 пуд. кампосту на дзесяціну.

Торф магчыма прыстасоўваць пад усе расьліны, але лепш пад жыта і бульбу. Асабліва добра ў форме торфянога гною і пры прыстасаваньні торфу.

Усе прыёмы па ўнясеньню звычайнага гною на поле захоўваюць сілу, раўно як і норма.

Вось жывыя прыклады з практыкі сялян Савец. Беларусі: 1) Селянін Бабр. акр., Рагач. р., Забалоцк. с.-с., прыстасоўвае чысты лугавы торф непасрэдна. Вывозіць яго на поле 2.000 пуд. на дзес. Пакуль ня ўгнойваў торфам, атрымліваў 40 пуд. зерня жыта, а пасьля ўгнаеньня торфам—80 пуд. на дзес.; 2) Селянін з в. Мардвін, Сьледз. с/с., Маз. акр. прыстасоўвае сыры (вільготны) торф, прапускае яго праз хлеў. Ураджай бульбы да ўгнаеньня торфам меў 600 пуд., пасьля ўгнаеньня—900 пуд.; 3) Селянін в. Вазьнясенка, Бабр. акр. і р., прыстасоўвае торфамохавую

---

[1]) Глядзі кнігі: „Ужывайце торф на ўгнаеньне" Выд. Наркамзему 1929 г. Менск. „Ужывайце тарфяны падсьціл". Таксама. *Х. Бахцееў*. „Здабыча торфу на апал, падсьціл і ўгнаеньне" Выд. БДВ. 1929 г. Цана 20 кап.

падсьцілку. Атрыманы тарфяны гной уносіў пад жыта. Ураджай па тарфяному гною меў 70 пуд. з дзес., бяз торфу—30 пуд.; 4) Селянін в. Машчоная, Койд. р. Менск. акр. прыстасоўвае тарфяны кампост. Кладзе яго на дзес. 3000 пуд. Ураджай аўса па тарфяному кампосту—90 пуд. зерня з дзесяц., а бяз торфу—40 пуд.

Усё гэта паказвае, што торф, у якім-бы выглядзе ён не прыстасоўваўся—ці ў відзе чыстага торфу, ці тарфянога гною, альбо кампосту—ён заўсёды ў працягу некалькіх гадоў (5—6 гадоў) падвышае ураджайнасьць усіх сельска-гаспадарчых расьлін.

Неабходна павялічваць колькасьць тарфянога ўгнаеньня ў гаспадарках Сав. Беларусі, запасаць яго ўсімі спосабамі і прыстасоўваць на сваіх палёх і лугох.

Карысьць і вялікая карысьць атрымаецца ад ужываньня тарфяных ўгнаеньняў, палепшыцца жыцьцё сябраў калгасаў і саўгасаў і эканамічна ўзмацніцца народная гаспадарка Савецкай Беларусі.

*Калгасы і саўгасы! ужывайце тарфяныя ўгнаеньні на сваіх палёх*

**Х. Бахцееў.**

---

## ТАРФЯНЫЯ БАЛОТЫ—НЕВЫЧАРПАЛЬНАЯ КРЫНІЦА ДЛЯ АТРЫМАНЬНЯ ЎГНАЕНЬНЯЎ І АПАЛУ—ГЭТА БЕЛАРУСКАЕ „ЧОРНАЕ ЗОЛАТА“.

---

## ТАРФЯНЫМ УГНАЕНЬНЕМ МОЖНА ХУТКА ПАДВОІЦЬ УРАДЖАЙ

---

# КАЛГАСНЫЯ ЛІСТЫ




**Група студэнтаў 3-га і 4-га курсаў Беларускага Дзяржаўнага Вэтэрынарнага Інстытуту ў ліку 144 асоб і навуковых працаўнікоў у ліку 25 асоб, якія мабілізаваны для працы па пасеўкампаніі і калектывізацыі тэрмінам на 2 м-цы (на 1/V 1930 г.).**

## Больш увагі пытаньню культурна-бытавога абслугоўваньня калгасаў

Студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б адзначыў, „што разьвіцьцё калгасаў павінна ісьці поплеч і непарыўна з перабудовай быту на калектыўных пачатках (арганізацыя агульнага харчаваньня, дзіцячых устаноў, клюбаў, пральняў і г. д). Адначасова трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу і на зьмест культурна-выхаваўчай работы ў калгасах, галоўным чынам сярод бядняцкіх колаў калгасаў і калгасьніц. Гэта пастанова студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б зьяўляецца сваячасовай і павінна быць безадкладна праведзена ў жыцьцё. Трэба адзначыць, што да гэтага часу на справу „перабудовы быту“ і на зьмест культурна-выхаваўчае працы ў калгасах ня было зьвернута належнае ўвагі ні з боку Калгасцэнтру, ні з боку НКА і НКАЗ. Праведзенае намі дасьледваньне цэлага шэрагу старых (арганізаваных да 1928 г.) і новых калгасаў Барысаўскага і Халопеніцкага раёнаў паказвае, што ў справе перабудовы быту калгасьнікаў амаль нічога ня зроблена: у калгасах зусім не арганізавана агульнае харчаваньне, кожная „гаспадыня“ варыць абед і вячэру асобна для сваёй сям'і, няма агульных пральняў, былі толькі адзінкавыя прыклады,

калі ў калгасах улетку былі адчынены дзіцячыя пляцоўкі, дзіцячых ясьляй, альбо садоў няма. Ня лепш абстаіць справа і з культурна-асьветнаю працай сярод калгасьнікаў. Самае большае, што робіцца ў калгасах, дык гэта ліквідацыя няпісьменнасьці. Іншай якой-небудзь культурнай працы—гутарак, дакладаў не праводзіцца. У калгасах Барысаўскага і Халопеніцкага раёнаў няма ніякіх гурткоў, нічога ня робіцца па падвышэньні агранамічных ведаў, без чаго нельга правільна арганізаваць і весьці калектыўную гаспадарку. Дрэнна пастаўлена справа з выпіскай газэт і часопісаў нават у старых калгасах, не гаворачы ўжо аб калгасах, якія толькі нядаўна арганізаваліся. Так, напр., у калгасе „Чырвоная Зорка“ (Чырвона-Слабодзк. с-с., Барысаўск. р.) выпісваецца толькі 5 газэт; у калгасе „Праца“ (таго-ж раёну)—4 газэты, якія чытаюцца слаба; часопісаў ня выпісваецца зусім, а прысланыя бібліатэчкі (ды і газэты) ляжаць у старшынь калгасаў, бо бібліатэк, клюбаў ці чытальняў няма. Нідзе нічога ня робіцца ў справе арганізацыі вольнага часу моладзі, падлеткаў і дарослых (асабліва жанчын), а адсюль і шэраг непажаданых зьяў (плёткі, сваркі). Грамадзкіх арганізацый, як, напр., Мопр, Асовіяхім, „Прэч Няпісьменнасьць“ і інш. няма. Бязумоўна, такое становішча зусім ненармальна.

На пытаньне культурна-бытавога абслугоўваньня калгасаў ні Райвыканком, ні аграном і інструктары, ні мясцовыя працаўнікі НКАЗ не зварачваюць належнае ўвагі. Ня раз прыходзілася чуць скаргі ў калгасах, што туды не заглядаў ні адзін доктар На курсах для рабочых (у Менску), якія былі вылучаны для працы па калгаснаму будаўніцтву, на прапанову зьвярнуць увагу на арганізацыю быту, з боку акруговага інструктара быў атрыман адказ, што гэта не тэрміновая справа. А між тым на сходах у вёсках і калгасах—жанчыны вельмі часта ставяць пытаньне аб выхаваньні дзяцей у калгасах, аб новых формах быту, аб арганізацыі працы і інш. і ставяць гэтыя пытаньні практычна.

Што-ж неабходна зараз зрабіць у справе арганізацыі культурна-бытавога абслугоўваньня калгасьніка? У найбольш буйных калгасах трэба неадкладна прыступіць да адчыненьня ясьляй, дзіцячых садоў і пляцовак, зьвярнуць увагу на якасьць працы ў гэтых установах з прычыны яшчэ недаверлівых адносін з боку некаторай часткі жанчын. Некаторыя калгасы ўжо самі падымаюць аб гэтым пытаньне, але там няма падрыхтаваных для гэтае працы людзей.

У некаторых калгасах востра ставіцца пытаньне аб пабудове лазьняў, бо „нямыты чалавек ня можа быць культурным“, заявіў адзін калгасьнік на перавыбарчым сходзе ў Халопеніцкім раёне.

Будаўніцтвам у калгасах ніхто ня кіруе, і яно праводзіцца часта без усякай арыентацыі на культурныя і санітарна-гігіенічныя запатрабаваньні. Трэба зараз-жа даць пэўныя паказаньні адносна розных тыпаў будынкаў.

Школы ў калгасах павінны ня толькі ліквідаваць няпісьменнасьць сярод калгасьнікаў, але таксама павінны зьявіцца арганізатарамі розных культурных пачынаньняў. Сумесна з камсамольцамі і актывам калгасаў яны павінны папулярызаваць і арганізаваць выпіску газэт і чытаньне іх, арганізаваць шэраг дакладаў і гутарак на актуальныя тэмы сацыялістычнага будаўніцтва, чаго мы да гэтага часу нідзе ня маем, хаця гэтымі пытаньнямі ў калгасах цікавяцца. У кожным калгасе трэба адчыніць клюб, хату-чытальню ці чырвоны куток і набыць бібліятэчку папулярнай мастацкай літаратуры і па калгаснаму будаўніцтву.

Там, дзе ёсьць ініцыятыва—зрабіць гэта ня цяжка. Вось адзін з прыкладаў. У в. Слабада (Грыцкаўскага с-с., Халопеніцк. р.) толькі што арганізаваўся калгас (80 гаспадарак на 2.000 *га*). У вёсцы ня было хаты-чытальні, амаль ня выпісаваліся газэты. Пасьля арганізацыі калгасу калгасьнікі зараз-жа адшукалі хату і прыстасавалі яе пад хату-чытальню, у лесе зарабілі 75 руб. на яе абсталяваньне і на 36 руб. выпісалі газэт і часопісаў. Гэта ўжо пэўнае дасягненьне калектыўнага жыцьця. Такое імкненьне да наладжваньня культурнага жыцьця мы маем і ў зусім маладым калгасе „Камінтэрн“ (Халопеніцкі р.), дзе калгасьнікі адчынілі чырвоны куток і арганізавалі ячэйкі (і куткі) Мопр'у, Асовіяхіму, „Прэч Няпісьменнасьць“. Зразумела, што гэта толькі першыя спробы ў справе культурна-асьветных мерапрыемстваў у калгасах. Гэту работу трэба пашырыць і паглыбіць. Калгасы, якія ўжо маюць пэўныя дасягненьні ў гэтых адносінах, павінны сваім вопытам падзяліцца на старонках часопісу „Шляхі Калектывізацыі“.

В. Самцэвіч.

---

## Яшчэ 80 кіраўнікоў для калгасаў

У вёсцы Скрыгалава, Мазырскай акругі, пры Палескай сельскагаспадарчай дасьледчай станцыі, Акркалгассаюз склікаў з шасьці раёнаў 80 асоб для падрыхтоўкі кіраўнікоў для калгасаў.



З акруговыя курсы кіраўнікоў калгасаў пры Палескай с.-г Дасьледчай Станцыі.

Курсы пачалі працу 20 сьнежня 1929 г. Курсанты ў час вучобы азнаёміліся з усімі с.-г. машынамі, у тым ліку з трактарамі, якія маюцца пры дасьледчай станцыі.

Як вынік курсаў, пасьля трохмесячнае вучобы, высьветлена, што можна скарыстаць 7 таварышоў у аб'ёме куста

41 „ кіраўнікамі калгасаў

11 „ намесьнікамі старшынь

16 „ па розных галінах с.-г. работы ў калгасах.

**Пятрыкавец.**

---

# Як у нас праходзіць калектывізацыя

*(Плешчаніцкі раён, Менск. акр.)*

У студзені гэтага году сяляне вёсак Жардзяжжа, Зарэчча і навакольныя Жардзянскія хутаранцы, Акалоўскага с.-с. у ліку 36 гаспадарак арганізавалі калектыў. На бліжэйшым-жа сходзе выклікалі на соц. спаборніцтва вёску Жасьцінае (у 60 двароў). Справе калектывізацыі вёскі вельмі дапамагла скліканая пры с.-с. нарада актыву сельсавету.

Нарада прайшла вельмі актыўна. Замест закліканых 50 актывістых, зьявілася каля 200 чалавек. Заўсёды трэба склікаць гэткія пашыраныя нарады актыву пры правядзеньні калектывізацыі вёскі. Яны многа даюць. Яны надаюць сілы, падымаюць бадзёрасьць і паказваюць вялікую важнасьць сац. перабудовы вёскі. Трэба толькі прыцягнуць да гэтае справы ўсе перадавыя і культурныя сілы вёскі, добра іх арганізаваўшы.

Цяпер у нас у Жардзяжжах у кожнай хаце і на кожным кроку толькі і гутаркі, што пра калгас. Пытаюцца як будзе тое, як іншае. Некаторые даюць свае парады, як лепей што зрабіць, іншыя баяцца розных кулацкіх чутак і г. д. Адным словам у вёсцы ўжо прайшоў пераломны момант (крызіс хваробы) у бок калектывізацыі. Вёска згадзілася з думкай, што калгаснае жыцьцё і праца непараўнальна лепш ранейшых. Трэба толькі вёску, якая перайшла ў калектыў не пакідаць бяз догляду. Патрэбен пільны і ўмелы догляд, а ў нас падчас гэтага няма. У такім разе пагражае небясьпека ў наладжваньні гаспадаркі і новага жыцьця ў калгасе.

Уся наша вёска запісалася ў калгас і на гэтым справа быццам скончана. Далей нічога ня робіцца, у той час як вёска вельмі чула рэагуе на розныя чуткі па справе з пасеўкампаніяй і жывёлай. Няма добрага догляду,—жывога партыйнага кіраўніцтва. Боязна, каб гэта справа не зацягнулася і не сарвалася.

Пасьля запісу ўсёй вёскі ў калгас, трэба зараз-жа абагуліць рабочую жывёлу, аб'яднаць насеньне. А між тым шмат сялян павезьлі ў млын ячмень на крупу, прадаюць жывёлу і нават ёсьць падазрэньне, што насеньне хаваюць і г. д. Тут гэта першыя вёскі, якія цалкам перайшлі ў калгас (в.в. Жардзяжжа, Зарэчча і хутары Жардзяжжа), а с.-с. мала цікавіцца гэтым. Яму няма часу. Па словах быўшага сакратара Акалоўскага с.-с. т. Жабко М., яму сельсавет даручыў перапісаць усю маемасьць і сабраць насенфонд у гэтых вёсках. Нічога ня робіцца. Гэта зацяжка на руку некаторым. Шмат чаго разбазарыцца, пакуль зьбяруцца абагуліць. Многія непакояцца аб гэтым. Тэрмінова трэба даць які-небудзь ратунак, каб вёскі, якія перайшлі ў калгас не заста-

ліся пад пагрозай небясьпекі ў справе замацаваньня новага калгасу. Трэба было-б арганізацыйна аформіць пераход вёсак у калгас, але ніхто гэтага ня робіць. Зрыў гэтай справы можа адбіцца на далейшай працы калектывізацыі вёсак сельсавета.

К. Петрачук.

---

## Праца застыла

У Папернянскім с.-с., Астрашыцка-Гарадзецкага раёну, Менскай акругі вялікі ўздым калгаснага руху, якім быў ахоплен увесь с.-с., не скарыстаны як сьлед, за выключэньнем 2-х вёсак. У сучасны момант гэты рух спыніўся, таму што праўленьні, за выключэньнем калгасу „Прагрэс“, Малінаўскага вучастку, нічога ня робяць, чакаючы прапаноў ад с.-с. А сельсавет таксама забыў, што ў яго калгасы не працуюць. Напрыклад, калгас „Чырвоны Курсант“, тут-жа побач з с.-с., насеньне абагуліў, а больш нічога ня робіць. Гэта адбіваецца на далейшым пашырэньні калгаснага руху ў Папернянскім с.-с.

Трэба с.-с. зрабіць наступнае: ува ўсе калгасы перадаць вопыт калгасу „Прагрэс“, дзе абагулена насеньне, с.-г. інвэнтар (машыны), рабочая жывёла і сабрана больш 200 руб. на трактар.

У калгасе „Прагрэс“ праўленьне добра ўзялося за працу, не чакаючы кіраўніцтва адкуль-небудзь. Для перадачы вопыту патрэбна склікаць нараду праўленьняў калгасаў і заслухаць справаздачу старшыні праўленьня калгасу „Прагрэс“ аб тым, як яны дасягнулі такіх посьпехаў, у праўленьні з іншымі калгасамі, якія арганізаваліся аднача-сова з ім.

Я. Новікаў.

---

## Пра калектывізацыю ў Ліпаўскім сельсавеце

*(Калінкавіцкі раён, Мазырскай акругі)*

У Ліпаўскім с.-с. арганізавалася 7 калгасаў, але-ж дапамогі гэтым калгасам няма. Брыгады, што вылучаліся, толькі рабілі аб‘езд вёсак, бралі зьвесткі аб колькасьці ўвайшоўшых сяброў у калгас, практычна-ж працы ніякай не вялі.

Колькі ня пісалі ў куст і РВК, карысьці мала. Нерашуча бяруцца за працу і самі калгасьнікі. Узяць для прыкладу хоць-бы падрыхтоўку да пасеўкампаніі: плугі не адрамантаваны, насеньне хоць і ачышчана, але вельмі дрэнна, абмену насеньнем няма, куст і РВК аб гэтым не клапоцяцца. Аграном адзін раз аб‘ехаў па калгасах, узяў статыстычныя зьвесткі і больш да гэтага часу ня быў. Ужо трэба рабіць усадзьбу, а як і што будаваць—невядома. Калгасьнікі гуляюць, працы няма. Іншым гэта нягода на руку, гэта тым, што жадаюць разбурыць калгас. Некаторыя калгасы самі парашылі адводзіць усадзьбу. Тут можа здарыцца небясьпека—ці добрае месца яны абралі. Трэба зьвярнуць увагу на адсталыя калгасы, дапамагчы ім.

Селькор Ткач.

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Палажэньне аб вытворчых нарадах у калгасах БССР

*Зацьверджана праўленьнем Белкалгасцэнтру 26 сакавіка 1930 г.*

### I. Задачы вытворчых нарад

1. Задачай вытворчых нарад калгасаў зьяўляецца ўцягненьне шырокіх мас калгасьнікаў і калгасьніц да актыўнага ўдзелу ў пабудове калектыўнай гаспадаркі, на падставе адшуканьня, распрацоўкі і абмеркаваньня мерапрыемстваў па рацыяналізацыі ўсёй гаспадаркі і паасобных яе галін, спэцыялізацыі гаспадаркі і павышэньня таварнасьці і прадукцыйнасьці працы, выхаваньня калгасьнікаў у духу сьвядомых адносін да калектыўнай вытворчасьці, прылад, машын і матар'ялаў, гаспадаркі, эканамічнага выдаткаваньня сродкаў, зьніжэньня сабекошту, скарыстаньня ініцыятывы і вынаходзтва калгасьнікаў, разгортваньня ў калгасе сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

### II. Арганізацыйная пабудова і склад вытворчых нарад

2. Вытворчыя нарады арганізуюцца ва ўсіх калгасах.

3. У калгасах, дзе ў паасобных галінах гаспадаркі (земляробства, жывёлагадоўля, гародніцтва, машынна-конныя станцыі, дапаможныя прадпрыемствы і г. д.) занята больш чым 10 асоб у кожнай, вытворчыя нарады арганізуюцца асобна ў кожнай галіне гаспадаркі.

4. Калі калгасы разьбіты на некалькі аддзяленьняў (эканомій), то ў кожным аддзяленьні (эканоміі) арганізуюцца асобныя вытворчыя нарады.

5. У буйных калгасах, дзе вытворчыя нарады складзены па асобных галінах гаспадаркі, а таксама па аддзяленьнях (эканоміях), склікаюцца агульна-калгасныя вытворчыя канфэрэнцыі.

6. Вытворчыя нарады пры калгасах складаюцца з:

а) актыўных калгасьнікаў і калгасьніц, а таксама з усіх жадаючых членаў калгасу;
б) спэцыялістых, тэхнічнага пэрсаналу калгасу;
в) прадстаўнікоў ад групы беднаты;
г) прадстаўнікоў ад праўленьня калгасу і кіраўнікоў паасобных галін;
д) асоб па спэцыяльным запрашэньні.

7. Акрамя непасрэднага калгаснага актыву да ўдзелу ў вытворчых нарадах павінны запрашацца прадстаўнікі вытворчых нарад: сельсавету, блізка прылеглых саўгасаў, фабрык, заводаў, саматужна-прамысловых арцеляй.

8. Агульна-калгасныя вытворчыя канфэрэнцыі буйных калгасаў складаюцца з:

а) членаў бюро вытворчых нарад, аддзяленьняў эканомій і паасобных галін гаспадаркі;

б) з прадстаўнікоў праўленьня калгасу і прадстаўнікоў паасобных галін гаспадаркі;

в) спэцыялістых і тэхнічнага пэрсаналу калгасу;

г) актыўнейшых калгасьнікаў і ўсіх жадаючых членаў калгасаў;

д) з прадстаўнікоў груп беднаты;

е) асоб па спэцыяльным запрашэньні.

## III. Зьмест працы вытворчых нарад

9. Зьместам працы вытворчых нарад калгасаў павінна зьяўляцца абмеркаваньне і тэхнічная прапрацоўка пытаньняў, выходзячы з задач, паказаных у § 1 гэтага палажэньня.

Арыентовачнае кола пытаньняў, якімі павінны займацца вытворчыя нарады, зьяўляецца наступным:

а) прапрацоўка арганізацыйна-вытворчых плянаў калгасу (як у цэлым, так і ў паасобных частках);

б) мерапрыемствы па эканомным выдаткаваньні грашовых сродкаў і матар'ялаў:

в) арганізацыя працы ў калгасе і паасобных галінах сельскай гаспадаркі і прамысловасьці;

г) рацыянальнае і поўнае скарыстаньне рабочай сілы і вылучэньне на адыходныя промыслы:

д) павышэньне прадукцыйнасьці працы і зьніжэньне сабекошту;

е) мерапрыемствы, якія спрыяюць і забясьпечваюць узьняцьце ўраджайнасьці і таварнасьці;

ж) спэцыялізацыя калгасу і разьвіцьцё новых галін;

з) пытаньні рацыяналізацыі і мэханізацыі гаспадаркі;

і) пляны новага будаўніцтва і рамонтных работ;

к) вынаходзтва калгасьнікаў і ўдасканаленьне паасобных працэсаў і відаў работ;

л) становішча і скарыстаньне цягавай сілы і іншай абагуленай маемасьці;

м) пытаньні сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва;

н) пытаньні арганізацыі кіраўніцтва, кантролю і ўліку вытворчасьці.

10. Вытворчыя нарады павінны зьяўляцца ініцыятарамі і арганізатарамі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарных мэтадаў працы (ударныя брыгады, ударныя галіны, ударныя калгасы), уцягваючы ва ўдарніцтва ўсю масу калгасьнікаў і калгасьніц на чале з батрацка-бядняцкім і партыйна-камсамольскім актывам.

11. Вытворчыя нарады павінны ўважліва вывучаць і заахвочваць ініцыятыву калгасьнікаў у справе падняцьця прадукцыйнасьці працы, стварэньня адпаведнага фонду праўленьня для прэміяваньня калгасьнікаў за каштоўныя прапановы, вынаходзтва і ўдасканаленьне вытворчасьці.

12. Вытворчыя нарады абмяркоўваюць пытаньні накіраваньня перадавых калгасьнікаў ударнікаў на розныя курсы калгассаюзаў і навучальныя ўстановы (рабфакі, ВНУ).

13. У мэтах абмену практыкай працы, вытворчыя нарады арганізуюць у вольныя ад працы часы экскурсіі ў суседнія саўгасы, калгасы, прадпрыемствы, наладжваючы з імі для гэтага сьціслую сувязь.

14. Вытворчыя нарады сумесна і пад кіраўніцтвам праўленьня калгасаў (праз вытворчую камісію) арганізуюць спэцыяльныя вытворчыя гурткі, школы і курсы па павышэньні вытворчасьці, кваліфікацыі і набыцьця тэхнічных ведаў калгасьнікамі.

15. Падлік праробленай працы вытворчых нарад вядзецца вытворчымі камісіямі.

## IV. Тэрмін склікалньня вытворчых нарад

16. Вытворчыя нарады склікаюцца праз вытворчую камісію ў вызначаныя плянам і ўзгодненыя з праўленьнем калгасу тэрміны.

17. Вытворчыя нарады па асобных галінах гаспадаркі і па аддзяленьнях калгасу зьбіраюцца ня менш разу ў месяц.

18. Агульна-калгасныя вытворчыя канфэрэнцыі ў буйных калгасах зьбіраюцца ў вольны ад палявых работ час, але ня менш разу ў 2 месяцы.

## V. Кіраўніцтва вытворчымі нарадамі

19. Агульнае кіраваньне вытворчымі нарадамі належыць праўленьню калгасу, якое практычна ажыцьцяўляецца праз вытворчую камісію, абіраную на вытворчай нарадзе ў складзе ад 3 да 7 асоб і зацьверджаную агульным сходам, альбо сходам упаўнаважаных, ці па іх даручэньні праўленьнем калгасу. Старшынёю вытворчай камісіі выбіраецца член праўленьня калгасу.

20. Вытворчая камісія выконвае абавязкі бюро вытворчай нарады, падрыхтоўвае парадак дня вытворчай нарады, які зацьвярджаецца праўленьнем калгасу, падрыхтоўвае прапановы і матар'ялы па пытаньнях, якія ўносяцца на разгляд вытворчых нарад, прапрацоўвае пастановы вытворчых нарад і сочыць за іх выкананьнем.

21. Вытворчыя нарады ня маюць права непасрэдна ўмешвацца ў адміністрацыйна-гаспадарчую дзейнасьць калгасу, а іх пастановы ўносяцца вытворчымі камісіямі на разгляд праўленьня калгасу, якое прымае канчатковыя пастановы.

Калі праўленьне калгасу ня згодна з угрунтаванымі прапановамі вытворчае нарады, то яны ўносяцца на разгляд агульнага сходу, ці сходу ўпаўнаважаных калгасу.

22. Праўленьне калгасу і вытворчая камісія павінны прымаць захады да ўцягненьня ў працу вытворчых нарад, да падрыхтоўкі прапаноў і правядзеньня іх у жыцьцё ўсіх актыўных калгасьнікаў, батрацка-бядняцкіх груп, партыйна-камсамольскага актыву і адміністрацыйна-тэхнічных працаўнікоў.

23. Плян працы вытворчых нарад распрацоўваецца вытворчай камісіяй, уносіцца на абмеркаваньне вытворчых нарад і канчаткова зацьвярджаецца праўленьнем калгасу.

24. Пры складаньні пляну, а таксама і ва ўсёй працы вытворчых нарад павінна прадугледжвацца ўстанаўленьне самай сьцілай сувязі і абмену практыкай з вытворчымі нарадамі сельсаветаў, навакольных саўгасаў, фабрык, ці заводаў, саматужна-прамысловымі арцелямі і асьвятленьне вынікаў і прыкладаў работы ў друку.

# Новыя ільготы калгасам

## Пастанова ЦК УсеКП(б)

*Ад 2 красавіка 1930 году*

**Калгасы атрымліваюць крэдыт 500 мільёнаў рублёў, вызваляюцца ад запазычанасьці, ня плацяць падатку на працягу 2 год за жывёлу, новыя плошчы гародаў і г. д.**

1. Прапанаваць ЦВК і СНК СССР:

а) вызваліць ад падатковага абкладаньня на 2 гады ўсю аграмаджаную рабочую жывёлу ў калгасах (коняй, валоў і г. д.);

б) вызваліць ад падатковага абкладаньня на 2 гады кароў, сьвіней, птушку і авечак, якія знаходзяцца як у калектыўным уладаньні калгасаў, так і ў індывідуальным уладаньні калгасьнікаў;

в) устанавіць для аграмаджаных гарадоў і гародных калгасаў 50-процантную скідку з устанаўленьнем для данага раёну норм прыбытковасьці гародных плошчаў. Плошчы, якія першы раз выкарыстоўваюцца пад гароды і гародныя калгасы, вызваліць ад абкладаньня с.-г. падаткам на 2 гады;

г) згодна гэтых рашэньняў адпаведна скараціць агульную суму с.-г. падатку на 1930—31 год.

2. Прапанаваць СНК СССР забясьпечыць поўнае выкананьне пастановы ЦК ад 5 студзеня па крэдытаваньні калгасаў у гэтым годзе ў разьмеры 500 мільёнаў рублёў. З мэтаю палепшаньня матар'яльнага становішча калгасаў:

а) пакрыцьце пратэрмінаванай запазычанасьці па крэдытах, якія прыпадаюць на гаспадаркі, што ўвайшлі ў калгас, а таксама пратэрмінаванай запазычанасьці, прынятай на сябе калгасамі ад сялян, што ўступілі ў калгасы,—растэрмінаваць да канца гаспадарчага году з пагашэньнем у адпаведнасьці з паступленьнем прыбыткаў ад паляводзтва і жывёлагадоўлі;

б) зьняць з калгасьнікаў запазычанасьць па зямляўпарадкаваньні, праведзеным да ўступленьня іх у калгасы;

в) зьняць усе штрафы і судовыя спагнаньні, зьвязаныя з невыкананьнем с.-г. падаткаў, нядоімак і г. д., накладзеныя да 1-га красавіка 1930 году на сялян, якія ўвайшлі ў калгасы;

г) збор паявых капіталаў і мэтавых укладаў у крэдытнае таварыства і каапэрацыю, ажыцьцяўляць толькі ў дабраахвотным парадку, забараніўшы існаваўшую ў шэрагу выпадкаў практыку прымусовых спагнаньняў;

д) забараніць існуючую ў некаторых раёнах практыку збору ўзносаў у касы ашчаднасьці ў прымусовым парадку;

е) лічыць законченым збор задаткаў на трактары ў сёлетнім гаспадарчым годзе;

ж) вызваліць калгасы ад выплаты даўгоў па канфіскаванай кулацкай маемасьці, якая пераходзіць ва ўладаньне калгасаў.

3. Прапанаваць НКГандлю забараніць браць па кантракцыйных дагаворах на ўбой цельных кароў з аднакароўных гаспадарак, якія ўваходзяць у калгас.

4. Прапанаваць Калгасцэнтру:

а) забараніць адлічаць у прыбытак калгасу ад заработкаў калгасьнікаў па-за калгасамі большы процант, чымся гэта ўстаноўлена законам, у адносінах прыбыткаў ад адхожых промыслаў (ад 3 да 10 проц. заработку) незалежна ад тэрміну і месца працы;

б) абавязаць праўленьні калгасаў ня чыніць перашкод калгасьнікам, якія жадаюць у вольны ад працы ў калгасе час, працаваць на аграмаджаных калгасных конях на ізвозных, лесазагатоўчых і іншых работах, прычым у гэтых выпадках устанавіць, што 40 проц. заработку калгасьніка ад такіх промыслаў застаецца за калгасьнікам у выпадку, калі ён карыстаецца прыналежным калгасу харчам, і 60—70 проц. у тым выпадку, калі ён харчуе каня сваім харчам.

5. Прапанаваць СНК СССР адмяніць усе супярэчныя гэтай пастанове рашэньні цэнтральных органаў.

---

## Конкурс на лепшы калгас па правядзеньні веснавой сяўбы

*Выпіска з пратаколу № 12 пасяджэньня праўленьня Белкалгасцэнтру ад 17 сакавіка 1930 г.*

**Слухалі:** Аб конкурсе на найлепшае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі.

**Пастанавілі:** 1. Абвясьціць конкурс паміж калгасамі БССР на найлепшае правядзеньне веснавой пасеўнай кампаніі гэтага году. Даручыць аргаддзелу ў тыднёвы тэрмін распрацаваць асноўныя палажэньні конкурсу. Прасіць газэту „Беларуская Вёска“ шырока папулярызаваць мэты і задачы конкурсу на сваіх старонках, а таксама высьвятліць самы ход конкурсу, які павінен праходзіць у парадку сацыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі.

2. Лічыць мэтазгодным стварыць пераходную ганаровую прэмію імя Калгасцэнтру і газэты „Беларуская Вёска“ тром калгасам, якія найлепш падрыхтуюцца і правядуць веснавую пасеўную кампанію. Прэміі наступныя: 1) ад Калгасцэнтру і газэты „Беларуская Вёска“— ганаровы штандар і трактар, 2) радыё з гучнагаварыцелем, 3) кіноперасоўка з адной зьменнай кіно-фільмай на адзін год.

Прасіць радыёцэнтр і Белдзяржкіно прыняць удзел у стварэньні другой і трэцяй прэміі.

3. У залежнасьці ад вызначэньня ў далейшым, у пасеўнай кампаніі будучых гадоў больш лепшых калгасаў, памянёныя ганаровыя прэміі могуць, згодна адпаведнай пастановы Калгасцэнтру, у выніку конкурсу, перадавацца ад адных калгасаў да другіх.

Старшыня Белкалгасцэнтру **Сьмірноў**.

---

# Умовы конкурсу на лепшы калгас па правядзеньні веснавой сяўбы

*Зацьверджаны Калгасцэнтрам БССР 5 красавіка 1930 г. (прат. № 16).*

## I. Мэты конкурсу

1) Конкурс на найлепшы калгас па падрыхтоўцы і правядзеньні веснавое сяўбы арганізуецца дзеля замацаваньня дасягнутых партыяй і савецкай уладай тэмпаў калектывізацыі шляхам поўнага выкананьня вытворчых плянаў калгасу, уцягненьня ўсёй масы калгасьнікаў, на чале з батрацка-бядняцкім і партыйна-камсамольскім актывам праз ударныя брыгады, у сацспаборніцтва

2) Мэтай конкурсу зьяўляецца правідловая арганізацыя працы і максымальнае скарыстаньне рабочай, цягавай сілы і інвэнтару, павялічэньне таварнасьці гаспадаркі шляхам яе спэцыялізацыі і абагуленьне сродкаў вытворчасьці, згодна ўставу.

## II. Тэрмін конкурсу

3) Конкурс пачынаецца з падрыхтоўчага да веснавое сяўбы часу і займае працяг веснавое сяўбы і канчаецца 1 чэрвеня.

4) Па асаблівым кліматычным умовам конкурс можа быць адтэрмінованы, але ня больш як на 2 тыдні.

## III. Парадак правядзеньня конкурсу

5) Кожны калгас, удзельнічаючы ў конкурсе, складае камісію дзеля падліку выкананых згодна умоў конкурсу запатрабаваньняў.

Камісія складаецца з прадстаўніка групы беднаты, прадстаўніка с/савету, прадстаўніка парт‘ячэйкі і агранома.

6) Камісія фіксуе мерапрыемствы конкурсу выкананыя калгасамі шляхам складаньня актаў, якія адсылаюцца ў Акркалгассаюз і апошнім публікуюцца ў друку.

7) Першатворныя матар‘ялы накіроўваюцца Акркалгассаюзам у сыстэматызаваным парадку ў Калгасцэнтр, дзе для праверкі матар‘ялаў арганізуецца група з прадстаўнікоў рэдакцыі „Беларуская Вёска“, прадстаўніка Белкалгасцэнтру, прадстаўніка ЦК КП(б)Б, ЦСПСБ і РСІ, якая шляхам выездаў на месцы высьвятляе атрыманыя матар‘ялы.

8) Праверaныя камісіяй і сыстэматызаваныя матар‘ялы перадаюцца конкурснаму журы пры ЦК КП(б)Б, якое вызначае адпаведныя прэміі.

9) Конкурс на лепшы калгас па правядзеньню веснавой сяўбы арганізуецца кожны год, а таму вызначаемыя тры прэміі па свайму характару зьяўляюцца пераходзячымі і перадаюцца кожны год лепшым калгасам.

10) Прэмій устанаўліваецца тры:

I-ая. Ганаровы штандарт Калгасцэнтру і газэты „Беларуская Вёска“ і трактар.

II-ая. Радыё-ўстаноўка з гучна-гаварыцелем.

III-я. Кіноперасоўка з аднэй зьменнай кінофільмай.

## IV. Умовы для атрыманьня прэміі

**1) Мінімум для ўдзелу ў конкурсе:**

а) сканчэньне пасеўнай кампаніі к 1 чэрвеня,

б) павялічэньне засеўнай плошчы на 25 проц. праз распрацоўку неабжытых вучасткаў і разам з гэтым павялічэньне ўраджайнасьці на 8 проц. у параўнаньні з мінулым годам,

в) пераход на шматпольле і правільная арганізацыя севазвароту,

г) контрактацыя ўсіх засеяных плошчаў цалкам,

д) пасеў выключна радавы, адсартаваным і пратручаным насеньнем,

е) абагуленьне сродкаў вытворчасьці, згодна статуту,

ж) арганізацыя ўдарных брыгад і ўцягненьне ў спаборніцтва ўсіх калгасьнікаў і калгасьніц,

з) увядзеньне тарыфікаванай зьдзельнай сыстэмы труда.

**Для атрыманьня III-й прэміі калгасы павінны выканаць памянёны мінімум і наступныя мерапрыемствы:**

а) арганізаваць машына-конную станцыю і забясьпечыць яе кармамі,

б) арганізаваць батрацка-бядняцкія групы і вытворчыя нарады; прытрымліваецца нормы выпрацоўкі,

в) правесьці спробны выезд у поле да пачатку сяўбы,

г) да пачатку сяўбы скласьці балянс працы і вылучыць адыходнікаў,

д) організаваць сэзонныя яслі на час веснавога севу.

**Для атрыманьня II-й прэміі патрабуецца выкананьне мінімуму ўмоў вызначаных для III-й прэміі і наступныя мерапрыемствы:**

а) правільнае разьмеркаваньне рабсілы,

б) максымальнае вылучэньне спэцыялістых-будаўнікоў у сэзонную прамысловасьць,

в) пашырэньне плошчы кармавых траў на 20 проц.,

г) арганізацыя сталых дзіцячых ясьляў.

**Першая прэмія прысуджана калгасам, выканаўшым усе патрабаваньні для атрыманьня II-й прэміі і наступныя мерапрыемствы:**

а) пасеў выключна гатунковым насеньнем,

б) пашырэньне плошчы культурных пасеваў на 30 проц.,

в) максымальнае ўцягненьне жанчын у працу калгасаў,

г) разьвіцьцё новых промыслаў (цагельні, смалакурні і розныя майстэрні),

д) пераход усяго калгасу да ўдарных форм працы з пераводам на бесьперапынны тыдзень.

# Адозва Саюзу Саюзаў і Калгасцэнтру СССР

## Рэспубліканскім, вобласным, краёвым, акруговым (кантонным) калгассаюзам і саюзам усіх сыстэм с.-г. каапэрацыі

ПАВАЖАНЫЯ ТАВАРЫШЫ!

Арганізацыя працы ў калгасе—правільная расстаноўка і скарыстаньне рабочай сілы ў вытворчасьці, мэтазгодна пабудаваная сыстэма аплаты і разьлікаў, забясьпечаньне строгай працоўнай дысцыплыны—зьяўляецца рашаючай праблемай калектыўнага руху. Гэта пацьвярджаецца першымі весткамі (данымі) аб вясеньнім севе, які праходзіць усюды з вялікім уздымам мае, аднак, у шэрагу месц наліччa сур'ёзных перабояў у арганізацыі вытворчасьці і асабліва ў скарыстаньні чалавечае працы.

Вось чаму Саюз Саюзаў с.-г. каапэрацыі і Калгасцэнтр СССР сумольна з рэдакцыямі „Социалистического Земледелия", „Крестьянской Газеты" і часопісі „Коллективист", спэцыяльнымі цэнтрамі с.-г. каапэрацыі (Хлебацэнтрам, Маслацэнтрам, Саюзам па гадоўлі жывёлы, ільнацэнтрам і інш.) і Трактарацэнтрам пастанавілі арганізаваць на старонках калгаснага і сялянскага друку *ўсесаюзны агляд арганізацыі працы ў калгасах.*

Асноўная мэта агляду—паказаць як сапраўды пастаўлена арганізацыя працы ў кожным калгасе, у кожнай МТС, выявіць вопыт лепшых калгасаў і МТС, перадаць гэты вопыт іншым калгасам, выкрыць недахопы і абмылкі, перагібы, парушэньні клясавай лініі, выявіць бюракратычныя скажэньні ў калгасным апараце, каб гэтым дапамагчы хуткаму ўхіленьню адмоўных зьяў і на вопыце лепшых гаспадарак навучыць рабоце кепскія, адстаўшыя.

Агляд зьяўляецца сродкам мабілізацыі ўвагі і волі калгасных мас вакол асноўных пытаньняў арганізацыі працы і павышэньня яе вытворчасьці, разьвіцьця сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах і ўцягненьня ў спаборніцтва самых шырокіх слаёў калгасьнікаў.

Паралельна агляду калгасаў пастаноўлена таксама правесьці *конкурс калгасьнікаў* на лепшае апісаньне арганізацыі працы ў калгасах.

Калгасы, прызнаныя на ўсесаюзным аглядзе лепшымі па арганізацыі працы, будуць прэміраваны з сродкаў спэцыяльнага ўсесаюзнага фонду (100.000 руб.), які створаны для гэтай мэты Калгасцэнтрам, Трактарацэнтрам і спэцыяльнымі цэнтрамі с.-г. каапэрацыі.

Для правядзеньня агляду створаны арганізацыйны камітэт пры Калгасцэнтры.

Саюз Саюзаў, кіраўніцтва Калгасцэнтру і аргкамітэт усесаюзнага агляду лічаць неабходным, каб *адначасна з усесаюзным аглядам былі праведзены мясцовыя (рэспубліканскія, краёвыя, вабласныя, акруговыя) агляды арганізацыі працы ў калгасах і конкурсы калгаскораў, на лепшае апісаньне работы калгасу.*

Мясцовыя агляды адбываюцца пад кіраўніцтвам Калгассаюзаў. Асноўныя ўстаноўкі гэтых аглядаў павінны быць тыя-ж, што і для ўсесаюзнага. Для практычнага правядзеньня аглядаў у мясцовым

маштабе павінны быць створаны асобныя камісіі ў складзе прадстаўнікоў Калгассаюзаў, саюзаў спэцыяльных сыстэм с.-г. каапэрацыі, мясцовага друку і саюзу сельгаслесрабочых.

Падкрэсьліваючы выключнае значэньне гэтай работы, мы просім вас зараз-жа прыступіць да яе. *Лічым неабходным папярэдзіць, што агляд не павінен абярнуцца ў парадны вархал і апісаньне знадворнага боку работы калгасаў.* Будучы сапраўды масавым агляд павінен быць разам з тым і строга дзелавым, каб дапамагчы калгасам у іх штодзеннай рабоце і сапраўды ўзорнай пастаноўцы арганізацыі працы ў кожнай калектыўнай гаспадарцы.

Старшыня Калгасцэнтру СССР **Юркін.**

Намесьнік Старшыні Саюзу Саюзаў **Гусьцін.**

---

# Пастанова Белкалгасцэнтру аб усесаюзным аглядзе арганізацыі працы ў калгасах

Для пасьпяховага правядзеньня агляду арганізацыі працы ў калгасах і конкурсу на лепшы допіс у друк, *Белкалгасцэнтр прапануе*:

1. Утварыць акруговыя і раённыя арганізацыйныя камітэты ў складзе: старшыні адпаведнага Калгассаюзу, прадстаўніка ад мясцовага друку, прадстаўнікоў усіх сыстэм сельска-гаспадарчай каапэрацыі, партыйна-камсамольскіх арганізацый і прафсаюзаў.
2. Папулярызаваць агляд-конкурс у мясцовым друку з прыцягненьнем да ўдзелу ўсёй грамадзкасьці.
3. Правесьці нарады з калгаскорамі, растлумачыць важнасьць конкурсу і значэньне агляду арганізацыі працы ў калгасах.
4. Прыняць належныя захады да ўцягненьня ўсіх калгасьнікаў і калгасьніц да ўдзелу ў аглядзе праз вытворчыя нарады і ўдарныя брыгады.
5. Увесь агляд праводзіць у парадку сацыялістычнага спаборніцтва пры шырокім разгортваньні самакрытыкі.
6. Аб ходзе агляду з дасылкай усіх матэрыялаў даводзіць да ведама Калгасцэнтру падэкадна, пачынаючы з 20 красавіка.

Агляд арганізацыі працы ў калгасах павінен ахапіць час веснавой сяўбы, касавіцы, зборкі і абмалоту ўраджаю і здачы хлебных лішкаў дзяржаве. Таму работа па правядзеньні агляду не павінна мець характар кавалерыйскага налёту, а павінна грунтавацца на пэўнай сыстэме пляну.

**Белкалгасцэнтр.**

---

## Асноўныя паказчыкі для прэміраваньня калектыўных гаспадарак

### I. Плянавасьць у рабоце

а) Складаньне прадуманага пляну скарыстаньня рабочай сілы і сродкаў вытворчасьці на падставе вытворчага пляну гаспадаркі.

б) Складаньне балянсу працы.

в) Ступень выкананьня плянаў і скарыстаньня рабочай сілы.

## II. Правідловае кіраўніцтва працай

а) Арганізацыя бюро працы.
б) Разьмеркаваньне абавязкаў паміж усімі працаўнікамі як кіруючымі, так і радавымі.
в) Правядзеньне ўсіх работ брыгадамі і правідловая арганізацыя брыгад.
г) Яснасьць і своечасовасьць выдачы нарадаў на работу.
д) Вытрыманы клясавы падыход пры прыцягненьні членаў калгасаў на калектыўныя работы.

## III. Працоўная дысцыпліна

а) Своечасовы выхад на работу і адсутнасьць прагулаў.
б) Добрасумленныя адносіны да працы і інвэнтару.
в) Хуткае і чоткае выкананьне распараджэньняў.

## IV. Арганізацыя зьдзельшчыны

а) Устанаўленьне нормаў выпрацоўкі для ўсіх сельска-гаспадарчых работ, праверка выкананьня іх і ўдасканаленьне на ходу.
б) Разьбіўка ўсіх работ на тарыфныя разрады ў залежнасьці ад складанасьці работы і кваліфікацыі, якая патрабуецца для выкананьня іх.
в) Своечасовая распрацоўка зьдзельных расцэнак на ўсе сельска-гаспадарчыя работы.
г) Пераводы ўсіх належных нармаваньняў работ на зьдзельшчыну.
д) Барацьба за якасьць.

## V. Вучот.

а) Своечасовыя запісы.
б) Своечасовы і правідловы разрахунак з членамі калгасу.

## VI. Утварэньне фондаў

а) Забясьпечаньне непрацаздольных.
б) Прэміраваньне за высокую якасьць работы.

## VII. Прыцягненьне грамадзкасьці

а) Прапрацоўка ўсіх пытаньняў арганізацыі працы на вытворчых нарадах (па галінах гаспадаркі, аддзяленьнях калгасу, агульна-калгасным).
б) Правядзеньне ў жыцьцё рашэньняў вытворчых нарад.
в) Правядзеньне сац. спаборніцтва па пытаньнях працы.
г) Разьвіцьцё ўдарніцтва.

## VIII. Адыходніцтва

а) Правідловы адбор для адыходніцтва членаў калгасу, маючых адпаведную кваліфікацыю, захаваньне клясавага напрамку пры адборы.
б) Падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых з калгасьнікаў і калгасьніц, для адыходу (пасылка на курсы і г. д.).
в) Заключэньне згод з прадпрыемствамі аб снабжэньні рабочай сілай і выкананьне гэтых згод.

# Абежнік

## Народных Камісарыятаў Працы і Земляробства БССР і Калгасцэнтру БССР

### „Пра забясьпечаньне сэзонных работ рабочымі кадрамі з ліку членаў калгасаў“

*Усім Акруговым Інспэкцыям Працы, Акрзу, Акруговым Калгассаюзам*

У мэтах забясьпечаньня сэзонных галін народнае гаспадаркі рабочай сілай і арганізаванага накіраваньня на работу адходнікаў з ліку сельскага насельніцтва, якое аб'яднана ў калгасы, Народныя Камісарыяты Працы і Земляробства і Калгасцэнтр прапануе:

1. Акруговыя Калгассаюзы павінны праз кіраўніцтва калгасамі правесьці:

а) падлік усіх членаў калгасаў, якія ў папярэднія годы працавалі ў будаўніцтве, па вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў, на торфараспрацоўках, на пагрузачна-разгрузачных работах, на лесараспрацоўках і лесасплаве і інш.;

б) падлік членаў калгасаў, якія могуць быць адпушчаны паасобнымі калгасамі з ліку асоб, раней не працаваўшых на сэзонных работах, забясьпечвае поўнае выкарыстаньне лішкаў рабочай сілы ў калгасах, улічваючы, каб адыход на промыслы ня быў меней 1929 г.

2. Акруговыя Інспэкцыі Працы ў 10-дзенны тэрмін пасьля атрыманьня даных па падліку павінны, на падставе плянаў забясьпечаньня паасобных сэзонных галін народнае гаспадаркі рабочай сілай, скласьці пры ўдзеле Акруговых Калгассаюзаў плян скарыстаньня падлічаных лішкаў раб. сілы, замацаваўшы за паасобнымі раёнамі і органамі, якія маюць патрэбу ў рабочай сіле, асобныя калгасы, маючыя гэтыя лішкі.

3. Праўленьні калгасаў павінны прадугледзіць у сваіх вытворчых плянах уход на заробкі членаў калгасаў у колькасьці, якая вызначаецца плянам скарыстаньня членаў калгасаў і скласьці адпаведныя брыгады па прафэсіям.

4. Безадкладна па складаньні плянаў скарыстаньня лішкаў рабочай сілы калгасаў—Акруговыя Інспэкцыі Працы павінны зараз-жа зрабіць згоды з Праўленьнямі Акркалгассаюзаў аб парадках і ўмовах пасылкі членаў калгасаў на работу.

Рабіць індывідуальныя згоды беспасрэдна з паасобнымі членамі калгасаў забараняецца.

5. На падставе дагавору Акркалгассаюзу з Акр. Інспэкцыяй Працы паасобныя гаспадарчыя арганізацыі і ўстановы, маючыя патрэбу ў рабочай сіле, альбо мясцовыя органы працы заключаюць лёкальныя дагаворы з паасобнымі калгасамі, да іх прымацованымі, аб парадку і ўмовах працы.

6. Члены калгасаў, замацаваныя за гаспадарчымі органамі, выклікаюцца ва ўстаноўленым парадку. У згодах павінны быць паказаны: а) колькасьць рабочых па паасобных прафэсіях і спэцыяльнасьцях, якія будуць пасланы з калгасаў у распараджэньне органаў працы; б) тэрмін адпраўкі; в) тэрмін, на працягу якога калгас павінен пасылаць рабочых на месцы работы; г) умовы праезду і працы і д) працяг сэзоннай працы.

7. Адпраўка на работу членаў калгасаў павінна рабіцца выключна па нарадах органаў працы. У нарадах павінны быць паказаны: а) колькасьць асоб, якія падлягаюць адпрацоўцы па паасобных прафэсыях і спэцыяльнасьцях; б) тэрмін і месца адпраўкі; в) месца вызначэньня з паказаньнем куды павінны зьявіцца накіраваныя.

За адпраўку членаў калгасаў па адпаведнай спэцыяльнасьці, згодна заключанай умове, нясе адказнасьць Праўленьне калгасу.

8. Праўленьне калгасу пасьля атрыманьня нараду на адпраўку сваіх членаў, павінна даць нарад тым членам, якія паводле падліку павінны быць накіраваны на работу. У гэтым нарадзе павінны быць паказаны тэрмін адпраўкі і месца збору. Невыкананьне нараду членамі калгасу зьяўляецца невыкананьнем статуту калгасу і выклікае адпаведныя вынікі.

9. Адкліканьне членаў калгасаў з сэзонных работ, якія робяцца ў дзяржаўных, каапэрацыйных прадпрыемствах, установах і гаспадарках да канца дзейнічаньня заключанай умовы, забараняецца.

10. Праўленьне калгасаў не пазьней як за 3 дні пасьля адпраўкі сваіх членаў на работу павінны паведаміць акруговыя інспэкцыі працы аб часе адпраўкі і колькасьці пасланых па паасобных прафэсіях і спэцыяльнсьцях.

11. З 15 красавіка па 1 лістапада 1930 г. Праўленьні калгасаў павінны паведаміць акруговым інспэкцыям працы 1-га і 15-га кожнага месяцу аб колькасьці асоб паасобных прафэсіях і спэцыяльнасьцях па будаўніцтву, якія яшчэ ёсьць у калгасе і могуць быць пасланы на работу.

12. Акруговыя інспэкцыі працы павінны весьці асобны падлік рабсілы, якая пасылаецца з калгасаў на сэзонныя работы. Адзін раз у месяц адпаведныя зводкі павінны пасылацца ў НКП БССР.

13. **Члены калгасаў, працуючыя на адходных промыслах і працах павінны адлічваць ад свайго штомесячнага заробку пэўны процант у непадзельны капітал калгасу. Разьмер гэтых адлічэньняў вызначаецца агульным сходам членаў калгасаў, залежна ад разьмеру фактычнага заробку кожнага члену на адходных промыслах у межах ад 2 да 10 проц. Парадак утрыманьня гэтых адлічэньняў павінен быць прадугледжан у заключаемых калгасамі дагаварох з адпаведнымі арганізацыямі і штомесячна ўносяцца апошнімі ў касу калгасаў. Сумы гэтых адлічэньняў павінны ў першую чаргу выкарыстоўвацца калгасамі на набыцьце трактарных абавязацельстваў, а таксама складаных і палепшаных машын і с.-г. інвэнтару.**

Наркампрацы БССР **Гнілякевіч.**

Замнаркамземляробства **Паніматка.**

Старшыня Калгасцэнтру **Сьмірноў.**

---

Адк. рэд. **П. Рачыцкі** Рэдактар—**Рэдкалегія**

**ЦАНА 40 КАП.**

ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

НА

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Часопіс соцыялістычнага земляробства і агранамізацыі насельніцтва.

Выданьне Наркамзему і Белкалгасцэнтру БССР.

ЧАСОПІС

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

**ставіць сваёй мэтай у папулярнай форме** адбіць шляхі калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

ЗАДАЧЫ ЧАСОПІСУ

## „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікоў калгассыстэмы, зямельным, агранамічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісу падвышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязаны з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў і перадавым актывам калгасаў і вёскі.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На год . . . . | 2 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў . . . | 1 р. 10 к. |
| На 3 м-цы . . . | 60 к. |
| Паасобны нумар . | 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% пры завербаваньні 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпішчыкаў. Замест грашовага адлічэньня зборшчык, які сабярэ 6 гадавых або 12 паўгадавых падпісак, можа быць залічан гадавым падпішчыкам часопісу.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў рэдакцыі.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 71, Н. К. З. Б**
**Тэлефон 17-15.**

Менск. друк. БДВ. Зак. № 1672. 12.000. (5 арк.) Галоўлітбел № 1745.